26 ліпеня 2019 | № 28 (639)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Калі б Гітлера забілі...

стар. 21

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

Наступны нумар газеты выйдзе **9 жніўня.**
Заставайцеся з намі!
Падпісвайцеся на «Новы Час» у аддзяленнях пошты і чытайце сайт
**NOVYCHAS.BY**



5 «МОЦНАЯ ДЗЯРЖАВА» І ТРАНСАКЦЫЙНЫЯ ВЫДАТКІ

Для «беларускай мадэлі», будаўніцтву якой 10 ліпеня споўнілася чвэрць стагоддзя, еўрапейскі манастыр заўсёды быў чужы. Але, як ні дзіўна, у гэтым адчужэнні маецца свой плюс

7–18 Літаратурная Беларусь

22–23 БАРАЦЬБА ЗА ФЕДЭРАЦЫЮ



# Дубль два?

## У Аляксандра Рыгоравіча з'явіўся ці канкурэнт, ці паслядоўнік



Сяргей ПУЛЬША

На выбарах ва Украіне ўпэўнена перамагла партыя Зяленскага. Паводле папярэдніх падлікаў, па партыйных спісах структура «Слуга народа» ўзяла больш за сотню месцаў у Вярхоўнай Радзе Украіны. Яшчэ каля дваццаці мандатаў атрымала партыя «Голас» Святаслава Вакарчука, па меркаванні палітолагаў — бліжэйшага хаўрусніка Зяленскага. На момант напісання матэрыялу невядомы былі вынікі па мажарытарных акругах. Але эксперты і там плануюць перамогу коміка.

Партыя Пятра Парашэнкі не дацягнула і да 10%, набраўшы крыху больш за 8% галасоў. Прыкладна столькі ж у «Бацькаўшчыны» Юліі Цімашэнкі. «Моцная апазіцыя» Зяленскаму, абяцаная былым прэзідэнтам, наўрад ці адбудзецца. Нават былыя «рэгіяналы», афіляваныя з Януковічам, набралі больш за 13%. Дэ-факта, зараз Зяленскі можа ці не аднаасобна фарміраваць урад. Такія вынікі даюць яму карт-бланш на любыя ініцыятывы.

Але ініцыятываў пакуль мала бачна. За адным выключэннем: падабенства Зяленскага з Лукашэнкам. Мы заўважалі, што ў Зяленскага і раней было даволі шмат ад маладога Лукашэнкі. Ён прарваўся ва ўладу на голым папулізме і сваёй папулярнасці як шоўмена. Напачатку, як і Лукашэнку, яго не ўспрымалі ўсур'ёз. Дый галасавала на прэзідэнцкіх выбарах Украіна не столькі за Зяленскага, колькі супраць Парашэнкі. Як і ў нас у 1994 годзе, калі галасавалі не за Лукашэнку, а супраць тагачаснага прэм'ера Кебіча. Што, дарэчы, пацвярджаюць лічбы выбараў у Вярхоўную Раду: калі прэзідэнт Зяленскі набраў 73% галасоў, то яго партыя — толькі 43%. Лічба, канешне, пераможная, але ўжо не так уражвае.

Стыль паводзінаў украінскага кіраўніка — што адзначаюць палітолагі — вельмі падобны да стылю Аляксандра Рыгоравіча. Замест таго, каб сесці за карпатлівую працу па адбудове эканомікі, «Зе» пачаў ездзіць па рэгіёнах і ладзіць публічныя разносы чыноўнікам.

Прычым, выезды кіраўніка Украіны і кіраўніка Беларусі на «сустрэчы з народам» фактычна ідэнтычныя. Кіраўнік краіны прыбывае на месца (бальніцу, будоўлю, аэрапорт), асабіста аглядае памяшканні, размаўляе з «простымі рабочымі». Пры гэтым можа адысці ад запланаванага маршруту і зазірнуць туды, дзе яго не чакалі. Напрыклад, наведваючы мяжу краіны ў Закарпацкай вобласці, Зяленскі зайшоў на склад, дзе абурыўся адсутнасцю святла.

Пасля агляду інфраструктуры праходзіць нарада, на якой кіраўнік разносіць мясцовую «вертыкаль». Зяленскі дзейнічае агрэсіўна, закідвае чыноўнікаў пытаннямі і незадаволена перабівае. Як і Лукашэнка, ён стаў часта пераходзіць на «ты». Затым аддаюцца загады (напрыклад, завяршыць будоўлю дарогі да 14 верасня), а некаторых чыноўнікаў абяцаюць звольніць ці ўвогуле пасадзіць за краты. Зяленскі з'язджае, а «разнесеныя» чыноўнікі застаюцца на месцах. Таму што Зяленскі папросту не мае над імі ўлады: паводле ўкраінскага заканадаўства, чыноўнікі альбо абіраюцца, альбо прызначаюцца — толькі не прэзідэнтам, а ўрадам.

Цяпер, з абраннем новай Вярхоўнай Рады і новага ўрада Украіны, усё зменіцца. Застаецца толькі чакаць, ці возьме Зяленскі на ўзбраенне стыль кіравання беларускага калегі.




Канешне, наўрад ці. Хутчэй, паводзіны Зяленскага можна патлумачыць тым, што ён — шоўмен. Ён майстар стварэння «карцінкі», а для народа няма лепшай «карцінкі», чым лупцаванне чыноўнікаў. І ўкраінцы ў гэтым не адрозніваюцца ад беларусаў. Неяк я быў у Чарнігаве адразу пасля маштабнага разносу Лукашэнкам кіраўніцтва ў Оршы ў мінулым годзе. Украінцы тады казалі: «Які малайчына ваш Бацька, усіх разагнаў!» Але адной «карцінкай» доўга не пражывеш. А нармальных ініцыятыў па адбудове эканомікі, барацьбе з карупцыяй, алігархатам і ўцямнай знешняй палітыкі ад Зяленскага пакуль не дачакаліся.

**Застаецца толькі чакаць, ці ўпадабае Зяленскі стыль кіравання беларускага калегі**

Ці зменіцца нешта ў адносінах Беларусі і Украіны ў выніку маштабнай «змены ўлады» ў апошняй? Наўрад ці. Украіне патрэбныя нашы энерганосьбіты і паліва. Нам патрэбны ўкраінскі рынак — толькі за студзень-травень гэтага года мы экспартавалі туды тавараў і паслуг амаль на паўтара мільярда долараў, а станоўчае сальда склала блізу 800 мільёнаў тых жа «зялёных».

Цікавая і прапанова Зяленскага правесці ў Мінску новыя мірныя перамовы па Данбасе з удзелам лідараў Расіі, Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі і ЗША — гэткі «нармандскі фармат плюс». Лукашэнка сустрэў гэтую ідэю з вялікім энтузіязмам. Падагравае сітуацыю тое, што днямі ў Мінску была дасягнутая прынцыповая дамоўленасць па абмене палоннымі: 69 грамадзян Украіны на 208 чалавек, якіх запытвае процілеглы бок.

Калі тое адбудзецца, маштабны «Мінск–3» з удзелам ЗША цалкам магчымы. Гэта дае Беларусі новы шанец. І не толькі ў тым, каб Лукашэнка зноў падносіў сусветным лідарам «каву вёдрамі» і абвяшчаў чарговы «знешнепалітычны прарыў». Паводле меркавання аглядальніка Юрыя Дракахруста, гэта можа сцішыць імперскія амбіцыі Расіі ў дачыненні да Беларусі. Не тое, каб нехта з высокіх гасцей кінецца на абарону незалежнасці Сінявокай, але ціснуць на «пераможную пляцоўку» — неяк не камільфо.

# БелАЭС дабудоўваць няма каму

**Дабудоўваць Беларускую АЭС няма каму: Міністэрства будаўніцтва рассылае па прыватных прадпрыемствах лісты, патрабуючы спецыялістаў, а «Расатам» возіць у Астравец «спецыялістаў» з так званых ДНР і ЛНР.**

Надобна на тое, запускаць АЭС будуць альбо са спазненнем, альбо з недаробкамі, што, мякка кажучы, не зусім добра. Затое на АЭС ужо амаль дабудаваная… капліца. Мабыць, каб было дзе маліцца за тое, каб «аб'ект» не рвануў.

Як паведамляе Тэлеграм-канал Nexta, працаваць на БелАЭС чамусьці няма каму. Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва рассылае лісты, патрабуючы дасылаць спецыялістаў на будоўлю атамнай станцыі. Адно такое «запрашэнне» за подпісам міністра Дзмітрыя Мікулёнка апублікаванае ў сеціве.

А «Расатам» возіць на будоўлю гастарбайтэраў з акупаваных раёнаў Украіны. Напрыклад, усю сістэму галоўных цыркуляцыйных трубаправодаў 1 і 2 энергаблокаў збіралі «спецыялісты» з так званых ДНР і ЛНР.

А 20 ліпеня каля 19:20 на АЭС адбылося чарговае надзвычайнае здарэнне. У яго трапіў аўтамабіль МНС. Пажарны МАЗ, які выязджаў са сваёй часткі на тэрыторыі БелАЭС на пажар у вёсцы Бярозаўка Астравецкага раёна, трапіў колам у правал асфальту і перакуліўся.

На запыце карэспандэнта Белсат інфармацыю пра інцыдэнт пацвердзілі ў МНС. Аднак ніякіх падрабязнасцяў у ведамстве паведаміць не захацелі: «Было дорожна-транспартное здарэнне, ніхто не пацярпеў».

**Паводле belaruspartisan.by**

# Мінск без сэлфі-палкі

**Тэлеканал CNN склаў спіс з 20 еўрапейскіх гарадоў, дзе «не даводзіцца прадзірацца праз натоўпы турыстаў з сэлфі-палкамі».**



Фота www.tut.by

У спісе паміж Тбілісі і Ерэванам апынуўся і Мінск. CNN адзначае, што Мінск, амаль цалкам разбураны падчас Другой сусветнай вайны, быў значна рэканструяваны ў часы СССР.

«Сёння будынкі горада дазваляюць зірнуць на дзіўную эру бруталізму, што сышла ў нябыт», — піша тэлеканал. Турыстам раяць ацаніць прастор плошчы Незалежнасці і наведаць Музей Вялікай Айчыннай вайны.

Барнае жыццё Мінска назвалі «легендарным», дзе заўсёды можна выбраць піва па душы, калі раптам не задаволіць смак мясцовага бальзаму.

Сярод іншых гарадоў у спісе — Аранж у Францыі, Норыдж у Англіі, Орхус у Даніі, Антверпен у Бельгіі, Гаага ў Нідэрландах, Сараева ў Босніі, Прышціна ў Косава, Мальмё ў Швецыі, Абердзін у Шатландыі, Берн у Швейцарыі, Вроцлаў у Польшчы, Тбілісі ў Грузіі, Ерэван у Арменіі, Клуж-Напока ў Румыніі, Дэбрэцан у Венгрыі, Анкара ў Турцыі, Плоўдзіў у Балгарыі, Тронхейм у Нарвегіі, Турын у Італіі.

**REFORM.by**

# Кодэкс аб шлюбе і сям'і перавядуць на беларускую ўжо ў гэтым годзе

**Першае пасяджэнне экспертнай рады па пытаннях перакладу заканадаўчых актаў на беларускую мову прайшло 23 ліпеня. Рада была створана пры Нацыянальным цэнтры прававой інфармацыі пасля «Вялікай размовы» Лукашэнкі 1 сакавіка.**

На пасяджэнні чальцы Рады вызначылі, якія кодэксы будуць перакладзеныя на беларускую мову ў гэтым годзе. Пачаць было вырашана з Кодэкса аб шлюбе і сям'і. Таксама ў гэтым годзе могуць быць перакладзеныя Выбарчы кодэкс і Грамадзянскі кодэкс, паведамляе Нацыянальны прававы інтэрнэт-партал.

У склад Рады ўваходзяць прадстаўнікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Палаты прадстаўнікоў, Міністэрства юстыцыі, Міністэрства культуры, Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі, Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў, вядучых беларускіх ВНУ і іншых арганізацый, у тым ліку недзяржаўных.

# У войска з язвай?

**Міністэрства абароны не адмовілася ад новаўвядзенняў у законапраект аб воінскай службе і паспрабавала растлумачыць іх неабходнасць.**



Фота www.utro.ru

Падчас спецыяльнай прэс-канферэнцыі прадстаўнікі ведамства непапулярныя сярод моладзі меры патлумачылі клопатам пра маладых. Ці пераканала гэта тых, хто не хоча пачынаць свой дарослы жыццёвы шлях з казармы?

Прызыў у войска пачнецца па старых правілах. Аляксандр Лукашэнка падпісаў дакумент, згодна з якім восеньскія мерапрыемствы па прызыву пачнуцца з 1 жніўня. А потым падпісаў і папраўкі ў вайсковы закон, што змяняюць правілы адтэрміноўкі ад войска для навучэнцаў ВНУ. Яны набываюць моц праз 10 дзён пасля апублікавання. Прычым, зваротнай сілы закон не мае.

Таму ваенкаматы пяройдуць на новыя ўмовы працы «да лістапада», патлумачылі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі ў Доме Масквы. У войска цяпер адпраўяцца 10 тысяч навабранцаў.

«Для таго, каб нам гэтую лічбу набраць, мы мяняем заканадаўства і скасоўваем адтэрміноўкі. Гэта трэба, каб вызваліць неабходны прызыўны рэсурс», — заявіў Андрэй Мурашоў, кансультант Генеральнага штаба.

Гэты рэсурс — колькасць маладых людзей прызыўнога ўзросту — паводле Мінабароны, за дзесяцігоддзе скараціўся амаль удвая. У мінулы восеньскі прызыў праз ваенныя камісіі прайшлі толькі 70 тысяч хлопцаў і дзяўчат. Каля 27 тысяч з іх атрымалі адтэрміноўкі з мэтай працягнуць адукацыю. Зараз, на думку міністра Раўкова, такіх адтэрміновак стане на 4 тысячы менш.

«З-за дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне — і ўвогуле з-за эканамічнай сітуацыі, — у нас якасць і колькасць прызыўнікоў не павялічваецца, а памяншаецца. Адпаведна, зніжаюцца патрабаванні да прызыўніка», — тлумачыць Дзмітрый Міцкевіч, аналітык Belarus Security Blog.

Ахвярай зніжэння такіх патрабаванняў стаў жыхар Гродна Мікіта Балоцін. У мінулым годзе яго прызвалі ў армію, праігнараваўшы дыягназ — язву дванаццаціперснай кішкі.

«Я запісаўся на прыём у абласны ваенкамат, каб высветліць сітуацыю з нагоды дыягназу. На гэта я атрымаў адказ, што змяніліся законы, і маё захворванне больш не з'яўляецца актуальным, каб атрымаць адтэрміноўку ці быць прызнаным непрыдатным для службы. Таму я павінен ісці на тэрміновую ваенную службу», — распавядае Мікіта Балоцін.

Ва ўрачоў вайсковай часткі было іншае меркаванне. Даведаўшыся пра дыягназ хлопца, тыя накіравалі яго на паўторнае абследаванне і камісавалі. Зараз Мікіта дамагаецца кампенсацыі праз суд. «Я страціў паўгода жыцця там, дзе не павінен быў апынуцца. Я страціў працу, а працу я цяпер знайсці не магу. Хтосьці павінен за гэта адказаць», — лічыць малады чалавек.

«Хлопец без вышэйшай адукацыі, з небагатай сям'і, у якога не хапіла сувязяў і рэсурсаў, каб ухіліцца ад войска», — такі партрэт навабранца малюе аналітык Belarus Security Blog Дзмітрый Міцкевіч. У большасці ваенных частак такі сярэдні навабранец будзе не столькі спасцігаць ваенную навуку, колькі фарбаваць бардзюры і згрэбаць лісце. Але пераводзіць армію на прафесійныя рэйкі, на думку эксперта, — не выйсце.

«Прыклад увядзення прафесійнага войска ў нашым рэгіёне — гэта Украіна, дзе ў 2014 годзе аказалася, што папросту няма каму абараняць краіну. Так яны вельмі хутка зразумелі, што гэта не працуе, і вярнуліся да прызыўной арміі. Наша суседняя Літва таксама вярнулася да прызыўной арміі», — прыводзіць ён прыклады.

Аднак нават ва Украіне, у якой ідзе вайна, абараняць радзіму па-сапраўднаму вучаюць кантрактнікі, зазначае кіеўскі ваенны эксперт Алег Жданаў. Прызыўнікі, як за савецкім часам, займаюцца гаспадарчымі працамі. «Яны не фарбуюць траву — такога маразму ўжо даўно няма. Яны не складаюць снег у кубікі. Але яны забяспечваюць усё. Таму гэта, напэўна, самы цяжкі від службы на сёння», — мяркуе ён.

**Паводле belsat.eu**

# Лічба, пасля якой усім добра

Вераніка БЯЛОВА

**Міністр эканомікі агучыў, якую зарплату нельга плаціць беларусам. Але з гэтай прамовы вынікае некалькі несуцяшальных высноваў.**

«Заробак 400 рублёў пры наяўнасці сям'і недапушчальны», — заявіў міністр эканомікі Дзмітрый Круты ў эфіры праграмы «Галоўны эфір». Ён распавёў, што па выніках пяці месяцаў у краіне засталося 87 арганізацый, дзе плацяць менш за 400 рублёў.

«Такіх прадпрыемстваў, дзе заработная плата менш за 400 рублёў, у нас было 207 па краіне, — паведаміў Дзмітрый Круты. — Па выніках пяці месяцаў засталося 87 такіх арганізацый. Гэта значыць, па сутнасці, мінус 120 мы маем на бягучы момант. Аператыўны маніторынг паказвае, што па паўгоддзі іх застанецца не больш за дзесяць».

З гэтай заявы міністра можна зрабіць як мінімум тры высновы.

Па-першае, улады ганарацца праведзенай працай. Хаця беларусам яшчэ ў траўні паабяцалі, што да 1 ліпеня ў краіне не застанецца прадпрыемстваў, дзе сярэдні заробак недацягвае да 400 рублёў. З чаго вынікае другая выснова — пастаўленую задачу ўрад выканаць не здолеў.

А па-трэцяе, калі ўлады ніяк не могуць забяспечыць узровень, пражыванне ніжэй за які самі ж лічаць «недапушчальным», разлічваць на зарплату «па 500 долараў у эквіваленце кожнаму» ў найбліжэйшай будучыні дакладна не даводзіцца.

Зрэшты, многія беларусы зарплату ў 400 рублёў наогул лічаць добрай. Жыхары рэгіёнаў часта прызнаюцца, што пра такія грошы могуць толькі марыць.

Вось што распавяла ў інтэрв'ю Intex-press швачка аднаго з баранавіцкіх прадпрыемстваў: «У мінулым месяцы я атрымала 440 рублёў і лічу, што гэта нядрэнная зарплата для майго стажу. Таму пра іншую працу не думаю. У мужа заробак на заводзе меншы за мой, але і ён не спяшаецца сыходзіць, пакуль не знойдзе нешта лепшае», — зазначае жанчына. І распавядае, як ім жывецца: «Лічым кожны рубель, але я не магу сказаць, што мы жывем бедна. Хутчэй, сціпла. Асноўны артыкул выдаткаў — купля прадуктаў. Калі б не сын, мы маглі б абысціся без мяса ці садавіны…»

З гэтага маналогу таксама можна зрабіць, як мінімум, тры высновы. Па-першае, што 400 рублёў зарплаты — зусім не рэдкасць, як нам падаюць улады, а самая што ні на ёсць рэальнасць для многіх беларускіх сем'яў.

Па-другое, тое, што ва ўрадзе называюць «недапушчальным узроўнем», самі беларусы лічаць «нядрэнным заробкам», таму што ведаюць: бывае і горш.

А па-трэцяе, пакуль яны будуць так лічыць, — моўчкі, выгадваючы, дзе б тут яшчэ зэканоміць, такая сітуацыя будзе яшчэ вельмі доўга.

**Gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Таты ў дэкрэце і ахвяры дзяржпланаў

Таццяна ШАПУЦЬКА


Фота www.nokta.md

**Беларусь стала на крок бліжэй да Еўропы: нарэшце татам дазволілі па нараджэнні дзіцяці сыходзіць у дэкрэт, каб дапамагчы маладой маме асвоіцца ў сваім новым статусе. Праўда, без аплаты і ўсяго на два тыдні, але гэта лепш, чым нічога. Будзем лічыць, што пачатак пакладзены, і надалей айчыннае заканадаўства ў сферы сямейных стасункаў будзе ўдасканальвацца ўсё больш і больш.**

Акрамя гэтага дазволу, у Працоўны кодэкс дадалі больш за 200 іншых правак. Абноўлены дакумент ужо падпісаны кіраўніком дзяржавы. Сярод новага — узаконены панятак «дыстанцыйнай працы». Можна працаваць хоць загараючы на пляжы, хоць збіваючы ногі ў гарах, хоць пагружаючыся з аквалангам на марское дно — і пры гэтым лічыцца такім жа супрацоўнікам кампаніі, як і той, хто цэлы дзень сядзіць у офісе, у тым ліку — атрымліваць «сацпакет». Паправілі і норму датычна працы па сумяшчальніцтве. Калі ў вас працяглы адпачынак, а столькі дзён адпачываць не хочацца ці няма грошай — можна будзе кудысьці ўладкавацца на падпрацоўку на поўны дзень. Дагэтуль працаваць па сумяшчальніцтве можна было толькі паўдні, што не вельмі зручна. Парламентары кажуць, што гэтая папраўка найбольш патрэбная настаўнікам, у якіх адпачынак цягнецца амаль 2 месяцы. Безумоўна, такая магчымасць — гэта добра. Але яшчэ лепш — каб за падпрацоўку і добра плацілі. Гледзячы па тым, як пасярэднікі актыўна запрашалі беларускіх настаўніц збіраць польскія клубніцы ў чэрвені, і які быў ажыятаж — там усё ж плацяць лепш. Абноўлены кодэкс дазваляе і ездзіць у камандзіроўкі ды выходзіць на працу ў выходныя і святы жанчынам з дзецьмі да трох гадоў. Раней гэта было забаронена, нават калі жанчына сама выказвала жаданне дадаткова зарабіць, і ёй было з кім пакінуць дзяцей на час працы.

Пакуль парламентары займаюцца ўдасканальваннем працоўнага заканадаўства, айчынная міліцыя таксама не спіць у шапку і шукае верагодных злачынцаў. Да такіх залічылі няшчаснага ахоўніка беларускай чыгункі з Барысава, які дзеля выканання планаў падрабляў пастановы са штрафамі і сам жа іх аплочваў. Схема такая: 55-гадовы супрацоўнік ваенізаванай аховы БЧ праводзіў прафілактычныя гутаркі з дробнымі парушальнікамі закона — напрыклад, з тымі, хто паліў альбо ўжываў алкаголь на вакзале. Даведаўшыся іх дадзеныя, ахоўнік уносіў звесткі ў пастановы пра адміністрацыйнае спагнанне быццам бы за пераход чыгуначных шляхоў у недазволеных месцах. Сітуацыя сюррэалістычная: не маючы на сваім участку адпаведных парушэнняў, супрацоўнік аховы складаў «ліпавыя» пратаколы, каб яго не пакаралі за невыкананне плана па прафілактыцы траўматызму на аб'ектах транспарту!

**Гісторыі ахоўнікаў выклікаюць толькі спачуванне, а вось дзеянні іх кіраўнікоў — абурэнне. Крымінальныя справы трэба заводзіць менавіта на кіраўніцтва, якое правакуе супрацьзаконныя ўчынкі**

Гэта не першы такі выпадак у Барысаве, і гледзячы на папярэднюю гісторыю, калі калегу ахоўніка пакаралі двума гадамі зняволення з адтэрміноўкай, гэтага таксама чакае дастаткова суворае пакаранне. Што цікава, у інтэрнэт-карыстальнікаў гісторыі абодвух ахоўнікаў выклікаюць толькі спачуванне, а вось дзеянні іх кіраўнікоў — абурэнне. Маўляў, крымінальныя справы трэба заводзіць менавіта на кіраўніцтва, якое правакуе супрацоўнікаў на падобныя супрацьзаконныя ўчынкі. Але думаецца, што і тое кіраўніцтва павінна выконваць планы, пастаўленыя вышэйшым кіраўніцтвам. І вышэйшаму кіраўніцтву дае планы яшчэ вышэйшае — і так да самага верху. І пакуль не пераломіцца гэтая сістэма, хлусню і фальсіфікацыі на ўсіх узроўнях вертыкалі не вынішчыць.

Айчынны «Мотавелазавод» спрабуе заняць нішу на рынку байкшэрынгу. Пакуль у гэтым сегменце ў Беларусі працуе толькі адна прыватная кампанія — «Колабайк», і тое літаральна некалькі месяцаў, ды толькі ў Мінску. Нягледзячы на шэраг выпадкаў вандалізму да пракатных ровараў, праект паказаў сваю запатрабаванасць. «Мотавелазавод» вырашыў не губляць магчымасці рэінкарнавацца ды разам з партнёрамі абяцае запусціць шэрынг пад назвай Velosmart у Мінску, Брэсце, Гродне ды расійскіх гарадах. Адрозненне новага сэрвісу ад «Колабайка» не толькі геаграфічнае: ровары «Колабайка» можна пакідаць дзе заўгодна, хоць у двары шматпавярховіка, а вось Velosmart прадугледжвае наяўнасць стацыянарных станцый. Па-першае, карыстальнік заўжды будзе ведаць, дзе можна ўзяць ровар, а па-другое, ровары не будуць валяцца паўсюль, дзе толькі можна, замінаючы мінакам ды аўтамабілям. Але гэта як перавага, так і недахоп. Сталічныя ўлады пакуль не вельмі жадаюць выдзяляць гарадскія плошчы пад роварныя станцыі, таму праект спачатку стартуе ў рэгіёнах ды Расіі — там ініцыятарам сэрвісу ідуць насустрач і з ахвотай даюць месцы пад станцыі. Паколькі ровар — гэта гарадскі транспарт будучыні, кошт гадзіны байкшэрынгу будзе прыроўнены да кошта разавага талончыка на гарадскі транспарт — каля 60-65 капеек. Цяпер «Мотавела» чакае спрыяння ўрада, які можа дапамагчы спрасціць працэдуру выдачы зямлі пад станцыі. Шкада ўсё ж, што кіраўнік дзяржавы — хакеіст, а не равaрыст. А то, глядзіш, ужо б і запусціліся.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Дзмітрый Серада



**Суд Партызанскага раёна Мінска 23 ліпеня агучыў рашэнне па скарзе мінскага лекара-педыятра Дзмітрыя Серады на пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў.**

Нагадаем, раніцай 4 жніўня 2016 года ў кватэру Серады, выбіўшы ўваходныя дзверы і шкло ў дзверы на гаўбец, уварваліся невядомыя ў масках, паклалі яго тварам у падлогу, заламалі рукі за спіну, надзелі кайданкі і, працягнуўшы збіваць у спецаўтатранспарце, даставілі ў РУУС Заводскага раёна Мінска.

Затрыманы быў дапытаны ў якасці падазраванага ў хуліганстве і праз суткі — адпушчаны. Бо ў следчага «адпалі падставы для далейшага ўтрымання яго пад вартай».

На працягу трох гадоў Дзмітрый Серада атрымаў сем адмоваў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы за перавышэнне службовых паўнамоцтваў асобамі, якія праводзілі затрыманне. Ні кампенсаваць матэрыяльны ўрон за зламаныя дзверы і выбітае шкло ў дзверы на гаўбец у памеры 1862,28 рубля, ні маральную шкоду, ацэненую маці заяўніка ў 100 тысяч рублёў, ні прасіць прабачэння міліцыянты Заводскага РУУС не збіраюцца. Маўляў, шкода, нанесеная грамадзяніну супрацоўнікамі ўнутраных органаў, падлягае кампенсацыі толькі тады, калі дзеянні (ці бяздзейнасць) супрацоўнікаў гэтых органаў былі прызнаныя незаконнымі. Праверкі ж не выявілі «незаконнасці» дзеянняў АМАПу пры ўварванні ў кватэру Серады, а пракуратурай не было атрымана дастаткова дадзеных, якія паказваюць на наяўнасць у дзеяннях супрацоўнікаў АУС прыкметаў злачынства.

Суд пастанавіў скаргу Дзмітрыя Серады задаволіць, пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў АУС адмяніць, а матэрыялы адправіць на дадатковую праверку.

## Манфрэд Хутэрэр



**Новым надзвычайным і паўнамоцным паслом ФРГ у Беларусі будзе Манфрэд Хутэрэр. Дыпламата з нагоды ўручэння ім копій даверчых грамат прыняў у Мінску міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей.**

Міністр павіншаваў Манфрэда Хутэрэра з прызначэннем. Макей выказаў надзею на далейшае ўмацаванне беларуска-германскага дыялогу на ўсіх узроўнях, а таксама запэўніў у падтрымцы беларускім бокам узаемавыгадных ініцыятыў у розных сферах.

У пасольстве Германіі Манфрэд Хутэрэр змяніў Петэра Дэтмара, які завяршыў сваю дыпмісію ў Беларусі. Хутэрэр — спецыяліст па Усходняй Еўропе. Ён вывучаў гэты рэгіён у Мюнхенскім універсітэце, а ў Міністэрстве замежных спраў ФРГ доўгі час кіраваў 205-м аддзелам, які займаецца пытаннямі Расіі, Украіны, Беларусі, Малдовы, СНД і адносінамі ЕС з краінамі Усходняй Еўропы.

## Аляксей Грышын



**Яшчэ адзін беларускі спартовец, чэмпіён Алімпіяды ў Ванкуверы 2010 года, выставіў свае ўзнагароды на аўкцыён.**

Медалі Аляксея Грышына прадаюцца на сайце RR Auction. Па стане на 18 ліпеня за золата давалі 31 тысячу долараў, за бронзу — 15,5 тысячы долараў. Як патлумачыў спартсмен, гэтую амерыканскую пляцоўку ён абраў таму, што там актыўна прадаюць з аўтографамі і медалямі.

Грышын не хацеў, каб яго рашэнне прадаць алімпійскія медалі было агучана ў прэсе, аднак пасля агалоскі патлумачыў: «Прычына — аднаму майму блізкаму чалавеку патрэбная сур'ёзная аперацыя, і для яе трэба вельмі вялікія грошы. Іншай магчымасці дапамагчы яму, акрамя як прадаць медалі, у мяне, на жаль, цяпер няма. Усе выручаныя грошы пойдуць на лячэнне. Я не хацеў піярыцца на тым, што дапамагаю яму. Калі б гэта быў піяр, я б назваў яго дурным», — сказаў чэмпіён парталу tut.by.

«Для мяне жыццё чалавека больш важнае за медалі. Медаль — гэта ўсяго толькі метал», — падкрэсліў Грышын.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# «Моцная дзяржава» і трансакцыйныя выдаткі

**Са сваім статутам у чужы манастыр не ходзяць. Для «беларускай мадэлі», будаўніцтву якой 10 ліпеня споўнілася чвэрць стагоддзя, еўрапейскі манастыр заўсёды быў чужы. Але, як ні дзіўна, у гэтым адчужэнні маецца свой плюс.**




У чужым манастыры не мае сэнсу качаць правы. У тых, хто пераступіў парог манастыра, выбар невялікі: або пакорліва пагадзіцца з мясцовым статутам, або развярнуцца праз левае плячо і не спрабаваць ні сабе, ні іншым тлуміць галаву расповедамі пра ўласную самабытнасць.

Паводле такога ж прынцыпу вось ужо 25 гадоў і ўзаемадзейнічае «беларуская мадэль» з краінамі Еўрасаюза. Зразумела, не ўся мадэль, а толькі яе эканамічны блок. Яна ім — нафтапрадукты, калійныя ўгнаенні і драўніну. Яны ёй — апараты сувязі, вылічальныя машыны і лекі.

Вы калі-небудзь чулі пра прэтэнзіі з боку еўрапейцаў да якасці беларускіх угнаенняў? А колькі разоў за апошнія гады ўздымаўся шум з-за нібыта рээкспарту расійскай драўніны? У тым і справа.

Іншая рэч — так званая Саюзная дзяржава. Яе нядоўгая гісторыя — гэта гісторыя беспарапынных гандлёвых войнаў: нафтавых, газавых, малочных... За прыкладам далёка хадзіць не трэба. 9 ліпеня адзіны палітык (АП) сустрэўся з дзяржаўным сакратаром Саюзнай дзяржавы Рыгорам Рапотам. Абмяжуюся адной цытатай, запазычанай з афіцыйнага прэс-рэлізу: «Трэба вырашаць і бягучыя пытанні, якіх у нас з Расіяй нямала. Напрыклад, у нас сёння каля 80 прадпрыемстваў закрытыя Рассельгаснаглядам ці нейкім там органам у Расіі, а можа быць, і ўрадам. Хутчэй за ўсё, урадам. Закрытыя да паставак нашай прадукцыі ў Расію. Прытым паводле надуманых падстаў».

Сур'ёзнае абвінавачванне. Але адкуль яго ногі растуць? Магчыма, адказ на гэта пытанне хаваецца ў статуце Саюзнай дзяржавы? У два клікі знаходжу дакумент у інтэрнэце: «Расійская Федэрацыя і Рэспубліка Беларусь, кіруючыся воляй народаў да аб'яднання дзвюх дзяржаў, утварылі Саюз Беларусі і Расіі».

Чытаю і перачытваю. Няўжо ўся справа ў волі народаў, у іх імкненні да аб'яднання!

### Там і тады, дзе і калі

Сучасныя еўрапейскія дзяржавы — прадукт буржуазных рэвалюцый. У савецкай школе і ў савецкім універсітэце мне падрабязна тлумачылі, што мэта такіх рэвалюцый палягала ў пераходзе ўлады з рук дваранства ў рукі буржуазіі. Для эксплуатаваных жа класаў пры гэтым нічога прынцыпова не мянялася. Пра буржуазныя ж правы і свабоды калі і згадвалася, то мімаходзь.

Паспрабую запоўніць прабел з дапамогай простага прыкладу. Скажам, нехта Сміт вырашыў выбрабляць дзіцячыя цацкі. Зразумела, што без пастаўшчыкоў матэрыялаў, камплектуючых, электраэнергіі і да таго падобнага яму не абысціся. З кожным з іх Сміт будзе заключаць дамовы пра пастаўкі.

А цяпер крыху арыфметыкі. Калі верагоднасць невыканання асобна ўзятай дамовы роўная 1%, то пры наяўнасці 100 пастаўшчыкоў у прадпрыемства Сміта будуць пастаянна ўзнікаць праблемы з выкананнем абавязацельстваў перад спажыўцамі (аптавікамі і крамамі). Апошнія стануць патрабаваць выплаты няўстоек.

Каб мінімізаваць магчымыя страты ад прэтэнзій спажыўцоў, Сміт у дамовы пастаўкі ўключыць пункт, які прадугледжвае штрафныя санкцыі за неналежнае выкананне абавязацельстваў пастаўшчыкамі, і пры неабходнасці запатрабуе іх выканання праз суд.

Але суд — гэта дзяржаўная структура. Тут без цытавання Леніна не абысціся: «Гісторыя паказвае, што дзяржава як адмысловы апарат прымусу людзей узнікала толькі там і тады, дзе і калі з'яўляўся падзел грамадства на класы — значыць, падзел на такія групы людзей, з якіх адны пастаянна могуць прысвойваць працу іншых, дзе адзін эксплуатуе іншага».

З класікам не паспрачаешся, але гэта не забараняе сфармуляваць пытанне: «На баку якога класа выступіць суд, калі прыме пазоў Сміта супраць нядбайнага пастаўшчыка?»

### Пяцігразовая розніца!

Пераход ад статыкі феадалізму да дынамікі капіталізму не ў апошнюю чаргу стаў магчымы дзякуючы пераходу ад саслоўнага права да права буржуазнага — гэта значыць, да права ўніверсальнага, перад якім усе роўныя. Наяўнасць такога пераходу пацвярджае практыка. Калі б Сміт не меў магчымасці знайсці падтрымку ў судзе супраць сваіх калегаў, то не магла б устойліва функцыянаваць і вытворчасць, для якой неабходны сотні пастаўшчыкоў.

Безумоўна, важнай характарыстыкай сучаснай дзяржавы з'яўляецца манаполія на гвалт. Тым яна прынцыпова адрозніваецца ад дзяржавы феадальнай з яе прыватнымі войскамі і судамі. Але калі сваім манапольным правам дзяржава карыстаецца выбарачна, напрыклад, калі прымае ў судах рашэнні на карысць сацыяльна блізкіх ёй ці на карысць тых, хто здольны больш заплаціць, то ў такой дзяржаве ніколі не паўстануць складаныя вытворчасці.

Калі хто сумняваецца, рэкамендую прачытаць кнігу бацькі сінгапурскага цуду Лі Куан Ю «Сінгапурская гісторыя: з «трэцяга свету» — у «першы» (1965–2000)». Кнігу можна знайсці ў інтэрнэце. З чаго пачаў сінгапурскі дыктатар свой шлях да поспеху? З перападпарадкавання судовай галіны ўлады Каралеўскаму суду ў Лондане. Але, абмяжоўваючы паўнамоцтвы нацыянальнага суда, ён тым самым скарачаў свае асабістыя паўнамоцтвы.

Вынік вядомы. Сінгапур паводле ВУП на душу насельніцтва па парытэту пакупніцкай здольнасці ў 2018 годзе апынуўся на 3-м месцы, Беларусь — на 65-м: 100 тысяч долараў супраць 20 тысяч долараў. Пяцігразовая розніца!

Валавы ўнутраны прадукт Беларусі ў наступнай пяцігодцы павінен скласці 100 мільярдаў долараў. Такую задачу перад урадам АП паставіў у сакавіку 2018 года. Сур'ёзная задача, калі ўлічыць, што па выніках мінулага года галоўны эканамічны паказчык склаў 59,6 мільярда долараў (у Сінгапуры — 361,1 мільярда долараў пры колькасці насельніцтва 5,5 мільёна чалавек).

Праблема Леніна і яго паслядоўнікаў палягала не ў тым, што яны няправільна разумелі прыроду дзяржавы, а ў тым, што разумелі яе вельмі абмежавана. У прыватнасці, яны нават не здагадваліся пра існаванне трансакцыйных выдаткаў (выдаткаў на выдаткі, якія ўзнікаюць у сувязі з заключэннем кантрактаў), што я і паспрабаваў прадэманстраваць на прыкладзе Сміта.

З вяршыні беларускай уладнай вертыкалі мы ўжо трэцяе дзесяцігоддзе чуем здравіцы ў гонар «моцнай дзяржавы». Хто супраць? Усе за. Толькі я не ўпэўнены, што аўтары здравіцы вымераюць сілу дзяржавы яе здольнасцю зніжаць трансакцыйныя выдаткі.

### На аснове асабістых дамоўленасцяў

Ужо не год і не два архітэктары «беларускай мадэлі» спрабуюць пазычыць тры рублі да заробку, што на макраўзроўні азначае атрыманне крэдытаў для пагашэння папярэдніх крэдытаў. Каб не быць галаслоўным, дам слова намесніку міністра фінансаў Беларусі Андрэю Белкаўцу: «Мы разлічвалі на крэдыт Расіі. Сёння пытанне прадастаўлення расійскага крэдыту крыху адкладаецца, але як альтэрнатыву мы знайшлі варыянт з кітайскімі крэдыторамі».

Здавалася б, за альтэрнатывай прасцей звярнуцца не на Усход, а на Захад, у прыватнасці, у Міжнародны валютны фонд (МВФ): і бліжэй, і ведання кітайскіх іерогліфаў не патрабуецца, а галоўнае — таннейшых грошай у свеце няма.

Аднак крэдыты МВФ звычайна суправаджаюцца наборам пэўных умоваў і рэкамендацый, што вяртае нас да тэмы чужога манастыра, у які са сваім статутам шлях закрыты. І тут чарговым разам згадваецца выказванне АП, якое вартае таго, каб быць высечаным у граніце: «Усё, што сёння мы маем у эканоміцы, у сацыяльнай і іншых сферах, вынік таго, што мы ўсе гэтыя гады ішлі сваім шляхам, мы жылі сваім розумам. Мы не слухалі «дактароў» з Міжнароднага валютнага фонду, якія прапісвалі лекі, больш небяспечныя за саму хваробу».

У спісе таго, «што сёння мы маем», значыцца і дзяржаўны доўг, разлічыцца з якім без перакрэдытавання магчымасці няма. На працягу апошніх гадоў «беларускую мадэль» ратавала «наша Расія». Але кепскі прыклад заразлівы. І вось ужо Антон Сілуанаў, першы намеснік старшыні ўрада РФ і па сумяшчальніцтве міністр фінансаў, пачынае фарміраваць свой спіс умоваў крэдытавання: «Кампенсацыя падатковага манеўру, крэдыт ці яшчэ нешта, — усё гэта трэба глядзець у комплексе ў частцы таго, як мы будзем рухацца па інтэграцыі».

МВФ патрабаваў эканамічных рэформаў, Расія — інтэграцыйных. І адно не мёд, і другое не рэдзька, але спрачацца пра густы — марнаванне часу. Адмовіўшыся жыць па правілах еўрапейскага манастыра, у Беларусі і Расіі не засталося іншага варыянту, акрамя як выбудоўваць міждзяржаўныя адносіны на аснове асабістых дамоўленасцяў.

Так у Еўропе рабілі ў Сярэднявеччы. Манарх аднаго каралеўства сустракаўся з калегам з суседняга. Яны пра штосьці дамаўляліся, ціснулі адзін аднаму рукі, раз'язджаліся — і кожны выконваў дасягнутыя дамоўленасці так, як яму гэта было выгадна. Напрыклад, дапучаў сваім міністрам выдумляць падставы для абмежаванняў паставак тавараў з каралеўства суседа.

# Пазітыўнае выхаванне — шляхі да поспеху

Таццяна ГОВАР

**Кожны з бацькоў хаця б аднойчы сутыкаўся з тым, што дзіця ігнаруе яго просьбы або папросту не слухаецца. Тады ўзнікае пытанне: «Як зрабіць, каб дзіця выконвала пажаданні бацькоў? Як прымусіць яго слухацца?»**



Часцей за ўсё дарослы думае, што малое паводзіць сябе так спецыяльна і робіць на зло. Узнікае супрацьстаянне: хто каго пераможа, падпарадкуе, падамне пад сябе. У дарослых больш сілы і ўлады, і хто пераможа — зразумела. Але што будзе з пераможаным? Што ён адчуе? Калі дзіця маленькае, хутчэй за ўсё, — маці злая, я дрэнны, мяне ніхто не любіць! І ў малечы з'яўляецца псіхаэмацыйная траўма, якая замінае паўнавартаснаму развіццю, парушаецца пачуццё бяспекі, фарміруецца меркаванне, што свет небяспечны. У такім стане цяжка быць пераможцам. Даводзіцца або выжываць, або змагацца за месцам пад сонцам.

Таму кожнаму з бацькоў неабходна задаць сабе пытанне: «Якім я хачу бачыць сваё дзіця ў 20-гадовым узросце?» І напісаць не менш за 10 якасцяў.

Па досведзе ведаю: многія бацькі адзначаць, што дзіця павінна быць багатым, паспяховым, шчаслівым, адказным, упэўненым у сабе. Але не многія напішуць: здольным канструктыўна вырашаць праблемы, добра стасавацца з людзьмі, праяўляць эмпатыю і павагу да навакольных, быць адданым у адносінах да сям'і і сяброў, здольным адрозніць добрае ад дрэннага, захоўваць адданасць у шлюбе, быць мудрым у прыняцці рашэнняў, сумленным і надзейным, не выяўляць гвалт у адносінах да свайго атачэння, клапаціцца пра бацькоў у старасці і самому быць любячым бацькам.

Калі малеча паводзіць сябе дрэнна — здараецца, хочацца ўдарыць або накрычаць на яго, хочацца, каб яно спыніла рабіць тое, што робіць. Але як гэта адаб'ецца на доўгатэрміновай мэце? Калі мы падвышаем голас на дзіця, ці вучым яго быць ветлівым? Калі мы падымаем на яго руку, ці вучым яго вырашаць праблемы?

Дзіця вучыцца таму, што бачыць у хаце. Нашы паводзіны становяцца ўзорам для перайманння. Яно бачыць, як мы спраўляемся з нервовай напругай — гэтак як будзе паступаць і само. Мы даём дзіцяці пляскач, калі не хапае слоў і аргументаў — гэтак жа можа паступіць і яно ў адносінах да сваіх аднакласнікаў. Кожны раз, робячы так, вы пазбаўляецеся магчымасці паказаць малечы лепшы спосаб рэакцыі на сітуацыю.

На жаль, дзеці нараджаюцца на свет без інструкцыі. Калі з'яўляецца немаўля, надыходзіць эйфарыя, свята. Мы прымаем віншаванні і пажаданні, каб дзіця расло здаровым, слухала маму і тату ды добра вучылася ў школе. Але пасля эйфарыі ўзнікае шкадаванне, што да дзіцяці не прыкладаецца кіраўніцтва па выхаванні. Мы спрабуем многія метады — часцей тыя, якімі нас выхоўвалі нашы бацькі. Але мы не ўлічваем, што дзеці — іншыя, і метады выхавання павінны быць іншыя. Таму, спрабуючы, розныя метады, мы можам трапіць ці не трапіць у цэль.

Выхаванне дзяцей — не самая простая праца на свеце. Капрызы, істэрыкі, нежаданне выконваць хатняе заданне, класціся спаць своечасова, залежнасць ад розных гаджэтаў — гэта толькі частка праблем, з якімі сутыкаюцца сучасныя бацькі. На дапамогу могуць прыйсці метады пазітыўнага выхавання.

Вядомы амерыканскі псіхолаг Джон Грэй сфармуляваў пяць асноўных прынцыпаў пазітыўнага выхавання дзяцей.

### Прынцып першы. Адрозніваецца ад іншых — нармальна

Кожнае дзіця — унікальнае. Кожны чалавек прыходзіць на зямлю са сваёй задачай, са сваімі талентамі, жаданнямі і патрэбамі. У кожнага — свой тэмперамент, свае здольнасці. Не трэба глядзець на суседскага Янку, які выдатна гуляе ў хакей, а ваш не можа забіць шайбу ў вароты. Можа, менавіта вашае дзіця стане геніяльным музыкам або вялікім навукоўцам. А што дрэннага ў тым, калі ў малога талент аўтаслесара? Не прэстыжна? Хто сказаў, што гэта так?

Грамадству патрэбныя розныя спецыялісты. Асабліва, калі яны добрыя.

Таму нельга параўноўваць дзяцей адзін з адным. Важна дапамагчы кожнаму з іх знайсці свой талент і развіваць яго.

Гэтак жа хлопчыкі і дзяўчынкі патрабуюць рознага падыходу ў выхаванні. Хлопчыкі вучацца эксперыментуючы. Ім трэба больш свабоды і менш абмежаванняў. Хлопчыку трэба больш даверу, а дзяўчынка патрабуе больш клопату. Сёння бацькі схільныя да гіперапекавання, калі кантралююцца ўсе бакі жыцця, калі бацькі лепш ведаюць, што малому трэба. Гэта, часцей за ўсё, у падлеткавым узросце выкліча пачуццё пратэсту, жаданне збегчы ад бацькоў куды-небудзь на Крайнюю Поўнач і прыязджаць дадому раз у пяцігодку. Але можа быць і іншы варыянт развіцця — вырасце бязвольны чалавек, які не ўмее прымаць рашэнні. Усвядоміўшы, што дзяўчынкі і хлопчыкі маюць розныя патрэбы, бацькі разумеюць прычыны паводзін дзіцяці і выкарыстоўваюць розныя выхаваўчыя падыходы.

### Прынцып другі. Рабіць памылкі — нармальна

Усе людзі робяць памылкі, з іх робяць высновы і потым дзейнічаюць па-іншаму. А некаторыя і не робяць іх, наступаючы на адны і тыя ж граблі. Памылкі — цалкам нармальная з'ява. Гэта вопыт: калі не атрымалася, паспрабуй па-іншаму. Але вельмі часта памылкі дзіцяці для бацькоў з'яўляюцца катастрофай. Бацькі адразу імкнуцца іх выправіць, забываючы, што самі могуць памыляцца. Часцей за ўсё, саромяць сваіх дзяцей і караюць — і тады малечы складана развіць любоў да сябе і ўменне даравацъ уласныя памылкі. Для таго, каб вырасці ўпэўненым у сабе чалавекам, важна мець нармальную самаацэнку і прымаць уласную недасканаласць.

Любоў да сябе развіваецца на падставе адносінаў бацькоў і іх рэакцыі на памылкі дзіцяці. Бацькі на ўласным прыкладзе павінны паказваць, як прызнаваць памылкі і прасіць прабачэння. Нават калі малое здзейсніла памылку, у яго ёсць шанец вырасці годным чалавекам.

### Прынцып трэці. Праяўляць негатыўныя эмоцыі — нармальна

Гнеў, смутак, страх, шкадаванне, расчараванне, неспакой, збянтэжанасць, рэўнасць, крыўда, няўпэўненасць і сорам — не толькі натуральныя, але і нармальныя. Праблема ў тым, што дзеці могуць іх дэманстраваць не ў тым месцы і не ў той час, а яшчэ і недарэчным спосабам. Гэта стварае некаторую нязручнасць бацькам: «Ты такі дрэнны, прымушаеш мяне злавацца!»

Калі дзіцяці даюць зразумець, што яго эмоцыі і патрэба ў разуменні, а таксама звязаныя з гэтымі эмоцыямі перажыванні дастаўляюць нязручнасць старэйшым, яно пачынае душыць свае пачуцці. А заканчваецца гэта развіццём неўрозу.

Пазітыўнае выхаванне не дапускае, каб дзеці адчувалі сябе адказнымі за настрой бацькоў. Успышкі гневу неабходныя для развіцця малога, але яно павінна ведаць, што дапушчальныя яны не ўсюды і не заўсёды. І бацькі павінны навучыць дзіця ўсведамляць свае эмоцыі, дарэчным спосабам выказваць, а пазней — навучыцца іх кантраляваць.

Лепшы спосаб навучыць дзіця ўсведамляць пачуцці — спачувальна выслухоўваць яго і дапамагаць іх распазнаваць. Так развіваецца эмацыйны інтэлект, што больш важны для поспеху ў жыцці, чым інтэлектуальнае развіццё.

Гэта ніякім чынам не азначае, што трэба кінуць вучыць мовы ці геаметрыю. Але ўменне кантраляваць эмоцыі і адчуваць эмоцыі іншых людзей важней для наладжвання камунікацыі і супрацоўніцтва.

### Прынцып чацвёрты. Жадаць большага — нармальна

Калі дзіця просіць чагосьці большага, чым вы можаце яму даць, гэта не азначае, што яно няўдзячнае, эгаістычнае ці яшчэ нейкае. Дзеці не ведаюць, колькі ім можна прасіць. Калі не дазволіць ім свабодна прасіць, яны так і не даведаюцца, што могуць атрымаць, а што — не.

Але гэта не пра тое, што бацькі адразу ж павінны задавальняць любыя просьбы дзіцяці. Метады пазітыўнага выхавання вучаць дзіця прасіць, пры гэтым дэманструючы павагу да іншых, а бацькоў вучаць адмаўляць, не адчуваючы дыскамфорту. Важна абмяркоўваць з дзіцем яго патрэбы, шляхі іх задавальнення, тлумачыць, чаму зараз вы гэтага не можаце зрабіць, а таксама, што малому трэба зрабіць, каб атрымаць жаданае.

Дзяўчынкам важна дазволіць заяўляць пра свае патрэбы, дазволіць ім хацець большага, не адчуваючы пачуцця віны перад бацькамі. А хлопчыкам трэба ўмець ставіць перад сабою мэты і навучыцца спраўляцца з расчараваннем, калі мэты не дасягаюцца. Да таго ж, дзеці вучацца весці перамовы, дамаўляцца.

### Прынцып пяты. Выказваць сваю нязгоду — нармальна. Але памятай, што мама і тата — галоўныя

Большасць бацькоў баяцца даць дзецям занадта шмат правоў, каб не разбэшчваць іх і каб не страціць кантроль над дзіцем.

Дазваляючы дзецям казаць «не», вы тым самым даяце ім магчымасць свабодна выказваць свае пачуцці, вызначаць уласныя жаданні і весці перамовы. З таго, што малое можа сказаць «не», зусім не вынікае, што будзе менавіта так, як яно хоча. Аднак яго жаданні і пачуцці будуць выслуханыя, а гэта само па сабе схіляе да супрацоўніцтва.

Вы паказваеце, што прыслухоўваецеся да яго жаданняў, і дзіця больш ахвотна будзе супрацоўнічаць з вамі. Падпарадкоўваючы дзіця, вы ламаеце яго волю. Але важна не ламаць, а навучыць карэктаваць свае жаданні, узгадняць з жаданнямі старэйшых.

Уменне карэктаваць сваю волю і жаданні называецца супрацоўніцтвам, падпарадкаванне сваёй волі і жаданняў называецца пакорай. Мэта пазітыўнага выхавання — развіць у дзецях схільнасць да супрацоўніцтва, а не да пакоры.

Уменне сказаць «не» — важнае ўменне, якое спатрэбіцца і ў дарослым жыцці, каб супрацьстаяць ціску аднагодкаў ці іншых аўтарытэтаў.

Такім чынам, мы бачым, што пазітыўнае выхаванне — гэта:

НЕ ўсёдазволенасць. НЕ прадстаўленне малечы магчымасці рабіць усё, што яму хочацца. НЕ адсутнасць правілаў і абмежаванняў. НЕ імпульсіўныя рэакцыі і віды пакарання, якія замяняюць поўхі і іншыя віды фізічнай кары.

Гэта пабудова ўзаемаадносін з дзіцем, заснаваных на ўзаемнай павазе. Гэта навучанне малога жыццёвым навыкам, развіццё здольнасцяў, павышэнне яго ўпэўненасці ў вырашэнні складаных сітуацый. Навучанне дзіцяці правілам ветлівасці, негвалтоўным паводзінам, прывіццё пачуцця эмпатыі і ўласнай годнасці. З дапамогай прынцыпаў пазітыўнага выхавання вы зможаце дапамагчы малечы зрабіць слушны выбар, вырашыць праблему, знайсці канструктыўны шлях вырашэння канфлікту.

А як гэта зрабіць — у наступных артыкулах.



**Таццяна Говар**

Педагог-псіхолаг дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 13 г. Жлобіна», аўтар праекта «Школа для падлеткаў «Знайдзі сваю справу»» і трэнінгу па навучанні бацькоў метадам пазітыўнага выхавання «Супермаці, супертата».

26 ліпеня 2019 | № 28 (639) Новы Час

# Як ажаніцца і застацца ва Украіне

Вікторыя ЛАЎНІКЕВІЧ

**Можна выказаць здагадку, што пасля прыняцця ў Беларусі новых правілаў прызыву ў войска колькасць беларускай моладзі, якая пераязджае ва Украіну, рэзка вырасце. Зрэшты, Украіна заўсёды прыцягвала і прыцягвае беларусаў як краіна постсавецкай прасторы з самымі нізкімі цэнамі і добра развітай інфраструктурай паслуг.**



**Матыў «уз'яднання сям'і» — адна з лепшых падстаў для афармлення ДНЖ ва Украіне. Фактычна, «уз'яднанне» — гэта сітуацыя, калі адзін чалавек з вашай сям'і ўжо мае часовы ДНЖ альбо з'яўляецца грамадзянінам Украіны**

Дадаюць прывабнасці і шырока распаўсюджаныя ў Беларусі міфы пра тую лёгкасць, з якой беларускі грамадзянін можа пры жаданні застацца ў суседняй дзяржаве і беспраблемна атрымаць часовы дазвол на жыхарства (ДНЖ), а пасля і сталы дазвол на жыхарства. Самыя папулярныя з іх: калі пражыць ва Украіне пяць гадоў на падставе часовага пасведчання на жыхарства, можна атрымаць грамадзянства; наяўнасць уласнасці ў краіне — выдатная нагода для ДНЖ; нічога не можа быць прасцей, чым уладкавацца на працу ва Украіне.

Насамрэч, у рэальнасці ўсё складаней. Са з'яўленнем ва ўкраінцаў магчымасці бесперашкодна наведваць Еўрасаюз для неграмадзянаў ва Украіне нормы міграцыйнага заканадаўства сталі больш жорсткімі. Дакладней, яны папросту пачалі выконвацца. ЕС патрабуе выразнай міграцыйнай палітыкі, каб натоўпы новаспечаных грамадзян не прасочваліся ў Еўропу праз Украіну. У выніку многія беларусы, якія сутыкаюцца з патрэбай легалізавацца ва Украіне, церпяць няўдачу. Найперш таму, што недаацэньваюць усю сур'ёзнасць працэдуры, а галоўнае — не могуць давесці, што ў іх ёсць падстава для знаходжання ў краіне.

Без дакумента (зараз ужо пластыкавага) часовага дазволу на жыхарства беларус можа знаходзіцца ва Украіне толькі 90 сутак за паўгода. Адлік 180 сутак вядзецца з моманту першага заезду ва Украіну. Калі мінаюць гэтыя 180 дзён, стартуюць другія 180 дзён, за якія ты можаш быць таксама толькі 90 сутак з усімі заездамі і выездамі. Напрыклад, вы заехалі 1 сакавіка, з гэтага моманту адлічваюцца 180 дзён, за гэты тэрмін вы можаце быць з усімі заездамі і выездамі ва Украіне толькі 90 дзён.

З 1 верасня пачынаецца новы перыяд, за які вы таксама можаце быць 90 дзён. Ад 1 студзеня кожнага новага каляндарнага года — новы адлік.

Каб застацца ва Украіне на больш працяглы тэрмін (ад аднаго да трох гадоў), трэба аформіць часовы дазвол на жыхарства ў Дзяржаўнай міграцыйнай службе. Падставаў для атрымання такога дазволу шмат. Але на практыцы найбольш распаўсюджаныя наступныя: праца, з'яднанне сям'і, бізнес, навучанне.

У кожнага з іх ёсць свае плюсы і мінусы, ацаніць якія адразу часам няпроста.

### Спрабуем працаўладкавацца

Напрыклад, такая падстава, як «праца». Паводле меркавання многіх знаёмых беларусаў, якія пакуль што жывуць у Беларусі, але плануюць у будучыні перабрацца ва Украіну, тут усё вельмі проста. Аднак гэта — ілюзія. Знайсці афіцыйную працу ва Украіне і на гэтай падставе атрымаць часовы дазвол на жыхарства (ДНЖ) вельмі складана. Працы ва Украіне, канешне, шмат. Але для ўкраінскага працадаўцы афармленне на працу беларуса па складанасці нагадвае падрыхтоўку касманаўта. У гэтым ёсць сэнс, толькі калі вы каштоўны спецыяліст сусветнага ўзроўню або айцішнік. Лягчэй вас узяць на падрад ці наогул нелегальна. Але, натуральна, для таго, хто планаваў застацца па такой падставе, — плакаў тады ДНЖ і, адпаведна, легальны статус.

Самая галоўная складанасць — атрымаць дазвол на працу. Гэта дакумент строгай справаздачнасці з індывідуальным нумарам, які выдае служба занятасці па месцы знаходжання вашага працадаўцы, і які пацвярджае вашу занятасць на ўкраінскім прадпрыемстве ці фірме. Такі дазвол сам па сабе — вельмі дарагі. У 2019 годзе плата за дазвол на працу з тэрмінам дзеяння ад 6 месяцаў да года ва Украіне складае 608 беларускіх рублёў, або каля 300 долараў.

Чыста тэарэтычна, такі збор павінен аплачваць са сваёй кішэні працадаўца. Але далёка не факт, што ён возьме на сябе ўсе выдаткі і клопаты. Прычым, на пачатак афармлення дазволу ў вас на руках ужо павінна быць копія вашага працоўнага кантракту.

Афармляцца па гэтай падставе мае сэнс толькі тым катэгорыям беларусаў, якія афіцыйна могуць працаўладкавацца ва Украіне без аплаты такога збору. А менавіта: тыя, хто мае афіцыйны статус бежанца; работнікі замежнага флоту (у тым ліку авія); работнікі сродкаў масавай інфармацыі; працаўнікі прадстаўніцтваў замежных кампаній (працаўладкоўваюцца на падставе службовай карткі); прафесійныя спартсмены, артысты, работнікі мастацтваў; работнікі аварыйна-выратавальных службаў; святары для працы ў рэлігійных арганізацыях; работнікі праектаў міжнароднай тэхнічнай дапамогі; выкладчыкі, якія збіраюцца працаваць у ВНУ; замежныя ўкраінцы (аналаг тых, хто мае «Карту паляка»).




Але тое, што вам не патрэбны дазвол на працу, зусім не гарантыя, што ў працадаўцы з'явіцца жаданне вас працаўладкаваць. Прычына простая: з восені 2017 года заканадаўча рэгулюецца памер мінімальных заробкаў для работнікаў-неграмадзян. Адпаведна, працадаўца павінен устанавіць вам заробак у памеры не меншы, чым 10 мінімальных заробкаў, ці 3302 беларускіх рубля на месяц! Ведаю, некаторыя ўкраінцы прымудраюцца разрульваць гэтую сітуацыю і прызначаюць работнікам-беларусам няпоўны працоўны дзень. Але сам маштаб праблемы зразумелы. Украінскі працадаўца банальна не гатовы плаціць за вас падаткі з гэтай сумы, і наогул не гатовы з вамі поркацца. Для параўнання: калі ўкраінец працаўладкоўваецца на прыватную фірму альбо прадпрыемства, у кантракце яму нярэдка прапісваецца заробак у памеры «мінімалкі» — 330 беларускіх рублёў.

Адсюль выснова: хочаце працаваць ва Украіне — пачынайце шукаць працу з Беларусі года за паўтара да запланаванага пераезду. Праўда, зусім не факт, што нават калі вы абгаворыце ў якасці ўмовы працаўладкавання ваш афіцыйны статус, зможаце атрымаць жаданае.

Ідэальна, на мой погляд, афармленне ДНЖ у міграцыйнай службе па гэтай падставе падыходзіць для айцішнікаў або ўнікальных спецыялістаў сусветнага ўзроўню ў любой сферы.

### Шлюб, лепш не фіктыўны

Матыў «уз'яднання сям'і» — адна з лепшых падстаў для афармлення ДНЖ ва Украіне. Фактычна, «уз'яднанне» — гэта сітуацыя, калі адзін чалавек з вашай сям'і ўжо мае часовы ДНЖ альбо з'яўляецца грамадзянінам Украіны. Да «сям'і» могуць належыць ваш муж/жонка, бацькі і дзеці да 18 гадоў. Пасля 18 гадоў вашы дзеці не маюць права на атрыманне ДНЖ па гэтай падставе, бо па ўкраінскім заканадаўстве чамусьці перастаюць лічыцца вашай сям'ёй.

Найлепшая сітуацыя, калі ваша другая палова мае ўкраінскае грамадзянства. Праз два гады шлюбу можна атрымліваць дазвол на сталае месца жыхарства (СМЖ) ва Украіне, а там, праз пяць гадоў, і грамадзянства. Калі ваш муж (жонка) — грамадзянін Украіны, на этапе збору дакументаў усё максімальна зразумела і празрыста. Хаця з досведу знаёмых ведаю: калі падаюцца дакументы па такой падставе, міграцыёнка максімальна цягне час. У трох з чатырох выпадкаў пры афармленні, напрыклад, гублялася квітанцыя аб аплаце паслуг. Часам наогул без усялякіх прычын проста на тыдні затрымлівалася выдача самога ДНЖ.

Працяг на стар. 19 »

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №7 (155)
(ліпень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Колькі хочуць зарабляць пісьменнікі?

**Ці ведаеце вы, што натхняе ці, наадварот, астуджвае творчы патэнцыял пісьменніка? Сёлета Каралеўскае літаратурнае таварыства Брытаніі зрабіла даследаванне пад назвай «Мой уласны пакой».**



Ініцыятары даследавання натхніліся працай вядомай брытанскай пісьменніцы і літаратурнай крытыкесы Вірджыніі Вулф (Virginia Woolf; 1882–1941) «Свой пакой» (1929), дзе сцвярджаецца, што аўтар можа стаць сапраўды свабодным і здольным ствараць шэдэўры толькі тады, калі мае ўласны пакой і заробак, не меншы за 500 фунтаў, што на сёння адпавядае прыблізна 30 тысячам фунтаў на год (каля 3000 $ на месяц — Рэд.).

Вось літаратурнае таварыства і вырашыла даведацца, ці дасягнулі пісьменнікі Брытаніі гэтага ўзроўню і што ўвогуле трэба зрабіць для аўтара, каб яму камфортна працавалася.

Згаданае даследаванне базавалася на вывучэнні наступных аспектаў дабрабыту творцаў: патрэбы аўтараў, дапамога ад сваякоў і сяброў, асноўныя праблемы, якія даводзіцца вырашаць, а таксама тое, што прымушае аўтара рухацца далей і падтрымліваць пастаянную пісьменніцкую дзейнасць.

Для правядзення даследавання былі задзейнічаныя ажно 2166 аўтараў з усіх куткоў Брытаніі, прадстаўнікі мноства розных сацыяльных слаёў, расавых і гендарных груп.

Нягледзячы на тое, што Вірджынія Вулф была перакананая ў тым, што галоўным стымулам для паспяховай дзейнасці аўтара з'яўляецца фінансавы дабрабыт, новае даследаванне прадэманстравала, што эмацыйныя праблемы турбуюць сучасных аўтараў нашмат больш. У адказ на пытанне, які тып дапамогі неабходны, 80% брытанскіх пісьменнікаў адказалі, што ім неабходны ўласны пакой, 65% — узаемная падтрымка, 60% — эмацыйная падтрымка, і толькі 58% — фінансавая. Гэтыя лічбы дэманструюць, што пытанні асабістай прасторы і эмацыйнай бяспекі хваляюць пісьменнікаў больш за фінансавыя турботы.

Што да фінансаў, то даследаванне прадэманстравала: большая частка аўтараў не атрымлівае ў год тую суму грошай, якую Вірджынія Вулф лічыла аптымальнай. Толькі 5% пісьменнікаў у Брытаніі маюць больш за 30 тысяч фунтаў на год з пісьменніцкай дзейнасці, большасць, прыкладна 67%, зарабляе да 10 тысяч фунтаў.

Цікава, што толькі невялікая колькасць пісьменнікаў здольная пражыць на грошы, заробленыя з літаратуры. 10% рэспандэнтаў заявілі, што не маюць аніякай альтэрнатыўнай прафесійнай дзейнасці ці фінансавага падмурку, апроч творчасці. Больш чым палова адзначыла, што мае або падпрацоўку, або вольны графік (52%), а 20% аўтараў увогуле маюць пастаянную працу паза літаратурнай дзейнасцю. Даследаванне паказала, што шанец пісьменнікаў зарабляць па 30 000 фунтаў на год у тры разы большы на іншай працы, чым літаратурная дзейнасць. 14% адсоткаў рэспандэнтаў зарабляе больш за гэтую суму на альтэрнатыўных працах.

Прыналежнасць да той ці іншай сацыяльнай групы таксама мае ўплыў на паспяховасць пісьменніцкай дзейнасці. Напрыклад, 25% удзельнікаў апытання аднеслі сябе да рабочага класу, прадстаўнікі якога склалі толькі 11% катэгорыі людзей, якія зарабляюць больш за 30 000 фунтаў. Даследаванне таксама выявіла карэляцыю паміж расавай і гендарнай прыналежнасцю і заробкамі пісьменнікаў. 13% адсоткаў людзей ідэнтыфікавалі сябе як афрыканцы ці азіяты, але ў выніку склалі толькі 9% групы самых заможных пісьменнікаў.

**Пісьменнікам вельмі важна ведаць, што плён іх дзейнасці прыносіць некаму карысць, а іх словы важныя для людзей, для грамадства**

Цікавая дынаміка была заўважаная і з уплывам полу на фінансавае становішча. 72% удзельнікаў апытання былі жанчынамі, якія склалі 57% самых высокааплачваных пісьменнікаў. Адпаведна, мужчыны складалі прыблізна 25% рэспандэнтаў, але, тым не менш, яны складаюць 41% пісьменнікаў, якія атрымліваюць найбольшыя ганарары. Лічбы дэманструюць, што ў Злучаным Каралеўстве людзі еўрапейскай расы і высокага сацыяльнага статусу маюць больш шанец на паспяховую аўтарскую дзейнасць.

Самымі вялікімі праблемамі для пісьменнікаў у пачатку кар'еры з'яўляюцца недахоп грошай, а таксама адсутнасць веры ў сябе і свае сілы, няведанне магчымых механізмаў дапамогі. 68% літаратараў лічаць галоўнай праблемай на шляху да пастаяннай дзейнасці фінансавыя цяжкасці. «Я пішу пастаянна, але мая жонка мае добрую працу — інакш я б не змог падтрымліваць сваю сям'ю адзін», — прызнаўся адзін з пісьменнікаў. 67% творцаў перакананыя, што адсутнасць часу — іх галоўны бар'ер у дасягненні поспеху: «З улікам таго, колькі часу забірае мая асноўная праца, я магу пісаць толькі па адным-два радкі ў дзень».

Можна зрабіць выснову, што фінансавыя цяжкасці і адсутнасць часу — гэта цесна звязаныя праблемы, якія турбуюць сучасных пісьменнікаў.

Адсутнасць веры ў сябе стала праблемай для 54% апытаных. Шмат хто з аўтараў заўважыў, што яны часта чуюць каментары ў свой бок, што ім не варта пісаць зусім, — своеасаблівы сацыяльны ціск, які прымушае людзей думаць, што яны не могуць стаць паспяховымі. «Я адчуваў, што такія людзі, як я, ніколі не становяцца пісьменнікамі», — сказаў адзін з рэспандэнтаў.

Як высветлілася, сувязь з расавай і гендарнай групай таксама ўплывае на тое, якія праблемы маладыя аўтары хутчэй за ўсё сустрэнуць на сваім шляху. Напрыклад, праблема з адсутнасцю веры ў сябе больш праяўляецца сярод жанчын (50%, у мужчын — 39%), а таксама ў людзей нееўрапейскага паходжання — 76%. Важным аспектам з'яўляецца і тое, што існуюць іншыя фактары, якія могуць значна пагоршыць ацэнку свайго патэнцыялу. Напрыклад, 74% аўтараў з цяжкімі захворваннямі выказалі адсутнасць упэўненасці ў параўнанні з 69% у здаровых аўтараў.

Але самым цікавым кірункам даследавання быў аналіз таго, якім чынам аўтары здольныя, нягледзячы ні на што, працягваць сваю дзейнасць і адчуваць, што іх праца патрэбная. Пасля дыскусій з апытанымі высветлілася, што пісьменнікам вельмі важна ведаць, што плён іх дзейнасці прыносіць некаму карысць, а іх словы важныя для людзей, для грамадства.

Таксама варта адзначыць ролю сям'і ў поспеху аўтара. Калі творца атрымлівае дастаткова ўвагі і ўпэўненасці ад сяброў і сваякоў, гэта дапамагае яму ўсвядоміць сваю важную ролю і працягваць пісьменніцкую дзейнасць.

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што фінансавыя цяжкасці з'яўляюцца хутчэй бар'ерам для пачатку літаратурнай дзейнасці, у той час як эмацыйныя канфлікты могуць стаць бар'ерам для працягу пісьменніцкай працы. Большая частка аўтараў жыве, маючы другую працу апроч літаратурнай, і ім вельмі важна ведаць, што іх высілкі і ахвяры нечага вартыя.

**Падрыхтаваў Павел Макоўскі**
**паводле rsliterature.org**

# Новы том Васіля Быкава

**Васіль Быкаў. Поўны збор твораў у 14 т. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — Т. 10, кн. 2 : Артыкулы, эсэ, прадмовы, выступленні, інтэрв'ю, гутаркі, калектыўныя творы (1981-1990). — 640 с.**




Нагадаем, што першы ў гісторыі Поўны збор твораў Васіля Быкава ў 14-ці тамах запачаткаваны ў 2005 годзе Саюзам беларускіх пісьменнікаў пры ўдзеле Грамадзянскай ініцыятывы «Агульнанацыянальны рух Воля народа», расійскага выдавецтва «Время», пазней — беларускага выдавецтва «Кнігазбор». На сайце СБП можна свабодна спампаваць усе раней выдадзеныя тамы гэтага Збору ў фармаце .ePub.

Другую кнігу дзясятага тома склала публіцыстычная і літаратурна-крытычная спадчына Васіля Быкава 1981–1990 гадоў: артыкулы, эсэ, прадмовы, выступленні, інтэрв'ю, гутаркі і калектыўныя творы.

Новае выданне спадчыны Васіля Быкава можна набыць онлайн з дастаўкай праз інтэрнэт-краму «KNIHI.BY», а таксама ў кнігарнях «Акадэмкніга» і «Цэнтральная кнігарня».

# «Гэтым людзям вельмі патрэбная камунікацыя»

**— У нас не такі тэатр, дзе варта сядзець ціха і толькі слухаць, — тлумачыць Вераніка Фаміна, адна з заснавальніц лямцавай батлейкі.**



Батлейка завітала ў аддзяленне дзённага знаходжання для інвалідаў ТЦСАН Першамайскага раёна Мінска, дзе прэзентавала «Суперкнігу пра Біла з Болаю».

Першую кнігу пра Біла і Болу Гуніла Бэргстрэм напісала яшчэ ў канцы 70-х. Па сюжэце ў звычайнай шведскай сям'і нараджаецца дзяўчынка, што робіць абсалютна шчаслівымі ўсіх яе родзічаў. Але да пэўнага моманту. Тры гады дзіця не размаўляе. Пасля доўгіх абследаванняў высвятляецца, што Бола — дзіця асаблівае.

Кніга была напісаная пасля таго, як у сям'і самой Бэргстрэм нарадзілася асаблівая дзяўчынка. Праз год пасля выхаду першай кнігі спадарыня Бэргстрэм напісала працяг, а праз дваццаць гадоў абедзве кнігі трапілі пад адну вокладку: «Суперкніга пра Біла з Болаю: Біл разумны, Бола вясёлая», якая і была перакладзеная на беларускую мову Андрэем Хадановічам паводле падрадкоўніка Надзеі Кандрусевіч і Алесі Башарымавай.

— Для людзей, якія бавяць час у дзённым стацыянары нашага аддзялення, такія сустрэчы надзвычай важныя, — адзначыла загадчыца аддзялення спадарыня Матлах. — Людзям, якія прыходзяць да нас, трэба як мага болей стасавацца з іншымі людзьмі, таму мы імкнёмся ўвесь час запрашаць з імпрэзамі артыстаў з Інстытута культуры, з Чырвонага Крыжа. Вось і кампанія «Будзьма беларусамі» завітвае да нас не ўпершыню.

Людзі, што знаходзяцца ў стацыянары, успрымаюць лямцавую батлейку «на ўра».

Як заўсёды ў канцы спектакля батлейкі, гледачоў просяць адказаць на пытанне, сумная ці вясёлая гісторыя Біла і Болы. Гледачы пагаджаюцца з тым, што сумная і вясёлая адначасова. А пасля артысты прапануюць усім абняцца, што чакана выклікае вялікую весялосць і паказвае, што «іншасць» — гэта не страшна, нават калі яна не кніжная, а рэальная.

**Мікалай Левертаў, budzma.by**

# Сіло для «часціцы бога»

**У гэтым тэксце не будзе цытат, разбору «мастацкіх сродкаў» ды іншых атрыбутаў рэцэнзіі. Таму што гэта не рэцэнзія. Гэта канстатацыя выключнасці таго, што стварыў Ілля Сін.**

Аяшчэ таму, што прэпарацыя матылька тлумачыць яго будову, забіваючы. А я хачу распавесці пра палёт.

Пісьменнікі, а перад імі — воінства бардаў, друідаў ды іншых адвеку біліся над адной звышзадачай: узнавіць жыццё. Зразумець свет, яго законы, а потым — стварыць свой. Дэміургі і сізіфы адначасова.

Як у матэрыяльнай мадэлі Сусвету існуе базон Хігса, «часціца бога», так і ў мастацтве ёсць няўлоўная часціца, без якой — ніяк, а ўхапіць — немагчыма (асабліва сачком літаратуразнаўства). Адзінае, што застаецца — адчуваць.

Прысутнасць гэтай часціцы змяняе ўсё. Нагрувашчванні слоў робяцца жывым творам. Гэты твор дыхае, пульсуе, змяняе светапачуванне чытача.

«Libido» Іллі Сіна — якраз такі твор.

Любы матэрыял, які выкарыстоўвае мастак, — толькі сродак стварэння абалонкі для ўнутранага агню. Не больш. Геніяльнасць Ван Гога не ў тым, як ён кладзе фарбы. А ў тым, што пакладзеныя фарбы пакінулі па сабе, што паміж імі. Не ў саміх словах, напісаных Вірджыніяй Вулф, але ў той прасторы, якую яны стварылі. Не ў нотах, якіх усяго сем штук, але ў канструкцыі, якую яны будуюць, каб зафіксаваць стан, эмоцыю, libido.

Спрабуючы знайсці для сябе адказ датычна таго, што такое мастацтва, я прыйшла да метафары з гаршкамі. Калі чалавек адкрыў для сябе агонь (libido, сіла мастацтва — называйце як хочаце), ён задаўся мэтай захаваць яго. Ён зляпіў гаршок.

Іншыя людзі сталі рабіць тое ж. Каб захаваць і перадаць агонь, яны ляпілі гаршкі, і справа гэтая стала абрастаць рознага кшталту ўскладненнямі. Гаршкі займелі мноства відаў, канфігурацый і калібраў (жанры); іх сталі ўпрыгожваць арнаментамі, малюнкамі, фарбаваць ва ўсе колеры вясёлкі (стылі); іх ляпілі з розных відаў гліны ды іншых матэрыялаў (мовы). Дайшло да таго, што гаршкамі сталі мерацца як паказальнікамі ўмельства. Спаборнічалі ў колькасці і вынаходлівасці.

І ў нейкі момант забыліся, што галоўнае — агонь, а не гліняная чарэп'е.

«Libido» — вяртанне таго самага агню.

У працяг метафары: некаторыя з апошніх водгукаў на кнігу Іллі Сіна бачацца мне гарачымі, безумоўна шчырымі, але бессэнсоўнымі па сваёй сутнасці развагамі гаршэчнікаў.

Назва кнігі — гульня вышэйшага парадку. Яна не толькі азначае змест твора — жыццё, разбітае на кропкі быцця. Застылае ў часавых адрэзках, як жамяра ў бурштыне. Сам твор і ёсць увасабленне libido.

Словы «жыццё» і «застылае» кепска між сабой стасуюцца, гэта праўда. Але дакладнае апісанне паасобных момантаў, станаў герояў, іх грубых ці вострых рэплік, звыклых прадметаў — найлепшы метад, які толькі мог абраць аўтар. Узяць кіно: гэта рух, аднак створаны ён шэрагам застылых, «мёртвых» карцінак-кадраў.

У аснове кнігі — жыццяпіс Мары, былой порнаакторкі. Гандаль целам пры жывой душы прыводзіць да таго, што абясцэньваецца не толькі ўласнае Я, але ўвогуле — матэрыяльнасць свету. Закон аб усепаражомным святле і справядлівасці адпрэчаны. Калі мажліва такое, а неба на зямлю не падае, у чым праўда? Як жыць?

А праўда ў самім жыцці...

Словы ў тэксце Сіна працуюць як кропкі каардынатаў: чытаць трэба не іх, а прастору, якую яны акрэсліваюць. Гэта літаратура самага высокага кшталту: яна не проста апісвае жыццё, але мадэлюе яго. Якім чынам аўтар дасягнуў такога эфекту, я не ведаю. Я не ўпэўненая нават, што ён разумее, наколькі важную рэч стварыў.

Казалі, што першакрыніцай для гісторыі Мары стала «Жыціе Марыі Егіпецкай». Аўтар хацеў стварыць своеасаблівы «рэмейк» пісання. Марыя Егіпецкая — хрысціянская святая, заступніца жанчын, якія каюцца, а шырэй — усіх, хто дасягнуў дна і цяпер хоча ад яго адштурхнуцца.

Але ўсё гэта аказалася няважным. То бок, гэта мела значэнне напачатку, калі твор толькі задумваўся, бо давала аўтару першасны алгартым для дзеяння. Інструкцыю лепкі гаршка. Але вынік аказаўся больш важным за схему. Калі б Ілля Сін адкінуў першакрыніцу, не стаў пісаць заключны раздзел з выкупленнем Марыяй грахоў (перанараджэннем) і «Малітву...» (якая, у прынцыпе, вытлумачае ўсю кнігу, з'яўляецца сціслым ідэйным пераказам у паэтычнай форме) — дык вось, калі б нічога гэтага не было, а засталіся толькі блуканні Марыі па мёртвым горадзе і сцэнкі з жыццяў суседзяў-самнамбулаў, мастацтва нікуды б не знікла.

Прызнацца, «Малітва...» мяне нават засмуціла. Так, трошачку. Як ключык да куфра, які ты мог і хацеў адкрыць без ключа.

Чаму Ілля Сін абраў хрысціянскі канцэпт для вырашэння пытання чалавечага быцця? Бо гэта светапогляд аўтара.

Чаму звярнуўся да вобразу грэшнай Марыі? Вось тут цікавей. Як казаў Флабэр, «мадам Бавары — гэта я». Не ў тым сэнсе, што грэшніца Марыя — Ілля Сін. Архетыповы вобраз выкуплення граху бачыцца мне адным з прачытанняў анталагічнай праблемы: барацьба матэрыяльнага і духоўнага. Плоцевасць для чалавека — рэальная, яе, груба кажучы, можна памацаць. Але яна мае заканчэнне, то бок гэта рэч апрыёры мёртвая.

Калі так, што трымае прадметы, арганізмы, стыхіі разам? Што не дазваляе сусвету скаціцца да незваротнай энтрапіі? Ёсць невядомая сіла, вышэйшы закон быцця, які трымае раўнавагу. Нехта шукае для яе азначэнне і вытлумачэнне ў рэлігіі. Хрысціянства — толькі адзін з «метадаў» прачытання.

Выкупленне граху ў такім ключы — гэта надзея цела на жыццё ў новым выглядзе, па-за матэрыяй. Марыя адчувае гэтую магчымасць; яна дайшла да разумення ілюзорнасці матэрыі, шукае выйсця на іншы ўзровень. Аддадзенае на здзек цела абвострыла канфлікт, стала каталізатарам. Вобраз Іншага — гэта зусім не чаканне нейкага там рамантычнага каханка; гэта прага дапамогі, чаканне збавіцеля.

Сін, апісваючы мярцвяцкую атмасферу безыменнага, бясконца існага і паўсюднага топасу, здолеў ухапіць гучанне гэтай безыменнай сілы. Яго тэкст спрацаваў як сіло для той самай «часціцы бога».

І немінуча ўзнікае складанасць: для таго, каб адчуць гэта (аднаго інтэлекту мала, адкуль, уласна, і ўсе канфлікты, датычныя мастацтва), трэба быць «трошку Марыяй». Трэба быць на адной хвалі з аўтарам. Хоць раз пабываць у памежным стане, пасля якога матэрыяльны свет бачыцца табе дэкарацыяй. (Пра дэкарацыі, дарэчы, Ілля Сін таксама не раз згадвае).

Гэтая кніга патрабуе часу. Адмысловых наладаў свядомасці і слыху, чуйнага да высокай, пранізлівай частаты. Крытык, у практыцы якога здараецца такая кніга, можа лічыцца шчаслівым.

**Наста Грышчук**

# Пацеркі даверу

**Святлана Варонік. Пацеркі даверу: вершы. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — 112 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 118).**

Упаэтычным зборніку Святланы Варонік — асэнсаванне навакольнага свету, прыроды, чалавека ў кантэксце зямнога быцця і Космасу. Гэта шлях чуйнай душы праз спазнанне болю, расчараванняў — да светласці і гармоніі. Пачуццё і думка выяўляюцца ў лаканічных формах, якія даюць чытачу прастору для роздуму, для расчытвання падтэксту і пранікнення ў таямніцы паэтычнага слова...

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Дубатоўка па-ўкраінску

Угорадзе Белая Царква Кіеўскай вобласці адбылася прэзентацыя кнігі «Чужы» гарадзенскага пісьменніка, кіраўніка Гарадзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянціна Дубатоўкі.

Кніга сёлета выйшла па Украіне ў перакладзе на ўкраінскую мову Наталлі Куліш. У ёй распавядаецца пра каханне заходнебеларускага юнака да дзяўчыны. Каханне гэта было няўдалым, бо часы былі самыя трагічныя ў сучаснай беларускай гісторыі. Пра ўсё гэта і распавядаецца ў кнізе Валянціна Дубатоўкі «Чужы». Цяпер з ёй знаёмяцца ўкраінскія чытачы. Кнігу ў Белай Царкве прэзентавала ўкраінская пісьменніца Марына Варыч.




**Барыс Баль, racyja.com**

# Кругі на вадзе



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

### Пінгвін

Жывот выпірае на ўсе восем месяцаў — рыхтык пінгвін! Дзіця, вагой у чатыры з палова кілі, — не схаваеш, трэба б скінуць лішак вагі — патрабуе доктар, ды так хочацца салёнага! Як вынік — піць, потым — салодкага, кісленькім шліфанеш, яшчэ кіля на вагах.

«Кафэ-бар», — чытаю, аж заказытала пад лыжачкай!

У Наваполацку, калі займаліся ў музычнай вучэльні, бегалі пасля стыпендыі ў бліжні павільёнчык «Марозка» ці дальняе кафэ «Пралеска» выпіць малочнага express кактэйлю «Пінгвін». На абедах зэканоміш — але купіш некалькі порцый паспытаць рознага гатунку. Гадоў пяць не сустракала любімы ласунак, і вось прыехала ў сталіцу павышаць кваліфікацыю! Як убачыла «Кафэ-бар» — не адышла ад дзвярэй, дачакалася адкрыцця і прамым ходам да стойкі.

— Сядайце за столік, — ласкава прапанавала жанчына. — Да вас падыдзе афіцыянт. Там ляжыць карта.

Ну, канечне, — сталіца! Я села, глянула ў дабротна выкананае меню — цэны ўразілі, але не спынілі. Падышла прыемная дзяўчына.

— Што жадаеце?

— Два кактэйлі па дзвесце грамаў.

Яна ўтаропілася ў мой жывот і ледзь знайшла словы.

— А вам можна?

— Напэўна — не, ды вельмі хочацца.

— А не многа будзе?

— Ой! Я ў свой час і па чатыры адразу выпівала, — супакоіла я афіцыянтку.

— Гэта вельмі вялікія порцыі — так не заказваюць у нас.

Якая дзіўная! Кожны гандляр імкнецца прадаць, а гэтая — адгаварыць.

— Калі ласка, два па дзвесце, — настойваю.

— Гэта вельмі дорага каштуе, — не супынялася афіцыянтка.

— У мяне ёсць грошы.

— Добра, я прынясу вам, але спачатку толькі адну порцыю.

Калі я атрымала свой заказ, зразумела, чаму так культурна і дальнабачна адразу разлічыла мяне афіцыянтка за першую порцыю і схавалася з вачэй у патаемную камору... З першага глытка мае вочы скруціліся з арбіт. Гэта быў моцны алкагольны кактэйль... Ад сораму я хуценька зграблася з кафэ, пакінуўшы на стале дзвесце грамаў «Пінгвіна» за палову свайго заробку. А каб мне прынеслі два, як прасіла? Смешная дзяўчынка, яна пасаромелася адкрыта папярэдзіць, думала, а раптам я хворая на гарэлку.

### Дэбіл на экскурсіі

Дзвінскую эксперыментальную базу інстытута леса, скарочана ДЭБІЛ, рэгулярна вывозілі на экскурсіі. Патрапіла і я праз мужа. Пасялілі групу разам, на падлозе, на матах спартзалы адной з акраінных Ленінградскіх школ. Мужчыны ноч — п'юць, дзень — п'юць. Аўтобус з нанятым экскурсаводам стабільна дастаўляе экскурсантаў да культурна-гістарычных кропак слаўнага горада, але выходзяць з аўтобуса толькі жанчыны, мужчыны працягваюць гуляць у карты між стаканамі.

Мана! Засталіся ж групавыя здымкі, зробленыя па замове ў мясцовых фатографаў: у тры шнурочкі, хто — у прысядку, хто — стаіць... Сімпатычныя, маладыя. Вецер дзьме ў твары. Значыць, выходзілі з аўтобуса і мужчыны, не толькі да ветру.

Адна з жанчын, не знаёмая мне работніца вясковай філіі, узялася бадзёра і актыўна са мной сябраваць, ды яшчэ з прававадырскімі замашкамі. Трымала ўвесь час у полі зроку, крочыла нага ў нагу, падавала каманды. Бедная кабета, не ведала, што «не на тую нарвалася», не знала майго непадуладнага характару, маёй нелюдзімасці. Я — воўк-адзіночка. Камандаваць мной не дадзена нікому. Самы жорсткі начальнік жыве ўва мне самой.

— Чаго ты стала? Няма там нічога цікавага. Ідзі сюды. Глядзі, якое дзіва!.. Хопіць спаць, пайшлі ва ўборну мыцца, зубы чысціць... Займай чаргу, я пабягу наглядаць, што прадаюць. Бяры па дзве порцыі марожанага — я сяду, пасцерагу столік...

— Пакіньце мяне. Я не люблю загадаў, — не сцярпела я нарэшце.

— Ненармальная! — абурылася «сяброўка», але адчапілася.

У тыя гады апельсіны былі дэфіцытным прадуктам. Асабліва правінцыялы, не прызвычаеныя да вольніцы, хто пакінуў дома малых дзяцей, марылі смачным гасцінцам адкупіцца за «бацькоўскую здраду». Мы з'ехалі аж ад траіх, так што пільней за іншых шукалі, дзе б купіць апельсіны. Ні ў цэнтры, ні на акраінах імі і не пахла. І раптам... запахла!

Былі ў Піцергофе, ішлі па гофе, і тут улоўліваю фантастычны водар! Апельсіны! Дзе?! Дрэвы, дрэвы, кусты, газоны, статуі, фантаны, лавачкі, альтанкі, зноў дрэвы, дрэвы, кусты... Я ішла па нюху, упорак маршруту групы, голасна аб'явіўшы мэту свайго напрамку: «Апельсіны!». Адна пара кінулася за мной. Куды нос вядзе? Вось — летняе кафэ! А ў ім апельсіны! Нам шчодра аддалі апошні запас, па скрыні на плечы. Назад, у школу, група вярталася воднымі шляхам — кацерам. На «докераў» — да слёз смешных мужчын (самы высокі і самы малы ростам), згорбленых пад вагой скрынь, у порце здзіўлена паглядалі гараджане-мінакі. Культпаездка...

### Кругі на вадзе

У раздзеле ГОСЦІ назойлівага сайта «АДНАКЛАСНІКІ» паглядаў на мяне з фота незнаёмы мурлаценькі дзядзька на фоне дагледжанай сядзібы: мальвы, ружы, сад, альтанка, ставок з рыбкамі, трактар, аўто... Дабрабыт у поўным наборы. Усё, што многім па справядлівасці здаецца сапраўдным рэальным шчасцем, чамусьці не выбраным мною ў гэтым зямным жыцці. Не пазнала я дзядзьку, а вось прозвішча, рэдкае, пакручастае спыніла: яго калісьці чула. Перабрала транзітнікаў класа, школы... Ва ўспамінах жыхароў роднага горада такога прозвішча не вялося. Інстытут? — Без зачэпкі. Работа? — Не! Дзе ж яно магло сустракацца?..

Самая мініяцюрная, мілавідная дзяўчынка групы першага курса музычнага вучылішча — Зарана, быццам дванаццацігадовае дзяўчо. Прыгожая, каб не гэтая недаспеласць кволенькай постаці. Быццам сарвалі кветку ў завязі, моцы хапіла распусціцца: паказаць сілу прыгажосці, водару — не. І ўсё ж невысокая постаць і адсутнасць зманлівых формаў не дабаўлялі характару Зараны і кроплі інфантыльнасці ці падабенства школьніцы. Не яркасць, не кідкасць выдзялялі дзюймовачку Зарану з дзявочага шэрагу студэнтак. Твар яе паланіў надзвычайнай жаноцкасцю. Лагодны погляд вялікіх блакітных вачэй апавіваў спакоем і спагадай, дарыў упэўненасць — у гэтай галоўцы не затрымаецца брудная думка альбо перастане такой звацца; гэтыя пяшчотныя вусны не здольныя прамовіць грубага слова, ружовыя шчокі з ямачкамі цёпла будуць усміхацца нават у самы цяжкі момант жыцця. Жаноцкасць ва ўсім: у паводзінах, гутарцы, хадзе, паставе. Пры тым сціпласць і ціхмянасць яе характару не перашкаджалі пры патрэбе абараніць праўду ад няпраўды. Так натуральна і бяскрыўдна прамаўляла Зарана словы нязгоды, быццам бег вясновага ручайка мімаходзь вызваляла ад парожакаў смецця.

**Бедная кабета, не ведала, што «не на тую нарвалася», не знала майго непадуладнага характару, маёй нелюдзімасці. Я — воўк-адзіночка. Камандаваць мной не дадзена нікому. Самы жорсткі начальнік жыве ўва мне самой**

Чарнявы мацак па мянушцы Докер, які паступіў у нафта-тэхнікум, здаецца, проста ад балды, — не збіраўся ён станавіцца нафтавікам, — увязаўся за каханай дзяўчынай: Зарана прыехала ў гэты горад вучыцца ў музычным вучылішчы. У першы ж тыдзень навучальнага года Докер заявіўся ў гуртажытла да хлопцаў яе групы з торбай бутэлек і здолеў за вечар з усімі дамовіцца, што ні адзін з іх не пасягне на Зарану. Бо тая ад трынаццаці сваіх гадоў належыць яму. Падзялілася з сяброўкай і Зора таямніцай скораспелага кахання. І павялося ў студэнцкім асяроддзі: хлопцы не без цікаўнасці, з захапленнем зырылі на смяшлівую, зорнавокую Зарану як на сястру.

Праз год Заранін Докер адбыў на вайсковую службу ў Германію. У ячэйцы насценнай фанернай скрынкі пры вахцёрцы ў фае гуртжытла, куды паштарка прыносіла пошту, пад першай літарай Зараніната прозвішча на працягу года штодзённа чакаў Зарану новы ліст ад салдата, а то і два. Танны канверцік без марак і ўпрыгожваючых экслібрысаў, коштам у капейку, а ў наборы — паўкапейку, з дробным, роўным мужчынскім почыркам радаваў сваёй абавязковасцю і надзейнасцю не толькі вока і душу адрасаткі... Раптам майскімі днямі ячэйка апусцела.

Група змовілася блізкім летам, пасля заканчэння другога курса, паехаць у Крым на мора. Падрадзіліся ў тамашнім саўгасе збіраць таматы ў полі. Докер сваёй каханай вандроўку забараніў! Зарана не паслухала, эпісталярна паведаміла кавалеру, што ўсё-такі паедзе на поўдзень. Гэта маленькае выпакутаванае непаслушэнства прыдало Заране самапавагі і ўпэўненасці. Дзяўчына стала яшчэ прыгажэйшай: рысы яе твару набылі прыцягальную адметнасць. Ухажоры паўднёвыя і свойскія пчаліным роем віліся вакол Зоры.

Прыезджых хлопцаў мясцовыя білі. Дубасілі гасцей крымчане жорстка і бязлітасцівa. Звычайна, у самы разгар бойкі хтосьці з «іх пераможцаў» узлятаў на другі паверх гуртжытла, нахаду кулаком выбіваў «апошнюю перашкоду» — драўляную плашку ніколі не зачыненых на ключ дзвярэй дзяўчачага пакоя, уторкваў у праём тупаватую, разгарачаную бойкай фізіяномію, аглядаў студэнтак, мігам крутануўшыся, адкрываў нагой дзверы і апынаўся ў праходзе цалкам, хапаў на рукі збянтэжаную Зарану, быццам ёй штосьці пагражае. Пад зайздраснымі позіркамі хлоцаў і дзяўчат выносіў яе на калідор. На тым канфлікт стухаў да наступнага разу. Здавалася, бойкі толькі дзеля таго і распачыналіся, каб «выратаваць» Зарану, хоць ні адзін з герояў так і не атрымаў прыхільнасці. Але і пра свайго Докера гаворак яна больш не вяла...

Лета прайшло без вестак ад салдата. Пачаўся трэці курс. Неяк сама сабой завялася ў Зараны звычка праходзіць паўз ячэйкі фанернай скрыні хуценька, без прыпынку. Яна не выдавала тварам ні роспачы, ні адчаю, заставалася па ранейшаму заўсёды з добрым настроі.

Кастрычніцкім суботнім вечарам, калі сямейныя Зараны зграбалі і палілі ў садзе сухое лісце, яна вынесла з дому ўвесі сты цюк салдацкіх лістоў, акуратна перавязаны блакітнай стужкай, і, разгортваючы кожны канверт, стала кідаць у вогнішча павольна паасобку, нібы развітваючыся, чакаючы вызвалення: канверт, ліст, паштоўку — карцінкі непрыкрытага сэксу. Невядома навошта кожны раз Докер укладваў для сваёй юнай нявесты парнаграфічную картку...

Вось чыё прозвішча значылася пад фотакарткай мардаценькага дзядзькі ў маіх гасцях на сайце «АДНАКЛАСНІКІ»! Гэта Заранінага Докера так па сапраўднаму звалі. З чаго б гэта чалавек, зусім да мяне ніякага дачынення не меўшы, стаў цікавіцца мною?

Наступным днём мяне чакала на сайце звестка. Зарана паведамляла, што расшукала мяне са старонкі мужа, бо сваёй заводзіць не стала.

Так, так, яны пажаніліся ў самым канцы чацвёртага курса, калі Докер вярнуўся з арміі. Здымалі кватэру, але не прыжыліся ў горадзе, паехалі дамоў, дзе Зарану чакала родная музычная школа. І нават на адным з першых педагагічных семінараў, якія ладзілі пры Саюзе (потым сталі грошы на ўсім эканоміць) я неяк сустрэла Зарану. Яна, ужо крыху памажнелая, пакругнелая, але па ранейшаму смяшлівая, простая і мілая, жалілася на свайго тады ўжо мужа: «Ведаеш, даскакаўся. Лётаў-лётаў па танцульках і атрымаў! Адбілі ўсё, што ёсць. Ледзь вычухаўся ў рэанімацыі. Дужа хварэе». Яна прамаўляла словы як звычайнае, штодзённае, норму. Мне вельмі цяжка было зразумець такі лёгкі Зорын характар, я не ўмею глядзець на жыццё проста. У мяне ўсё складана, праз сетку прычынна-выніковых сувязяў, з каранямі і шлейфамі, з ланцугамі паслядоўнасці... Зайздрошчу Заране па ўсіх накірунках. Менавіта такой і трэба быць сапраўднай ЖАНЧЫНЕ.

Выходзіць, адумаўся Докер, узяўся за галаву, стаў фермерам, адбудаваў дом-палац. Выхавалі дзяцей.

Я разглядала фотаздымкі і ні на адным не адшукала Зараны. За час развітання мае аднакурснікі і аднакурсніцы разам са мной парабіліся непазнавальнымі, аднак не да такой жа ступені, каб зусім не пазнаць чалавека. Зараны на фота не было. Мая багатая фантазія пачала маляваць розныя варыянты развіцця жанчыны ў такіх умовах. Уяўляла гаспадынь падобных сядзіб: грубых, мажных, скварных, самазадаволеных цётак з дадаткам індывідуальных рысаў. Унізвала пальцы Зоры залатымі пярсцёнкамі. Яны ў яе былі і ў юнацтве, ды ніколі не ўплывалі на душу і розум. Уяўляла ссохлую, змучаную работай, прыгнечаную мужам кабету, толькі што і здольную рыць гектары бульбы і буракоў. Двор трымаць у парадку, дом у чысціні — трэба быць прафесійнай домработніцай. Не... Гэта ўсё не Зарана. Я глядзела на фотаздымкі яе дачушак, рэдкаснай прыгажосці — абразкоў сапраўднай жаноцкасці (проста копіі колішняй юнай Зараны), і верыла: яна засталася такой жа прыгожай, проста не любіць фатаграфавацца, не любіць выстаўляць на паказ свае «фотасесіі».

# Стома метала



Юрка ГОЛУБ

### Безназоўнае

*Заплаканы голас расы*
*Запрасіны робіць за шыбай.*
*Адну з найвысокіх раслін*
*Схапіла праменне за шыю.*

*Пад вокнамі ходзіць раса,*
*Чапляе за боты пад плотам.*
*Тут поначы зорка расла,*
*Каб знікнуць у вечнасці потым.*

*Забудзьма пра ноч назаўжды.*
*Успомнім наўскід далягляды.*
*Віецца дарога, як дым,*
*І воку праз дым далягае.*

*Навошта агхоблі радкам:*
*Патрэба ў калёсах адпала.*
*Дзе рэчышча значыць рака,*
*Пасталі разгублена пáлі.*

*Узгорак.*
*Жаўрук.*
*І рышток.*
*Плячо не даецца прыклáду.*
*З уласнай душою раство*
*Даводзім сумесна да ладу.*

### Пра талент

*Ён з неба ласкаю надзелены*
*Па лужах шлэпаў басаніж.*
*І слова з крэменя з надзеяю*
*Красаў упарта дзень і ноч.*
*Зайздроснікі жадалі крэсіва*
*Сабе забавіць з-пад крыса.*
*Ды лёс у таленту не скрэсліў,*
*Бо злоснікам не ў зуб краса.*

*Спякота джгала невыносная,*
*А сцюжа клікала сустаў.*
*Ён галубам з вясны да восені*
*Услед захоплена свістаў.*

*Не скрухі сцежка пад'ярэмная*
*Яго да вольніцы вяла.*
*Там высілкі былі дарэмнымі*
*Вужа, Ваякі і Вала.*

*Ірдзеюць між радкоў праталіны.*
*Дзе эпас з коп'ямі і сталь.*
*Апекаваўся творца талентам*
*І помнікам над ім паўстаў.*

***Алене Таболіч, перакладчыцы кнігі «Срэбны дождж».***

*Вёска Горна. Не з завуголля*
*Зазірае сюды Шэкспір.*
*Замяніў валачобны голуб*
*Клічнік лозунгу «Мы — за мір!»*

*Кракатлівы прарок пагоркаў,*
*Пазначае Пярун абшар.*
*Згодай слова цябе агорне,*
*І ў нязгодзе з няздарам дар.*

*Дождж любові квітнее змалку.*
*Горыч страты расце з віны.*
*Над зямлёй, як абломкам смальты,*
*Беларусі жаўро звініць.*

*Пачатковае школы лямец.*
*Коска з кропкаю — матылёк.*
*Немагчыма радзіму пляміць*
*І не зблізку, і не здалёк.*

*Век пры веку стаяць братамі:*
*Не махае між іх бязмен?*
*Беларуска для ўсіх Брытаній —*
*Англічанка з тутэйшых сцен.*

*Нібы рыбка з вадой — з табою —*
*Мова, свой радавод падоўж.*
*Пераклады Алены Таболіч*
*Тут агучвае срэбны дождж.*

### Стома метала

*У штопар шпурнуў самалёт*
*Вятрыска — на гала.*
*Дзе падаў, дыміла смалой...*
*Стома метала.*

*Да пірса дапоўз карабель,*
*А шлюпкі адсталі.*
*Аб дно субмарыны скрабе*
*Стома метала.*

*Жорны не круцяцца.*
*Млын.*
*Скобы вятруга зламала.*
*Мліва абмелена плынь.*
*Стома метала.*

*На корані крон і краін*
*Знямога крактала.*
*Сканала жалеза ў крыві —*
*Стома метала.*

### Хэй!

*Калі цябе страчае Візбу**
*І Домкыркана** чуцен звон.*
*Тутэйшы «Хэй!» галоснай візай*
*Вітае беларускі лён.*

*Калі праз Балтыку з парома*
*Цябе заклічуць з шведкай швед,*
*Дык тое значыць: вам пароўну*
*Даліся сэрцы і сусвет.*

* Горад на шведскім востраве Готланд.
** Сабор у Візбу.

### Выснова

*Нас жыццё за сабой вядзе.*
*Не дае апынуцца з краю.*
*Абыякіх чужой бядзе*
*Крывая сцежка карае.*

### Рэха

*Рэха клікала Цімоха:*
*— Дзе ты, хлопча? Вох ды вох!*
*Як грыбок з густога моху,*
*Адгукайся:*
*— Ту —ут! —*
*Цімох.*

### Шпацыр па вуліцы Ліможа

***Гродна і французкі Лімож — гарады — пабрацімы. (Даведка.)***

*Не варта каралёў*
*І не эскорт анёлаў,*
*Ляцяць — крыло ў крыло —*
*Нармандыя і Нёман.*

*На плечы і балкон*
*Аблок спадаюць пёркі,*
*А раптам з тых бакоў,*
*Дзе Францыі пагоркі.*

*Дзе Гаўра маякі —*
*Ніяк не паражэнцы.*
*Дзе зналі, як макі,*
*І нашых ураджэнцаў.*

*І кожны з іх ныраў*
*У той блакіт высокі,*
*Дзе, як казаў Рэнар,*
*Найпекныя аблокі.*

*Сінечы абажур —*
*То неба наша гожа.*
*«Дзень добры!» і «Банжур!»*
*На вуліцы Ліможа.*

### Летуценнік

*Каб асвойтацца ў абдымках кроз,*
*Адпаведна рыхтаваў матывы.*
*Усчынаў дыету, бегаў крос:*
*Тое значыць, нішчыў негатывы.*

# Шчаслівы вырай

Фелікс БАТОРЫН

***

*Перабляталіся вятры*
*У галінах старога саду,*
*І закручваюць віры*
*Палымянага лістападу.*

*Раздзімаюць яны падалы,*
*Крыссем лопаюць, быццам крыллем.*
*І сто тысяч вар'ятаў Далі*
*Дáлі жывапісам пакрылі.*

*І шырэе зямная шыр*
*У мінорна-барвянай гаме,*
*Як вялікі мыльны пухір,*
*Падтрыманы нябёс рукамі.*

*І ажно за краем зямлі,*
*За апошняй спіраллю віру,*
*Мы шукалі — і не знайшлі,*
*Дзе б мог быць нам шчаслівы вырай.*

*Пэўна, ў вырай не нам ляцець:*
*Нам застацца наканавана,*
*Дзе, разменена на медзь,*
*Наша золата ўскарбавана.*

***

*Я шчыра за грамадства спажывання:*
*Нашто стварэць, калі не спажываць?*
*Хай кожны вечар будзе плёнам рання,*
*А ранне будзе ўсім, як дабрадаць.*

*Хай на зямлі не застанецца злосці*
*І толькі творчым будзе неспакой,*
*Хай кожны існы радуе кагосьці*
*І радуецца радасці людской.*

*Хай стануць людзі сведкамі паўстання*
*Супольніцтва Майстроў і Маргарыт.*
*А хто жыве выключна спажываннем,*
*Не спажывец зусім, а паразіт.*

***

*Усіх кранаюць пэндзаль і струна.*
*Усіх раўняюць лазня і труна.*
*Ды я ад рання б мог да ночы мыцца,*
*Пасля чаго — ад цёмна да відна!*

### А трэцяй ночы

*У павуцінні цюлю*
*Павук даспелай поўні.*
*Гардзіну мы адтулім —*
*І замаўчым раптоўна.*

*Без зáсмужы ваконнай,*
*Без пожадзі гаморнай*
*Мы з вышыні балконнай*
*Убачым горад зорны.*

*Між каляровых зорак*
*Рэклам і светлафораў*
*Начны салодкі морак*
*Смыленне студзіць зморы.*

*Ні спрэчак, ні сутычак,*
*Ні марнай штурханіны;*
*І зрэдку жменькай знічак*
*Праносяцца машыны.*

### Запалка




*Ударыла блізка маланка — і выбіла пробкі.*
*І цемра густая напоўніла раптам пакой.*
*І я разгубіўся, ды быў гэты момант кароткі:*
*Запалка працягнута мне дружалюбнай рукой.*

*Без гучных прамоваў,*
*без казані пафасна-палкай,*
*Без ісцін грымотных — хоць іх*
*у скрыжалі ўпішы, —*
*Ціхмяны і сціплы мой сябар,*
*ты мне як запалка,*
*Калі раптам зробіцца цёмна*
*і страшна ў душы.*

*Я чыркну запалкай.*
*Ажно да апечаных пальцаў*
*Яна мне свяціцьме ў блуканнях*
*па цёмных кутах.*
*А потым упарта я ў памяці буду капацца,*
*Каб вобмацкам вызначыць*
*свой мудрагелісты шлях.*

*Маленькі кавалачак дзерава*
*з кропелькай серы,*
*Хвіліннае сонца, ратунак у змроку зямным,*
*Я веру ў цябе, калі ў іншае болей не веру,*
*Калі пагасаюць свяцілы адно за адным.*

***

*Запеніцца чарніла, забунтуе,*
*Пачырванее пена, быццам з вен,*
*Запоўніць цераз край душу пустую,*
*Прасочыцца праз маналіты сцен.*

*Лягчэе слова й набірае важкасць,*
*Сягае ў недасяжнасць вышыні.*
*І ў нашасць перакідваецца вашасць,*
*І блікі свечак топяць камяні.*

***

*Мы мелі хвіліну і ў тую хвіліну маглі*
*Змясціць усю слодыч, што прагу*
*натоліць зямлі.*

*Мы мелі гады, у якіх бракавала хвілін*
*І нечага шчэ, што не здольна прыйсці*
*ва ўспамін.*

*Мы ведалі вернасць, што горшай*
*бывала ад здрад.*
*Мы мелі набыткі, што нам*
*не папоўнілі страт.*

*І вось на мяжы, за якую мы мусім пайсці,*
*Так хочацца жыць, як ніколі дасюль*
*у жыцці.*

***

*З ідэі ў ідэю, з надзеі ў надзею,*
*У веру ізноў з паняверкі –*
*Вось так і жыву я, вось так і мадзею*
*І множу прыкідкі-прымеркі.*
*Куды ні прыду – у завулак, на плошчу –*
*Прасторы для сэрца не бачу,*
*І шчыра зайздрошчу, нязлосна зайздрошчу,*
*Хто ўмее і можа інакш.*

# Мы наш, мы новы…



Валянцін ДУБАТОЎКА

*…І сказаў Яму д'ябал: табе дам уладу над усімі гэтымі царствамі і славу іх, бо яна аддадзена мне, і я, каму хачу, даю яе; і вось, калі Ты пакланішся мне, дык усё будзе Тваё.*

*Ісус сказаў яму ў адказ: адыдзі ад Мяне, сатана; напісана: «Госпаду Богу пакланяйся і Яму аднаму служы».*

*Паводле Лукаша Святое Дабравесце, раздзел 4: 6–8.*

## 1. Мы — сіла

Паўлюшэнка пацягнуў бацюшку за доўгія сівыя валасы і нагой з усяго маху выцяў па твары. Пажылы святар застагнаў.

— Не-не, пастой, гэта яшчэ не ўсё, — злосна прабурчаў Сіўкоў, чыркнуўшы некалькі разоў запалкай.

— Бл…ць, прамоклі да рэшты, — адкінуўшы разлезлую каробку ўбок, Сіўкоў звярнуўся да Шэхмана:

— Дай сваіх, бачыш — мае не гараць.

Камсамолец, што ішоў нападрадзе і цягнуў бацюшку за рукі, на хвіліну прыпыніўся, абтрос рукі, каб не забрудзіць нагавіцы, і сунуў руку ў кішэнь. Збіты чалавек, адчуўшы хвілінную палёгку, ціха застагнаў. Але і стагнаць яму было цяжка.

— Э-э, харош там марудзіць, бачыш — ён ужо ажывае, — уладна прамовіў Луковіч.

Камсамольцы замітусіліся. Праз хвіліну Шэхман працягнуў запалкі Сіўкову.

— Ну што, поп, зараз мы цябе паголім. — Шэхман нахіліўся, чыркнуў запалкай і паднёс агеньчык да барады збітага. Залітыя крывёй валасы не загараліся. Сіўкоў адну за адной нярвова адкідваў убок згарэлыя запалкі. Няўдалыя спробы падпаліць бараду бацюшкі яшчэ болей злавалі Сіўкова, і ён урэшце плюнуў на карабок і кінуў яго ў твар ахвяры.

— Бачыш, поп, з-за тваёй юшкі ніяк не магу распаліць вогнішча.

Ячэйка ў поўным складзе з'едліва і гучна зарагатала.

Святар сабраў усе свае сілы і ледзь чутна прашаптаў:

— Даруй ім, Госпадзе, не ведаюць, што вытвараюць.

— Даруй-падаруй, — перакрыўляючы бацюшку, здзекліва прамовіў Луковіч. Пасля павярнуўся да сваіх хаўруснікаў і зарагатаў. Камсамольцы падтрымалі свайго сакратара.

— Бачыш, поп, бяссільны твой Бог. Нічога ён з намі зрабіць не можа, і знаеш чаму? Таму, што мы сіла, за намі партыя, за намі Сталін і ўвесь Савецкі Саюз. А за табой хто? Папяровы ідал у драўлянай рамцы, — нібы на камсамольскім сходзе, упэўнена заявіў Луковіч.

Масіўнае цела збітага пажылога чалавека было цяжка валакчы па расхляпанай восеньскай дарозе. Чым болей камсамольцы стамляліся, тым даўжэй білі яны на прывалах сваю ахвяру. Нарэшце працэсія выйшла на самае высокае месца ў наваколлі. Менавіта тут, на ўзвышшы, рос стары разгалісты дуб, каля якога жыхары навакольных вёсак святкавалі Купалле.

— У-ух, ну нарэшце дайшлі. Бачыш, поп, якую мы табе званіцу выбралі. Зараз туды цябе падсадзім, а там і да бога твайго недалёка, — здзекліва прамовіў сакратар.

Бацюшка расплюшчыў акрываўленыя павекі. Перад ім стаяў стары дуб. На залітым крывёю твары святара з'явілася ўсмешка.

— Вы паглядзіце на яго, ён жа з нас збыткуе, — прашамкаў збянтэжаны Луковіч і садануў кулаком па ацеклым твары.

Удар сакратара паслужыў сігналам астатнім камсамольцам, і яны, як ваўкі, накінуліся на паміраючага чалавека.

Бацюшка ўжо ніяк не рэагаваў на ўдары і толькі ўсё цішэй і цішэй гаварыў:

— Госпадзе, даруй, Госпадзе, даруй…

Тры дні вісела на дубе цела святара. І тры дні ішоў бясконцы восеньскі дождж, нібы абмываючы цела закатаванага. Мясцовыя сабакі і днём, і ноччу выклі ў наваколлі. Але ім, у адрозненне ад людзей, мясцовыя камсамольцы нічога не маглі зрабіць.

Праз тры дні цела бацюшкі некуды знікла. І колькі Луковіч і яго хаўруснікі ні шукалі, хто зняў нябожчыка з шыбеніцы — так нікога і не знайшлі.

А стары дуб неўзабаве засох. Перад самым пачаткам вайны ўначы ў яго трапіла маланка, і ён згарэў дарэшты.

## 2. Кат

Паўлюшэнку калаціла пасля ўчарашняга, як ад лютага марозу. Перасоўваўся ён па хаце павольна і асцярожна, як стары нямоглы чалавек. А было яму не болей за дваццаць пяць гадоў. З таго часу, калі Паўлюшэнка разам з іншымі камсамольцамі мясцовай ячэйкі закатаваў вясковага бацюшку, ён перастаў спакойна спаць. Каб хоць як-небудзь заснуць, гаспадар хаціны напіваўся кожны вечар да непрытомнасці.

Два месяцы таму жонка Паўлюшэнкі нарадзіла дзіця. Дзяўчынка з'явілася на свет кволай і пражыла на божым свеце ўсяго некалькі дзён. Жонка ад гора кранулася розумам. Яе забралі ў Навагрудскую бальніцу, дзе за тыдзень няшчасная згарэла ад невядомай хваробы.

— Дзе ж пахмяліцца? — думкі, нібыта надакучлівыя мухі, мітусіліся ў галаве небаракі. Дрыжачымі рукамі ён падняў з падлогі пажоўклы акурак і запаліў. Па хаце пацягнуўся шэры смуродлівы дым.

— От, бляха, — акурак апёк губу, і камсамолец выплюнуў яго на непадмецены ток. Злосна вылаяўшыся, ён сплюнуў сабе пад ногі і, асцярожна абапёршыся аб край засмечанага стала, вызірнуў у акно.

— Та-ак, у сельсавеце ўжо хтосьці ёсць, — павольна падняўся, накінуў на плечы фрэнч і выпаўз з хаты.

— Луковіч у сябе? — спытаўся Паўлюшэнка ў Шэхмана, які



Фота www.rosbalt.ru

стаяў на ганку, і, не чакаючы адказу, зайшоў у сельсавет.

— Гарэлка ёсць? — не вітаючыся, прагаварыў ён і ўзяўся метадычна абшукваць шафы і шкафчыкі кабінета.

— Ты што, зусім здурэў!? — уладна выкрыкнуў, падняўшыся са свайго месца, старшыня сельсавета.

— Пайшоў ты на х..! — не звяртаючы ўвагі на ўсхваляванага старшыню, прамовіў Паўлюшэнка і працягнуў пошукі.

— О-о! — з ніжняй шуфляды шафы для адзення камсамолец выцягнуў «польскі літар», напалову запоўнены мутнай вадкасцю. Ён дастаў корак і дрыжачымі рукамі нахіліў пасудзіну сабе ў рот. Выдыхнуў паветра і яшчэ раз прыклаўся, смакуючы.

— Ты што робіш, паскудзіна? — але Паўлюшэнка ніяк не рэагаваў на лямант Луковіча. Старшыня рэзка падняўся і ў два крокі падскочыў да п'яніцы. Пасля непрацяглае сутычкі «польскі літар» быў ужо ў старшыні.

— Хопіць! Згарыш ад гэтай гарэлкі, калі піць не кінеш!

— Ніколі.

— На лячэнне цябе адправім.

— А мне хоць куды, я ўжо ні спаць, ні есці не магу.

— Ну дык піць кінь, ты ж камсамолец.

— Знаеш, сакратар, як толькі кідаю піць, прывіды да мяне прыходзяць: жонка, дзіця. Людзі кажуць, каб у царкву схадзіў ды паніхіду па іх замовіў. Але не магу я туды ісці…

— Ты цемрашальства сваё кінь. Якая яшчэ царква? Гэта ўсё ад гарэлкі, усе твае прывіды, — Луковіч паставіў на стол бутэльку і падышоў да Паўлюшэнкі. — Кінь піць, выйдзі на працу — і ўсё будзе добра, — старшыня па-сяброўску абняў Паўлюшэнку за плечы.

— Дай яшчэ глытнуць, хоць раз!

— Не дам, пайшоў адсюль! — старшыня адпіхнуў п'янага на некалькі крокаў ад сябе. Не хочучы зноў ісці на абвастрэнне, Паўлюшэнка павольна выйшаў з будынка сельсавета і, ледзь перастаўляючы ногі, павольна пацёгся да сваёй хаты.

Ён прачнуўся ноччу мокры, як хрушч. Цела калацілася яшчэ мацней, чым звычайна.

— Тата, тата! — Паўлюшэнка павярнуў галаву і ўбачыў каля печы малое, якое цягнула да яго рукі. Ён падняўся, павольна падышоў да дзіцяці і паспрабаваў яго абняць. Але на тым месцы ўжо нікога не было.

— Дзе ты? — І ён раптам заўважыў на сваім ложку нябожчыцу-жонку і дзіця. Амаль нячутна падкраўся да ложка і, каб не спалохаць іх, ціхенька прылёг побач. Яму стала добра і лёгка. Каханая жонка была побач, тут жа — яго дзіцятка, жывенькае і здаровенькае…

Луковіч сядзеў за сталом і перабіраў партыйныя паперы.

— Таварыш старшыня! — ён падняў галаву ад стала і паглядзеў на дзверы.

У памяшканне забег запыханы Сіўкоў.

— Цішэй, цішэй ты, — прамовіў старшыня сельсавета.

Сіўкоў адсопся і крыкнуў:

— Паўлюшэнка павесіўся!

Луковіч ускочыў з месца:

— Што?!

— Паўлюшэнка павесіўся ў сваёй хаце.

— Як, не можа быць! — зніякавеў Луковіч.

— Перакінуў вяроўку праз бэльку… і ўсё, — разгублена прамовіў Сіўкоў. Абодва замоўклі.

Праз дзень на мясцовых могілках з'явіўся драўляны помнік з чырвонай зоркай. Прастаяў ён нядоўга. Падчас вайны хцівыя земляк Паўлюшэнкі сцягнулі абы-як збітую тумбу сабе на дровы. І ўжо праз некалькі гадоў нават самыя блізкія сваякі нябожчыка не маглі паказаць, дзе быў пахаваны былы камсамолец…

## Юда

Падвода, як цяжарная баба, павольна перавальвалася праз камяні пыльнай палявой дарогі. Сіўкоў сядзеў у драбінах і жаваў свежы хлеб, які перад ад'ездам схапіў са стала. Да Навагрудка яшчэ было далёка, таму паразважаць пра жыццё ў Сіўкова быў час.

У паліцыі служыць можна, і плоцяць добра, і харч неблагі даюць, а галоўнае — увесь час нешта перападае. Тут Сіўкоў стаў успамінаць, колькі ён канфіскаваў маёмасці ў габрэяў ды ўсіх астатніх з таго часу, як стаў памочнікам начальніка мясцовай паліцыі. У траўні зганялі габрэяў у гета, а золата і срэбра цішком забіралі сабе. Расстралялі на тым тыдні савецкіх ваеннапалонных, ад іх засталіся шынялі і папругі. У мясцовых бальшавікоў… Пасля згадкі пра апошніх Сіўкову стала нейк не па сабе. Па-першае, ён сам да вайны ўваходзіў у мясцовую камсамольскую ячэйку. Па-другое, узяць у тых галадранцаў ды п'яніцаў не было чаго.

От і добра, што я ад іх уцёк. Хіба ж мне, гаспадарліваму, месца каля той басоты? А служба ў паліцыі — зусім іншая справа. Тут табе і грошы, і ўлада, і павага. А галоўнае — сканфіскаванага і дзецям хопіць. А яны ў мяне такія харошыя: старэйшая дзяўчынка і малодшы хлопчык. Ён на хвіліну ўявіў, як будзе важна жыць пры немцах пасля вайны. Сіўкоў выпадкова зірнуў на гадзіннік, які зняў летась з расстралянага палітрука. Хутка полудзень, трэба спяшацца. Пад вечар маецца быць экзекуцыя ў адной з мясцовых вёсак. А як жа без мяне, можа, і там штосьці перападзе.

— Но-о, но-о, каб цябе халера! — паліцай з усяе сілы сцебануў кабылу пугай. Тая ад болю і страху ірванула з месца, як ашпараная. Акаваныя колы падводы залескаталі па дарожных камянях, нібы танкавыя гусеніцы.

Паўдня прамарудзіўшы, Сіўкоў выйшаў з будынка камендатуры і акінуў поглядам наваколле. Цёплы летні вечар надыходзіў няўмольна. Паліцай спрытна залез на падводу і па-гаспадарску ўсеўся на загадзя падрыхтаванае месца.

Да роднай вёскі заставалася толькі адолець горку і мінуць пералесак. У гэты самы момант Сіўкоў заўважыў, як з-за лесу вырастае вялізны клуб дыму.

Паліцай падганяў кабылу. Трывога ў душы нарастала. Не чакаючы, калі падвода ўзбярэцца на пагорак, Сіўкоў, прытрымліваючыся за драбіны, падняўся на ногі.

Убачанае ўразіла Сіўкова. Родная вёска гарэла ўся: ад пачатку да канца.

— Яці тваю маць, паляць вёску! А мая хата!? — Сіўкоў стараўся разгледзець сярод дыму свой падворак, але гэта яму не ўдавалася.

— Сукі, а маю хату навошта, я ж свой! — пад'язджаючы да свайго, таксама ахопленага полымем жытла, ён на хаду саскочыў з падводы. Паліцай з мацюкамі бегаў вакол хаты і спрабаваў хоць штосьці ўратаваць. У агні гінула ўсё, што было дорага яму: грошы, рэчы. І тут ён раптам спахапіўся: а жонка, дзеці… дзе яны?! Сіўкоў прыслухаўся. Дзесьці здалёк чуліся крыкі.

Няўжо ў старой Каўшовай кузні паляць? Сіўкоў імгненна ўскочыў на падводу.

— Но пайшла, но!

Перапалоханая кабыла зноў рванула з месца. Праз некалькі хвілін падвода прыімчала да кузні.

— Што ж вы робіце?! Што ж вы робіце?! — залямантаваў ашалелы Сіўкоў. Салдаты з Вафэн СС у чорнай форме з аўтаматамі наўзгатоўку шчыльнымі шыхтамі стаялі вакол палаючай кузні і ніяк не рэагавалі на крыкі паліцая.

— Што ж вы робіце, панове, там жа мае дзеці! — Сіўкоў, як сабака, бегаў, круціўся каля карнікаў. І калі ён у бездапаможнасці і разгубленасці на хвіліну спыніўся, то пачуў сярод іншых крыкаў галасы сваіх дзяцей.

— Тата, ратуй нас, тата!

Сіўкоў хацеў кінуцца ў вогнішча, але агонь, як люты звер, адагнаў яго. Паліцай у роспачы ўпаў на зямлю і жудасна заенчыў.

За гадзіну кузня дагарэла. За некалькі крокаў ад галавешак, адкінуўшы ўбок правую руку з рэвальверам, ляжала масіўнае цела ў паліцэйскай форме. Са скроні на апаленую зямлю сцякала рудая цягучая кроў…

# Кастусь Каліноўскі



Уладзімір АРЛОЎ

**Гэты чалавек марыў пра незалежную будучыню для народаў былой Рэчы Паспалітай і найперш — для сваіх суайчыннікаў-беларусаў. Кастусь пражыў кароткае, але яскравае гераічнае жыццё, аддадзенае змаганню за свабоду і справядлівасць.**

## З роду «Калінова»

Будучы паўстанцкі камандзір нарадзіўся 2 лютага 1838 года ў беларускай вёсцы Мастаўляны на беразе Свіслачы. Вёска спрадвеку была ў Гарадзенскім павеце, але цяпер яна знаходзіцца ў Падляшскім ваяводстве Польшчы. У Мастаўлянах, што зусім побач з мяжой Беларусі, і ў нашы дні гавораць па-беларуску.

Беларускі шляхецкі род Каліноўскіх, вядомы ад XVII стагоддзя, карыстаўся гербам «Калінова». Хлопчыка ахрысцілі двойчы, і ён меў два імя, але ў паўсядзённым жыцці яго заўсёды называлі адным — Кастусь.

Кастусёў бацька Сымон валодаў ткацкай фабрыкай, а пазней і маёнткам Якушоўка паблізу мястэчка Свіслач. Сымон Каліноўскі быў руплівым і заможным гаспадаром: абрусы, сурвэткі, бялізна з ягонай фабрыкі добра прадаваліся па ўсёй Гарадзеншчыне. Маці нашага нацыянальнага героя Вераніка таксама паходзіла са шляхты. Яна пакінула гэты свет, калі сыну было ўсяго пяць гадоў. Кастусь меў дзесяць родных братоў і сясцёр, але бальшыня з іх рана памерла ад хваробаў. Больш за ўсіх пражыў Кастусь, хоць і яму выпаў кароткі век — усяго 26 гадоў.

Спачатку хлопчык вучыўся ў хатняга настаўніка-«дарэктара», а потым скончыў знакамітую Свіслацкую гімназію, дзе жыла моцная памяць пра філаматаў і філарэтаў. Там спасцігалі навуку шмат вядомых пазней людзей — мастакоў, пісьменнікаў, вучоных. У гэтай навучальні крыху раней за Каліноўскага займаліся Рамуальд Траўгут, Уладзіслаў Малахоўскі, Адольф Белакоз ды іншыя юнакі з навакольных шляхецкіх сем'яў, якія потым сталі ўдзельнікамі і кіраўнікамі збройнага змагання з царызмам. Гімназіст Каліноўскі вылучаўся удумлівасцю і стараннасцю, а таксама тым, што ніколі не цярпеў хлусні і несправядлівасці.

Пасля гімназіі Кастусь тры гады дапамагаў бацьку на маёнткавай гаспадарцы ў Якушоўцы, куды з Мастаўлянаў пераехала і ткацкая фабрыка. Ён быў працавітым і кемлівым юнаком, але імкнуўся вучыцца далей — ва ўніверсітэце. У вольныя ад працы хвіліны Кастуся найчасцей можна было ўбачыць з кнігамі і сшыткамі. Апрача таго, Сымон Каліноўскі ажаніўся другі раз, а з мачахай стасункі ў Кастуся былі не надта цёплыя: ён не мог забыць чуласць і клапатлівасць матулі Веранікі.

## Брат Віктар

Найлепшым сябрам Кастуся стаў старэйшы на пяць гадоў брат Віктар. Той ужо быў студэнтам Маскоўскага ўніверсітэта. Вучыўся на медыцынскім факультэце, хацеў стаць доктарам і ратаваць людзей ад хваробаў, бо з дзяцінства памятаў, як памірала маці, як згасалі ад немачаў браты і сёстры. Аднак сам захварэў на невылечныя тады сухоты (туберкулёз) і мусіў зноў і зноў перапыняць навучанне. Урэшце Віктара выключылі з універсітэта, але не праз слабое здароўе, а таму, што ўзяў на сябе віну іншага студэнта, абвінавачанага ў распаўсюдзе забароненых антыўрадавых кніг.

У Маскве старэйшы брат Кастуся зарабляў на жыццё тым, што на замовы ліцвінскіх магнатаў і шляхты збіраў звесткі пра іхнія радаводы. Дзеля гэтага трэба было працаваць у архіўных сховішчах. Туды расейскія каланізатары звозілі з Літвы-Беларусі ўсе каштоўныя гістарычныя дакументы, у тым ліку і шляхецкія архівы. Віктар захапіўся мінулым роднага краю, найперш тымі часамі, калі ліцьвіны-беларусы мелі сваю незалежную дзяржаву. Грунтоўна займаўся ён і вывучэннем межаў тэрыторыі, дзе гавораць па-беларуску. Цікавасць да гісторыі ён перадаў і Кастусю. Малодшы брат пераехаў у Маскву і рыхтаваўся да ўніверсітэцкіх уступных экзаменаў, адначасова дапамагаючы старэйшаму ў архіўнай працы.

**Кастусь Каліноўскі быў бліскучым канспіратарам. Ён безліч разоў абводзіў вакол пальца царскіх жандараў, якія часта ўжо ішлі за ім па пятах і былі ўпэўненыя, што вось-вось «асабліва небяспечны злачынец» будзе ў іхніх руках.**

Маскоўскія гістарычныя росшукі Віктара Каліноўскага заўважыла і высока ацаніла Віленская археалагічная камісія. Яе для вывучэння беларускай даўніны стварылі гісторыкі Яўстах і Канстанцін Тышкевічы з аднадумцамі. Камісія замовіла Віктару пошук нашых старадаўніх дакументаў у Пецярбурзе. Разам з братам у сталіцу Расейскай імперыі накіраваўся і Кастусь.

Асноўным месцам працы старэйшага Каліноўскага была Пецярбургская публічная бібліятэка. Ён бываў там штодня і заслужыў у сяброў мянушку Бібліятэкар. Віктар пісаў, што асабліва радаваўся, калі знаходзіў дакументы «на гаворцы крывіцкай, якую можна называць беларускай». Ён жыў вельмі сціпла, а большую частку заробленых грошай траціў на кнігі, сабраўшы цэлую бібліятэку з двухсот тамоў пра гісторыю Вялікага Княства Літоўскага.

Але Віктар Каліноўскі меў важныя справы і за сценамі архіваў і бібліятэк. Яго нездарма называлі другім Тамашом Занам. Як і кіраўнік таемнага таварыства філарэтаў, Віктар самаахвярна працаваў у падпольных суполках, рыхтаваў да ўступлення ў іх моладзь. Сярод ягоных выхаванцаў быў сын расейскага купца-мільянера Мікалай Уцін. Ён потым стаў адным з важакоў рэвалюцыйнага таварыства «Зямля і воля».

У жніўні 1862 года над Віктарам навісла пагроза арышту. Тым часам дактары паведамілі, што сухоты пакідаюць яму ўсяго некалькі месяцаў жыцця. Каліноўскі-старэйшы вярнуўся ў бацькоўскі дом, дзе і прайшлі ягоныя астатнія дні. Віктар пахаваны ў мястэчку Свіслач. Цяпер у гонар брата нашага нацыянальнага героя там штогод святкуецца Дзень памяці паўстанцаў.

## Вольнае сэрца

Канстанцін Каліноўскі вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Першыя два гады ён не мог ганарыцца добрымі адзнакамі, бо амаль увесь вольны ад лекцый час мусіў зарабляць грошы на жыццё прыватнымі ўрокамі. Але ў выніку скончыў універсітэт выдатнікам.

Выкладчыкі і не здагадваліся, што здольны студэнт разам з братам Віктарам уваходзіць у таемны рэвалюцыйны гурток суайчыннікаў — афіцэраў Генеральнага штаба расейскай арміі. На чале суполкі стаялі будучыя кіраўнікі вызвольнага паўстання 1863 года Зыгмунт Серакоўскі і Яраслаў Дамброўскі.

Кастусь таксама ненавідзеў царскую ўладу ды імперскія парадкі. Пэўны час у гады студэнцтва ён, пратэстуючы супроць казённых універсітэцкіх правілаў, хадзіў не ў вызначаным адзенні, а ў сурдуце і ботах, а замест гальштука завязваў на шыю прывезены з дому беларускі ручнік.

Каліноўскі марыў пра вызваленне Айчыны і рыхтаваўся да барацьбы. Ён пакляўся прысвяціць гэтай справе ўсё жыццё. Ягонае сэрца прагнула здабыць волю не толькі для сябе, але і для ўсяго народа. Агіду і абурэнне выклікала ў Кастуся прыгоннае права, што набліжала сялянаў да становішча рабоў.

На пачатку 1861 года Каліноўскі здаў выпускныя іспыты, абараніў дысертацыю і атрымаў навуковую ступень кандыдата права. Выбар далейшага шляху быў ужо зроблены. Ён вяртаецца ў родную Літву-Беларусь і спрабуе ўладкавацца на службу да самога віленскага генерал-губернатара. Менавіта з былой сталіцы Вялікага Княства Кастусь плануе пачаць стварэнне сеткі паўстанцкіх суполак і падрыхтоўку збройнага змагання. Але, нягледзячы на рэкамендацыі ўплывовых сяброў і самога губернатарскага ад'ютанта, свайго будучага баявога паплечніка Людвіка Звяждоўскага, Кастусю няма даверу, і ён паўсюль атрымлівае адмову.

Каліноўскі вярнуўся на Гарадзеншчыну. Для прыкрыцця сваёй дзейнасці ён хацеў уладкавацца на працу следчым, але і гэтым разам у начальства ўзніклі сумневы. Трапіць на дзяржаўную службу зноў не атрымалася, аднак галоўная мэта не дазваляла марудзіць. Каліноўскі хутка стварыў моцную Гарадзенскую таемную арганізацыю і стаў сябрам віленскага цэнтра падрыхтоўкі паўстання.

## «Мужыцкая праўда» кліча да зброі

Улетку 1862 года ў беларускіх вёсках і мястэчках пачалі знаходзіць невялікія друкаваныя аркушы. У хвіліны адпачынку іх можна было разгладзіць на каленях, а пачытаўшы — лёгка схаваць. Гэта была першая ў гісторыі беларуская газета — «Мужыцкая праўда». Прачытаўшы яе назву, пісьменны селянін вадзіў пальцам па радках і здзіўлена адкрываў для сябе, што газета на зразумелай мове сапраўды гаворыць пра мужыцкую долю.

«Мужыцкую праўду» выдавалі Кастусь Каліноўскі з аднадумцамі — Феліксам Ражанскім, Станіславам Сангінам і Валерам Урублеўскім. Пад кожным нумарам газеты, якая выходзіла лацінскімі літарамі, стаяў подпіс — «Яська-гаспадар з-пад Вільні». Тым таямнічым Яськам назваўся сам Каліноўскі, які быў аўтарам і рэдактарам бальшыні нумароў. Ён сам займаўся і пашырэннем газеты: развозіў па паселішчах, раскідваў на дарогах.

Кастусь меў яскравы літаратурны талент. Дзякуючы гэтаму «Мужыцкая праўда» чыталася лёгка і проста, хоць і вяла гаворку пра зусім няпростыя рэчы. Газета тлумачыла беларусам, як царская ўлада іх падманвае і прыгнятае, як адбірае ў іх не толькі цяжка зробленыя грошы, але і родную мову ды бацькоўскую веру.

У першым нумары Яська-гаспадар пісаў: «Дзецюкі! Цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаць такую праўду справядлівую, як Бог на небе. Загрыміць нашая праўда і, як маланка, праляціць па свеце! Няхай спазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, але яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўдзе...». Словы Каліноўскага рабіліся крылатымі. Шмат якія з іх і сёння, праз паўтара стагоддзя, гучаць як надзённыя.

«Мужыцкая праўда» разляталася па ўсім абшары Беларусі. «У нас, дзецюкі, адно вучаць ў школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а то для таго, каб цябе саўсім перарабіці на маскаля... — звярталася газета да чытачоў. — За тое, што мы цару 25 гадоў на войнах служым без людскае стравы і адзежы, не дае нават кавалка зямлі... Ён, перакупіўшы многа папоў, плаціў грошы, каб толькі пераходзілі на праваслаўе, і адабраў ад нас нашу справядлівую вуніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам навекі».

Усяго з ліпеня 1862 года да красавіка 1863-га пабачылі свет сем нумароў газеты. Яна мела сярод сялян значны водгук. Шмат хто таемна чытаў «Мужыцкую праўду» непісьменным аднавяскоўцам, пакідаў газетныя аркушы ў людных месцах, каля капліц і крыжоў на раздарожжах, прыносіў у цэрквы і касцёлы.

Апошні нумар «Мужыцкай праўды» выйшаў ужо ў час паўстання. Там гучаў адкрыты заклік да збройнага змагання з каланізатарамі: «Падумайце добра ды, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашу вольнасць! Трэба нашым хлопцам спяшаць з віламі ды з косамі туды, дзе дабіваюцца волі ды праўды».

## Няўлоўны, як вецер

Кастусь Каліноўскі быў бліскучым канспіратарам. Ён безліч разоў абводзіў вакол пальца царскіх жандараў, якія часта ўжо ішлі за ім па пятах і былі ўпэўненыя, што вось-вось «асабліва небяспечны злачынец» будзе ў іхніх руках.

У кастрычніку 1862 года, калі да пачатку паўстання заставаліся лічаныя месяцы, Кастусь ехаў са Слоніма ў Ваўкавыск. У Слоніме ён сустракаўся з афіцэрамі артылерыйскай батарэі, якія падтрымлівалі вызвольны рух, а таксама з сябрамі патрыятычнай суполкі, што для прыкрыцця сваёй дзейнасці збіраліся пад выглядам чытачоў у гарадской бібліятэцы. Па дарозе Кастусь, як заўсёды, паўсюль пакідаў свежыя нумары «Мужыцкай праўды». Яны трапілі ў мястэчкі Ружаны і Падароск ды ў навакольныя вёскі. Весткі пра гэта дайшлі да слонімскага жандарскага прыстава. На паштовай станцыі, дзе падарожнік наймаў коней, прыстаў высветліў, што з «крамольнай газеткай» ехаў шляхціч Каліноўскі.

Рапарт пра гэта паляцеў гарадзенскаму губернатару, які загадаў жандарам неадкладна арыштаваць «смутьяна». Дзясяткі жандараў пачалі допыты і ператрусы ў дамах, дзе спыняўся Кастусь. Пра вынікі пошукаў яны мусілі данесці самому царскаму міністру ўнутраных справаў.

**На панараме — Лукішская плошча Вільні ў дзень пакарання смерцю правадыра паўстання Кастуся Каліноўскага. Гэтай марознай раніцай плошча ачэпленая ротай расейскіх салдатаў, а таксама казацкай вартай. Падрыхтоўкай да экзэкуцыі кіруюць жандарскія афіцэры. Некалькі сотняў віленчукоў прыйшлі на Лукішкі, каб убачыць апошнія хвіліны «караля Літвы». Сярод іх і паплечнікі Каліноўскага. Расейскія карнікі не падпускаюць людзей да шыбеніцы бліжэй за сотню метраў. Праз некалькі хвілін з'явіцца чорная арыштанцкая карэта, і Лукішкі сустрэнуць яе цяжкім гулам. Цяпер на гэтай плошчы ўсталяваны мемарыял, куды кожны дзень прыходзяць нашыя суайчыннікі, каб аддаць даніну памяці вялікаму беларусу.**

Тым часам няўлоўны Каліноўскі ў клопатах пра сваю таемную арганізацыю паспеў наведаць Вялікую Бераставіцу і Гародню, дзе не раз спакойна праходзіў каля губернатарскага дома.

Сакрэтны паліцэйскі нагляд усталявалі за маёнткам Каліноўскіх — Якушоўкай, але Кастусь здолеў таемна завітаць і туды, каб сустрэцца з бацькам і наведаць магілу нядаўна памерлага брата Віктара. Жандары атрымалі звесткі, што далей Каліноўскі накіраваўся ў Вільню, а той быў ужо у Пецярбурзе: вёў перамовы пра падтрымку з таемным таварыствам «Зямля і воля».

У часе самога паўстання жандары таксама мелі некалькі магчымасцяў схапіць правадыра змагароў, але ён заўсёды вырываўся з расстаўленых пастак. Аднаго разу ўзімку паліцыя ўварвалася ў віленскую кватэру на Зарэчнай вуліцы, дзе начаваў Кастусь. Ён паспеў у адной бялізне выслізнуць у вакно. Некалькі гадзін праляжаў на халодным, нібы лёд, даху, гледзячы на зоркі, але не выдаў сябе ніводным рухам. Калі няпрошаныя госці пайшлі, Кастусь быў з заінелымі валасамі і настолькі змерзлы, што ледзьве варушыў рукамі і нагамі. Аднак яго грэла думка, што застаўся на волі і не навёў бяды на гаспадароў, якія далі яму прытулак.

Некалькі разоў, загрымаваны і апрануты як царскі службовец, Каліноўскі знаходзіўся ў віленскіх кавярнях адначасова з царскімі жандарамі. Тыя мелі падрабязнае апісанне аблічча паўстанцкага правадыра, але і ўявіць не маглі, што той п'е каву за суседнім сталом…

У канспірацыі выдатна дапамагала Кастусю веданне моваў: апрача беларускай і польскай ён добра валодаў расейскай, французскай і нямецкай.

### Дзеля будучыні Айчыны

Яшчэ ўвосень 1862 года Каліноўскі ўзначаліў Літоўскі правінцыйны камітэт, які рыхтаваў збройную барацьбу супроць царскай улады ў Літве-Беларусі. Пасля пачатку паўстання Літоўскі камітэт абвясціў сябе Часовым урадам. Каліноўскі не хацеў падпарадкоўвацца варшаўскаму кіраўніцтву і патрабаваў раўнапраўя Вільні з Варшавай.

Кастусь і яго аднадумцы, якіх называлі «чырвонымі», выступалі за роўнасць усіх жыхароў краю і за перадачу зямлі сялянам. Часовы ўрад рассылаў паўстанцкім камандзірам інструкцыю, якая патрабавала судзіць найбольш жорсткіх прыгнятальнікаў сялян ваенным судом і караць іх смерцю. Каліноўскі лічыў, што ў будучым народы Рэчы Паспалітай, разарванай на кавалкі агрэсіўнымі суседзямі, павінны самі вырашаць свой лёс. Ён быў прыхільнікам таго, каб дзяржаўным ладам новых вольных краін была рэспубліка. «Белыя» дзеячы ў кіраўніцтве паўстання баяліся простага народу і найперш хацелі аднавіць колішнюю дзяржаву ў межах, якія яна мела да трох падзелаў. У той дзяржаве са сталіцай у Варшаве рэй павінны былі весці палякі.

«Белым» удалося адхіліць Каліноўскага ад кіраўніцтва. Кастусь стаў паўстанцкім камісарам Гарадзенскай губерні. Ён прыцягнуў да паўстання шмат сялянаў, што таксама не падабалася ягоным праціўнікам.

Каліноўскі аб'язджаў павет за паветам. Ён інспектаваў аддзелы патрыётаў і натхняў іх на далейшае змаганне. Тыя, хто вылучыўся ў баях з расейскім карнікамі, атрымлівалі з рук камісара ўзнагароды. Сваіх баявых медалёў і ордэнаў паўстанцкае камандаванне не мела, а таму героям перад шыхтом баявых таварышаў часам проста ўручалі кветкі. Часта гэта былі белыя кветкі каліны. Засушаную паміж старонкамі паходнага нататніка «каліну ад Каліноўскага» паўстанцы бераглі як неацэнны скарб, каштоўнейшы за ордэн.

На Гарадзеншчыне і Віленшчыне Каліноўскага пачалі называць «каралём Літвы». Усё часцей казалі, што ён хоча ўтварыць на землях былога Вялікага Княства Літоўскага асобную дзяржаву, незалежную ні ад Польшчы, ні ад Расеі. Пра гэтую адданасць Айчыне пазней напішуць ва ўспамінах і сябры, і непрыяцелі Кастуся.

Неўзабаве Каліноўскі і «чырвоныя» зноў прыйшлі да ўлады ў віленскім паўстанцкім цэнтры. Яны выдалі на беларускай мове «Прыказ да народу зямлі літоўскай і беларускай». Там гаварылася, што паўстанне — справа не панская, а агульная і змаганне ідзе дзеля «справядлівай вольнасці». Улетку 1863 года Кастусь зноў атрымаў вярхоўную ўладу над паўстанцкімі дзеяннямі ў Літве-Беларусі і працягваў адстойваць сваю, незалежную ад Варшавы палітыку.

Пад націскам шматкроць большых сілаў расейскіх карнікаў паўстанне ўжо задыхалася. Немалая частка шляхты, каб захаваць маёнткі, пайшла на згоду з расейскай уладай. Каліноўскі патрабаваў ад падначаленых бязлітасна караць адступнікаў.

Апошнія месяцы змагарнага 1863-га Каліноўскі жыў у Вільні пад штодзённай пагрозай арышту. З Пецярбурга яму даслалі пашпарт на чужое імя, што дазваляла выехаць за мяжу. Таварышы ўгаворвалі правадыра пакінуць Расейскую імперыю, але ён пастанавіў не пакідаць Айчыны і да канца змагацца за справу, якой прысвяціў жыццё.

Затрымаць Каліноўскага расейскім уладам не ўдавалася да канца студзеня 1864 года. Але здраднік Вітаўт Парфіяновіч на допыце выдаў паўстанскага правадыра, што жыў у Вільні побач са Святаянаўскім саборам пад імем Ігната Вітажэнца. Каб арыштаваць Кастуся, паслалі цэлыя дзве роты царскіх салдат, якія акружылі ўвесь гарадскі квартал.

### Нарачоная Марыя

Каханай адважнага паўстанцкага камандзіра стала віленчанка Марыя Ямант. Яна была сястрой надзейнага Кастусёвага сябра і аднадумца Язэпа. Юнакі пасябравалі яшчэ ў Пецярбургскім універсітэце. Калі Каліноўскі вярнуўся на радзіму рыхтаваць паўстанне, Язэп Ямант кінуў навучанне і паехаў следам. Кастусь часта бываў па сваіх рэвалюцыйных справах у Вільні, і сям'я Ямантаў прапанавала яму спыняецца ў іхняй кватэры на вуліцы Вялікай у самым цэнтры былой ліцьвінскай сталіцы. Там і адбылася першая сустрэча Кастуся і Марыі. Сябры потым сцвярджалі, што гэта было каханне з першага позірку.

На дварэ пачыналася вясна 1861 года. Каліноўскі меў дваццаць тры гады, Марыя — на тры меней. Яна была адукаванай дзяўчынаю: валодала замежнымі мовамі, добра ведала гісторыю, шмат чытала. Каліноўскі хутка зрабіўся ў Ямантаў самым жаданым госцем. Але гасцяваў ён не часта, бо мусіў бясконца вандраваць па Беларусі, гуртуючы змагарскія сілы. Калі закаханыя расставаліся, яны давяралі свае пачуцці шчырым і пяшчотным лістам.

Праз год пасля знаёмства Марыя зрабілася нарачонаю Кастуся. Яна атрымала ад каханага заручальны пярсцёнак і проста свяцілася шчасцем, хоць і прадчувала, што наперадзе іх чакаюць нялёгкія выпрабаванні. Надзею на хуткае вяселле перакрэсліў пачатак паўстання. Кватэра Ямантаў ператварылася ў сапраўдны паўстанцкі штаб. Менавіта там Каліноўскі сустракаўся з камісарам Нацыянальнага ўрада ў Варшаве і адстойваў будучую самастойнасць народаў Вялікага Княства Літоўскага і перадачу зямлі сялянам.

Тым часам Марыя разам з сёстрамі стварыла ў Вільні жаночы камітэт. Яго ўдзельніцы збіралі ахвяраванні для паўстанцкіх сем'яў, разносілі пошту, усялякімі шляхамі перадавалі зняволеным у турмах ежу, гарбату, свежую бялізну.

Той самай студзеньскай ноччу, калі царскія служкі схапілі Каліноўскага, арыштавалі і сям'ю Ямантаў. Кастусь быў зняволены ў былым дамініканскім кляштары, а Марыя — у манастырскіх мурах насупраць. Цётка Марыі — Ядзвіся — падкупіла ахову і здолела наладзіць паміж нарачонымі ліставанне. У адной з цыдулак да любай Каліноўскі пісаў: «Зайздрошчу свабодзе вароны, якую бачу з вакна на снезе». У тыя неверагодна цяжкія дні кожная вестачка адно аднаму дадавала душэўных сілаў.

Разам з бацькамі і сястрой Марыю, паводле выраку расейскіх суддзяў, выслалі на дзесяць гадоў у сібірскі горад Табольск. Увесь гэты тэрмін яна насіла жалобу па каханым.

### Лісты з-пад шыбеніцы

На следстве і на судзе Кастусь трымаўся непахісна. З турэмнай камеры Каліноўскі дзякуючы Марысьчынай цётцы Ядвісі перадаў на волю напісаны па-беларуску запавет — «Лісты з-пад шыбеніцы», якія ў арыгінале называюцца «Да люду беларускага». Над словамі запавета нам варта глыбока задумацца і сёння: «З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці і, можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, ды не жаль загінуць за тваю праўду… Няма большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады ён толькі зможа жыць у багацці і па праўдзе. Але як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам навука праўдзівая з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць, не для дабра, а на пагібель нашу».

Каліноўскі не жадаў няшчасця расейскаму народу, але лічыў, што ў выніку доўгага і ганебнага мангола-татарскага ярма і царскага прыгнёту з азіяцкімі парадкамі ў нашых суседзяў укаранілася няволя ды імкненне панаваць над усім светам. Таму, звяртаючыся да суайчыннікаў, Кастусь пісаў: «З-пад шыбеніцы кажу, народзе, што толькі тады зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе».

Запавет Каліноўскага быў цалкам надрукаваны ў Беларусі толькі тады, як пачаў развальвацца Савецкі Саюз — бальшавіцкая імперыя, што прыйшла на змену царскай. У ёй беларусы, як і іншыя народы, па-ранейшаму не мелі сапраўднай свабоды. Сёння ў нашай незалежнай краіне таксама ёсць сілы, што хацелі б вярнуць Беларусь назад, у падпарадкаванне Расеі. Яны баяцца памяці пра легендарнага Кастуся, які аддаў жыццё за волю і самастойнасць Айчыны.

Хлусня пра Каліноўскага трапляе нават у школьныя падручнікі. З праграмы па беларускай літаратуры выкінутая і «Мужыцкая праўда», і «Лісты з-пад шыбеніцы»…

### Магіла героя

Расейскі суд вынес пастанову расстраляць кіраўніка паўстання, але віленскі генерал-губернатар Мураўёў, празваны Вешальнікам, замяніў пакаранне на павешанне. Смерць на шыбеніцы была больш пакутлівай. Герой, якому нядаўна споўнілася ўсяго дваццаць шэсць летаў і зім, загінуў ад рук царскага ката 22 сакавіка 1864 года на Лукішскім пляцы ў Вільні. На месцы, дзе гэта адбылося, цяпер пастаўленая мемарыяльная пліта.

Цела Каліноўскага перавезлі на Замкавую гару (у наш час яна вядомая як гара Гедзіміна) і пахавалі разам з яшчэ дваццацю пакаранымі смерцю паўстанцамі на тэрыторыі расейскага гарнізона. Каб магіла паўстанцкага правадыра і ягоных паплечнікаў не зрабілася месцам пакланення патрыётаў, каланізатары зрабілі там пляцоўку для гульні ў крыкет. Расейскія афіцэры забаўляліся на касцях нашых герояў да пачатку Першай сусветнай вайны, пакуль царскі гарнізон не змушаны быў пакінуць Вільню.

У 1920–1930 гады на магіле паўстанцаў існаваў мемарыял з іхнімі імёнамі. Аднак пасля таго, як у 1939-м Сталін аддаў Вільню літоўцам, мемарыял быў апаганены і знішчаны. Надмагільнага помніка Каліноўскаму і ягоным баявым пабрацімам няма дагэтуль. У 2017–2018 гадах літоўскія археолагі даследавалі братнюю магілу на гары Гедзіміна і пацвердзілі, што там сапраўды пахаваны 21 паўстанец. Былі знойдзеныя і парэшткі Кастуся Каліноўскага са звязанымі за спінай рукамі. Найверагодней, якраз яму належаў знойдзены ў братняй магіле медальён з абразком Маці Божай Вастрабрамскай.

Парэшткі паўстанцаў будуць перапахаваныя на віленскіх могілках Росы. Шмат хто марыць, што прах нашага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага некалі вернецца ў Беларусь і ягоная магіла стане велічным народным мемарыялам.

**Ілюстрацыя Паўла Татарнікава**



# Аўтапсіхаграфія



Фэрнанду ПЭСОА
(FERNANDO PESSOA) (1888–1935)

**Самы знакаміты партугальскі паэт XX стагоддзя. Пісаў творы на партугальскай і ангельскай мовах, падпісваючыся рознымі гетэронімамі, якіх некаторыя даследнікі налічваюць не менш за 72, кожны са сваім уласным голасам, біяграфіяй і эстэтычнай праграмай. Найбольш вядомыя з іх — Алвару дэ Кампуш (Álvaro de Campos), Рыкарду Рэйш (Ricardo Reis) і Албэрту Каэйру (Alberto Caeiro).**

Поўнае яго імя — Фэрнанду Антонію Нугейру Пэсоа. Нарадзіўся 13 чэрвеня 1888 года ў Лісабоне. Ва ўзросце пяці гадоў будучы пісьменнік страціў бацьку, які памёр ад туберкулёзу, а хутка і малодшага брата, якому не было і нават года. У 1895-м яго маці выходзіць замуж у другі раз за консула Партугаліі ў Дурбане, і яны пераязджаюць у Паўднёвую Афрыку. Там ён атрымлівае адукацыю і выяўляе ранні талент да літаратурнай творчасці. Там жа знаёміцца з творамі Ў. Шэкспіра, Э. По, Дж. Мілтана, Дж. Г. Байрана, Дж. Кітса, П. Б. Шэлі, А. Тэнісана і іншых. Ангельская мова адыграе значную ролю ў жыцці паэта.

У 1905 годзе, пакінуўшы сям'ю ў Афрыцы, Пэсоа вяртаецца ў Партугалію, каб вывучаць літаратуру. У 1906-м ён паступае на Вышэйшыя літаратурныя курсы (цяпер філалагічны факультэт Лісабонскага ўніверсітэта), але не вытрымлівае і аднаго года. У гэты ж час ён знаёміцца з найбуйнейшымі партугальскімі пісьменнікамі. У наступным годзе памірае бабуля паэта, дзякуючы невялікай спадчыне якой Пэсоа адчыніў маленькую друкарню, якая, праўда, хутка збанкрутавала. З 1908 года і да апошніх дзён паэт займаўся перакладамі камерцыйнай карэспандэнцыі, ведучы даволі сціплае грамадскае жыццё.

З 1912 года Пэсоа пачынае выступаць у перыядычных выданнях як эсэіст і літаратурны крытык. У 1915-м разам з іншымі паэтамі, такімі як Алмаду Нэгрэйруш і Марыю дэ Са-Карнэйру, ён выдае літаратурны часопіс «Арфей», які запачаткаваў мадэрнізм у партугальскай літаратуры. У 1918 годзе выходзяць дзве англамоўныя кнігі Пэсоа — паэма «Антыной» і «35 санэтаў». Разам з двума кампаньёнамі Пэсоа засноўвае яшчэ адну друкарню, у якой у 1921-м выходзяць яшчэ два зборнікі яго англамоўнай паэзіі — «Ангельскія вершы I-II» і «Ангельскія вершы III». Пэсоа перакладае некалькі кніг з ангельскай на партугальскую, а таксама вершы Э. По «Крумкач» і «Анабэль Лі».

З таго часу, як Пэсоа вяртаецца з Афрыкі ў Партугалію, ён вельмі рэдка выязджае з любімага Лісабона. Менавіта найбольш цікавым мясцінам і атмасферы горада прысвечаная «Кніга неспакою», яшчэ адзін значны твор, напісаны чацвертым з самых вядомых гетэронімаў Пэсоа — Бэрнарду Суарэшам. Аднак і ён не быў апублікаваны пры жыцці пісьменніка.

Фэрнанду Пэсоа памёр амаль невядомым 30 лістапада 1935 года, надрукаваўшы толькі адну кнігу на партугальскай мове — «Пасланне» (Mensagem) і пакінуўшы вялікую спадчыну вершаў і лістоў, якія да гэтага часу даследуюцца і рыхтуюцца да друку. На падставе біяграфіі і твораў пісьменніка створаныя раманы «Год смерці Рыкарду Рэйша» Жазэ Сарамагу і «Тры апошнія дні Фэрнанду Пэсоа» Антоніё Табукі.

Сам Фэрнанду Пэсоа наконт сваёй біяграфіі выказваўся так: «Калі пасля таго, як я памру, нехта захоча напісаць маю біяграфію, няма нічога прасцей. Вось дзве даты — майго нараджэння і маёй смерці. Усё астатняе належыць мне».




### Апошні карабель

*Пад сонцам плачу, з каралём-бадзягам,*
*Апошні карабель пад гордым сцягам*
*Айчыны*
*За вечны далягляд сыходзіў з дому,*
*Самотна, не адкрыўшы анікому*
*Прычыны.*

*Сыйшоў. І вось назад прыйсці не можа —*
*З якіх краёў якога падарожжа*
*Без межаў?*
*Што здарыцца, для Бога ўжо існу́е,*
*Ды хто адкрые выспу незямную*
*Відзежаў?*

*Чым сухапутней мой народ-зняверца,*
*Тым атлантычней плешчуцца*
*мне ў сэрца*
*Прылівы —*
*У моры, дзе няма прасторы з часам,*
*Дзе я з табой сустрэнуся сам-насам,*
*Шчаслівы.*

*Аднойчы кінеш якар проста ў неба,*
*Таму, што аніякае не трэба*
*Прычыны —*
*Табе, што быў душы маёй працягам,*
*Мой вечны карабель пад вечным сцягам*
*Айчыны.*

### Аўтапсіхаграфія

*Паэзія немінуча*
*Пад маскай хавае боль:*
*Калі насамрэч балюча,*
*Прыдуманы плач ёй дазволь.*

*А што чытачы? Балець ім*
*Да слёз не тымі двума*
*Тваімі будзе, а трэцім,*
*Якога ў вершы няма.*

*Так круціцца па-вар'яцку*
*І плача слязой чужой*
*Катрынка, машынка, цацка,*
*Што людзі завуць душой.*

***

*Калі разышліся госці,*
*Бо ночы прыйшла чарга,*
*У цёмных прысадах парку*
*Між ценяў сустрэліся двое:*
*Я сам — і мая туга.*

*Замоўкла чужое свята*
*З прамовамі і гульбой,*
*І ў цёмных прысадах парку*
*Між ценяў сустрэліся двое:*
*Я колішні — з новым сабой.*

*Усім усяго было досыць,*
*Ды зноў па шчасце бяжым...*
*А ў цёмных прысадах парку*
*Між ценяў сустрэліся двое:*
*Я свой — са мною чужым.*

*Забытае свята аднойчы*
*Ўваскрэсіць свет-жартаўнік,*
*Ды ў цёмных прысадах парку*
*Між ценяў сустрэнуцца двое:*
*Я зніклы — з тым, што не ўзнік.*

***

*О, звон маёй роднай вёскі,*
*Маркотны звон у сутонні, —*
*Твой гук душу развярэдзіць,*
*І сэрца ў смутку патоне.*

*Так шмат нясеш чалавечай*
*Журбы без канца і краю,*
*Што з кожным ударам плач твой*
*Угадваю й паўтараю.*

*І колькі б ні чуў, калі я*
*Праходжу, блукаючы, міма, —*
*Ты сну забытага рэха,*
*Шчаслівай душы радзіма.*

*Плывеш у адкрытае неба*
*І сумнай дрыготкай нотай*
*Звініш, як далёка былое,*
*Як блізка туга з адзінотай.*

***

*Калі фрэгат хаваюць гарызонты,*
*Не сам ён гіне, толькі сілуэт.*
*Душа сыходзіць —*
*плакаць наўздагон ты*
*Не мусіш. Ты скажы:*
*«Плыве ў сусвет».*

*Вось сімвал усяго,*
*што стацца можа, —*
*Быццё й нябыт,*
*як рух вакол зямлі:*
*Жыццё па кругасмертным*
*падарожжы*
*Вяртае душы, быццам караблі.*

***

*Хто раскажа, як тоне*
*Сэрца ў смутку балючым,*
*У бязмежным бяссонні*
*З безнадзейным бязгуччам?*

*Толькі боль усяночны,*
*Толькі жаль невыплачны,*
*Што, як неба, відочны*
*І, як неба, нябачны.*

***

*Дваровы кот, што ў траву*
*Сігае мурзатым носам,*
*Я горшым лёсам жыву,*
*Бо твой — не завецца лёсам.*

*Ты ў свеце маленькі госць,*
*Як людзі, дрэвы й камені,*
*Ды ўсё, што ў цябе тут ёсць, —*
*Тваё — ні болей, ні меней.*

*Ты ўвесь — на гэтай зямлі*
*Істотай сваёй зямною.*
*А я — ці жыў тут калі?*
*Я ёсць, але хто ёсць мною?*

***

*Месяц, кажуць брытанцы,*
*Зроблены з сыру зялёнага.*
*Думка кружыць у танцы*
*Вечнага і бясплённага.*

*Вось яна, тут — і знікла...*
*Верым лятункам, зданям...*
*Бег ад болю, што звыкла*
*Людзі завуць «жаданнем».*

*Буру жаданняў у шклянцы*
*Інтэлекту не спынім.*
*Месяц, кажуць брытанцы,*
*Часам бывае сінім.*

***

*Так шмат дажджу з нябёсаў шэрых,*
*Што сэнсу больш няма нідзе.*
*Маркота размывае бераг,*
*І ў кожнай думцы дождж ідзе.*

*На мове восеньскага плачу*
*Ўсяго, што кроіць мне душу,*
*Не выслаўлю й не растлумачу,*
*Бо сам не знаю, дзе схлушу.*

*Бо сам не ведаю, ці дрэнна*
*І ці магчыма з гэтым жыць.*
*А дождж ідзе, ідзе сумленна,*
*Як прывітанне ад Верлена, —*
*І сэрца плача і дажджыць.*

***

*Смерць хутка расставіць кропкі,*
*Жывём за крок да фіналу.*
*Імгненні жыцця — падробкі*
*Забытага арыгіналу.*

*Любоў прыходзіла госцяй*
*У недасканалы свет,*
*І хто дасягаў чагосьці —*
*Не ведаў сапраўдных мэт.*

*А смерць вядзе картатэку*
*І крэсліць слова па слове*
*У дзённіку чалавека,*
*Што Бог разгарнуў на палове.*

**Пераклаў з партугальскай**
**Андрэй Хадановіч**



Дзед Бронік любіў светлыя капелюшы і кашулі вышыванкі, а яшчэ ён любіў мяне — нэндзу ўнука Валодзю. Койданава. 1964 год

# Айчым

**Словы пра айчыма маёй маці — Браніслава Кісяля, майго дзеда Броніка**



Адам ГЛОБУС

## Сваякі

Даўно няма ні майго дзеда Броніка, ні бабы Ядзі, ні таты, ні маці... Часам я іх сустракаю ў снах, а здараецца, што нехта з родных нябожчыкаў зірне на мяне з люстэрка. Ад такіх позіркаў робіцца вусцішна. Атрымліваеш такое сабе прывітанне з іншасвету. Сэрца спыняецца. На скронях выступае халодны пот. Ты збіраешся нешта-нейкае кінуць у адказ, але не паспяваеш. Прывід змяняецца тваім будзённым адбіткам. Страх выветрываецца. Мыеш твар прахалоднай вадою і жывеш сабе далей, пакуль нехта зноў не зірне на цябе з люстэрка, каб нагадаць пра хуткаплыннасць усяго існага.

## Тактоўнасць

Быць заможным у цяперашні час — мець грошы. У маім дзяцінстве грошаў, як капіталу, не было. Ад сваёй бабы Ядзі я чуў такія развагі пра заможнасць: «Валодзя, ты — багаты чалавек; у цябе ёсць два дзяды — Бронік і Ладзімер, і дзве бабы — Ядвіга і Браніслава!» Далёка не кожны з маіх раўналеткаў меў столькі жывых сваякоў, бо вайна пазабірала шмат каго з нашых дзядоў і баб. Я верыў сваёй бабе і ганарыўся багаццем. Веру ў такое багацце і цяпер.

## Зварот

Да дзеда Броніка я заўсёды звяртаўся толькі на «Вы». Да ўсіх сваіх баб і дзядоў я толькі так і звяртаўся. Ніякіх там «ты» і блізка не гучала. З дзедам Бронікам гісторыя звыш асабліваая і далікатная, бо ён даводзіўся айчымам маёй маці. Само слова «айчым» у нашым доме не гучала. Наогул у беларусаў яго мала дзе прамаўляюць, а калі і кажуць, дык сцішана, амаль шэптам, бо гэта таямніца, пра якую чужым людзям і дзецям ведаць не трэба. Для мяне айчым маці заўсёды быў любімым дзедам Бронікам, бо я для яго доўгі час быў адзіным любімым унукам. Для маёй бабы Ядзі ён быў Бронюсям, Бронікам, Браніславам. Для цёткі Рэні і дзядзькі Антона — татам, татулечкам, бацькам. Для прабабы Мані — сынам, сыночкам, зноў жа Бронюсям.

## Чамаданчык

Дзед Бронік ездзіў у госці з невялічкім чорным чамаданчыкам. Ён збіраў у яго самыя простыя мястэчковыя пачастункі: кавалак сала, яблыкі і бутэльку з самагонам. Бутэлька — для мужчын, сала — для жанчын, яблыкі — для дзяцей. З напакаваным чамаданам Бронік адведваў сталічных сваякоў і знаёмых. Аднаго разу ён патэлефанаваў з Койданава і паабяцаў прыехаць у нядзелю да мяне ў Мінск. Цэлую раніцу я прасядзеў каля акна, выглядаючы праз халодную шыбу свайго дзеда Броніка на тралейбусным прыпынку. Мы жылі на восьмым паверсе. З акна было добра відаць, як «трынаццаты» тралейбус спыняецца і з яго выходзяць пасажыры. Не ведаю, колькі разоў «трынаццатыя» расхінулі на прыпынку «Вінзавод» складныя дзверы, але я ўсё ж пабачыў, як з іх выходзіць Бронік з чорным чамаданчыкам. Дзед насіў чорнае скураное паліто і чорны капялюш. Тады мне хацелася хутчэй вырасці, каб набыць такое ж скураное паліто і такі ж маленькі, але пакоўны чамаданчык. Паліто са скуры я яшчэ паспеў панасіць, а чамаданчыкі выйшлі з моды незваротна. Цяпер усё больш заплечнікі ў людзей ці вялікія чамаданы на колцах. Дзедаў чамаданчык з самагонам, салам і яблыкамі застаўся адно ў салодкіх успамінах пра часы майго далёкага маленства.

## Пепка

Дзед Бронік быў патомным сталяром. У спадчыну ад свайго бацькі Ваці ён, напалам з братам Казікам, атрымаў выдатна ўпарадкаваную сталярную майстэрню, поўную добра высушанага дрэва і розных фуганкаў з гэблікамі. Варштаты і ціскі, сякеры ды нажоўкі, кіянкі і малаткі прысутнічалі ў маім маленстве ад самага нараджэння. Водар свежых габлюшак і смалісты пах пілавіння заўсёды радавалі мяне. На сур'ёзную працу мяне і цяпер натхняе прыказка, якую паўтараў дзед Бронік, калі заходзіў у майстэрню і пачынаў нешта-нейкае рабіць: «Майстар Пепка робіць крэпка!». Прыказка пра Пепку паўтаралася пад нізкай столлю мястэчковай майстэрні шматкроць. Паўтаралася яна ў дзедавай майстэрні, паўтараецца і ў маёй, бо сапраўды дапамагае настроіцца на працу і на ёй засяродзіцца.

## Басаножкі

У дзеда Броніка быў жаночы памер нагі. З такімі жаночымі ступакамі ён і пратупаў праз тры вайны, а калі вярнуўся ў Койданава, дык яго невялічкія ступакі напоўніцу выкарыстоўвалі нашы жанчыны. Дзед Бронік разношваў новы абутак сваёй жонкі і дачкі. Пасля вайны доўгі час з абуткам было кепска. Яго было не дакупіцца. Хапалі тое, што выкідалася на прылавак. Часам бралі туфлі не ў памер. Было смешна глядзець, як дзед разгульвае па хаце ў жаночых туфліках. Асабліва помняцца белыя басаножкі, што



Браніслаў Кісель з сястрою Каміляй і яе мужам спадаром Голубевым. Магілёў. 1939 год

набылі для Рэгіны. Радасная, яна абула новенькія басаножкі, пабегла ў іх у горад і пасцірала ногі да крывавых пухірыстых мазалёў. Рээня дэманстравала мазалі і плакала. Дзед суцяшаў яе і разгульваў каля печы ў белых басаножках...

## Каса

Рэня насіла касу. Русая, важкая, доўгая — ажно да самай дупы — каса была сямейнай каштоўнасцю. Рэніну касу ўсе любілі і нахвальвалі. Сімвал жаноцкай прыгажосці, сімвал цнатлівасці і чысціні, сімвал нашай агульнай надзеі — не менш. Каса патрабавала дагляду. Рэня мыла валасы ў мяккай дажджавой вадзе, Рэня апаласквала валасы вадой з калодзежа, Рэня расчэсвала валасы вялікім грабенчыкам, Рэня заплятала касу і ўпрыгожвала яе баваўняным ружовым бантам. Усё гэта было важным. Усё гэта радавала вока. Усё гэта стварала непаўторную атмасферу нашага койданаўскага дома. Рэня адрэзала касу, калі паступіла ва ўніверсітэт і сабралася перабрацца з Койданава ў Мінск. Касу адразалі ў койданаўскай цырульні. За касу нават нейкія грошы заплацілі. Толькі гэтай грашовай кампенсацыі было замала, каб суцешыць нашу сям'ю. Без Рэнінай касы мы ўсе нібыта асірацелі. Больш за іншых перажываў Бронік. Ягоная маленькая дачушка вырасла, зрэзала касу і паляцела з бацькоўскага гнязда ў вялікі свет. У дзедавай шафе засталіся рознакаляровыя стужкі, з якіх Рэня завязвала на касе банты. Пакуль Бронік быў жывы, ён нікому не дазваляў прыбраць гэтыя напаміны пра дзяцінства і юнацтва ягонай Рэні, ягонай Рэгіны Браніславаўны.

## Машынка

У дзеда Броніка была выдатная машынка для стрыжкі валасоў. Жартам Бронік казаў, што не дарэмна прайшоў тры вайны — польскую, фінскую і нямецкую, бо на салдацкіх галовах ён добра навучыўся цырульніцтву. Калі дзед некага стрыг, дык з-пад ягонай машынкі выходзілі акуратныя салдаты. Нават з нас — дзяцей — бронікава машынка рабіла такіх сабе акуратных навабранцаў. Так склалася, што я ўсё жыццё карыстаюся паслугамі добрых цырульнікаў і наведваю найлепшыя ў Мінску цырульні «Нажнічкі», «Чарадзей» і «Новы вобраз». Я стрыгуся разам з міністрамі і дыпламатамі, але з цырульні выходжу падобным да вайскоўца, выходжу такім, нібыта мяне пастрыг усё той жа дзед Бронік.

## Рыскі

Дзед Бронік у сваім доме падводзіў мяне — хлопчыка — да блакітных дзвярэй, казаў, каб я прытуліўся плячыма да касяка. На маё цемя клалася металічная лінейка. На блакітным касяку з'яўлялася танюткая рысачка, побач з якой праставілялася дата. Усе прысутныя радаваліся, што я крыху падрос. Так я і вырас каля блакітнага касяка ў доме дзеда Броніка і бабы Ядзі. Да таго дома ў маёй душы захоўваецца нязменная любоў. Новыя гаспадары шматкроць перафарбоўвалі касяк. Цяпер ён цёмна-белы. Ягоны колер падобны да колера касяка ў маёй мінскай кватэры. Касяка, да якога я зрэдку падводжу ўнука Валодзю, каб пазначыць рыскай ягоны цяперашні рост. Вова расце каля майго цёмна-белага касяка. Спадзяюся, у ягонай душы захаваецца любоў да маёй кватэры і нашага дома на вуліцы Чырвонай.

**На сур'ёзную працу мяне і цяпер натхняе прыказка, якую паўтараў дзед Бронік, калі заходзіў у майстэрню і пачынаў нешта-нейкае рабіць: «Майстар Пепка робіць крэпка!»**

## Вада

Дзед Бронік заўсёды мяне, свайго старэйшага ўнука, нечаму ды вучыў. Ён вучыў абкопваць яблыні, вучыў падвязваць кусты агрэсту, вучыў рабіць прышчэпкі на грушах і слівах, вучыў замазваць варам расколіны на кары ў маладой вішні. Вучыў ганарыцца нашымі бэрамі, лімонкамі ды бура́чкамі — найсмачнейшымі грушамі. Дзед вучыў рваць кроп і цыбулю ў гародзе. Вучыў збіраць грыбы і маліну ў лесе. Я быў старанным вучнем, быў малым, любімым і паслухмяным, ажно пакуль не стаў дарослым. Баба Ядзя папрасіла свайго Броніка схадзіць па ваду. Ён зіркнуў у мой бок і сказаў:

Працяг на стар. 16 (10) »

« Працяг.
Пачатак на стар. 15 (9)

«Валодзя пойдзе і прынясе. Ён у нас дарослы!» Ваду ў хату мы прыносілі з вулічнай калонкі. На нейкі момант падалося, што баба Ядзя абароніць мяне ад гэткай раптоўнай дарослаці, а яна не абараніла, сказаўшы: «Не набірай поўнае вядро. Набяры палову. Лепш два разы схадзіць, чым, ідучы, паабліваца...»

### БССР

Размовы пра аднаўленне СССР мяне напружваюць. Ніякага сутнаснага адраджэння не прадбачыцца, бо ніхто не збіраецца нават на словах вяртаць зямлю сялянам, а заводы — рабочым. Ніхто і паўслова не кажа пра малапатрэбнасць і шкоднасць царквы ды рэлігіі наогул. Ніхто не згадвае і супольнасць людзей, якую некалі называлі савецкай. Які Савецкі Саюз без усяго такога і да такога падобнага? Замест савецкай супольнасці прапануецца рускі свет і расейскі парадак. Парадку ў Расеі няма; дарэчы, яго там ніколі і не было. Рускі свет, дзе галоўнымі ворагамі абвешчаны ўкраінцы і палякі, а ў браты-сябры паназапісаны найміты і радзімапрадаўцы з Каўказа, непрывабны і нежыццестваральны. Добра, што мяне выхоўвалі людзі, якія не любілі СССР. Мая сям'я моцна пацярпела ў савецкі час. Маёмасць забралі. Мужчын выслалі пад Архангельск, а потым пагналі на вайну. Дзед Бронік прайшоў шмат ваенных дарог: вызваляў Беларусь на вайне Польскай, пакутваў на Фінскай і атрымаў разрыўную кулю ў жывот на Нямецкай. Ён мяне навучыў прачытваць абрэвіятуру БССР як «Бацька Сера — Сын Рагоча!». СССР прачытвалася яшчэ больш злосна — «Сталін Сера — Сын Рагоча!». Так ставіліся да абрыдлага Саюза ў маёй сям'і. Так наш народ ставіўся да СССР. Ставіўся з нянавісцю і чорным гумарам.

### Сто грамаў

Больш за ўсіх астатніх пра вайну мне — школьніку — панарасказваў Бронік. Амаль усе ягоныя апавяданні падаваліся смешнымі. Разам з дзедам я смяяўся: з фінскіх лыжнікаў, падобных да чарцей, з польскіх кулямётчыкаў, што не маглі трапна страляць, з рускіх пехацінцаў, якія гінулі, бо ішлі ў бой п'янымі... Шматкроць паўтаралася апавяданне пра франтавых сто грамаў гарэлкі, якія нельга піць перад боем, калі ты хочаш вярнуцца з вайны жывым. Дзед Бронік казаў, што я павінен аддаваць сваю гарэлку іншым, аддаваць тым, хто баіцца. Лепш проста незаўважна выліць гарэлку на зямлю, чым піць перад боем. Ваяваць трэба з яснай галавою. Так вучыў мяне Бронік, які прайшоў не адну вайну і вярнуўся ў сваё Койданава.

### Пудзіла

У нашым койданаўскім садзе я любіў амаль усё. Ведаў назву кожнай яблыні і грушы. Дапамагаў абіраць агрэст, смародзіну, парэчку. Каля плоту збіраў спелы боб. Калі вішні толькі-толькі пачалі жаўцець-ружавець, баба



Вялікая сям'я: дзед Бронік, баба Ядзя, унук Валодзя, маці Ніна, цётка Рэгіна, дзядзька Антак, тата Чэсь. Койданава. 1964 год

Ядзя папрасіла Броніка, каб зрабіў пудзіла. Я дапамагаў дзеду рабіць пудзіла з чорнага бабінага жакету. Дзед збіў крыжавіну з рэек, начапіў на яе жакет і зашпіліў на ўсе гузікі. Галаву жакетнаму пудзілу мы зрабілі са старой прасціны, галава атрымалася маленькай і крывой. Дзед Бронік прымацаваў крыжавіну дротам да галіны так, што пудзіла ўзнялося высока над дрэвам. Нават самы слабы ветрык хістаў пустыя рукавы жакета, таму наша белагаловае пудзіла несупынна размахвала рукамі. Яно абараніла ўраджай вішан, і мы іх пазбіралі ў бідончыкі ды ў тазіку зварылі. Звычайная справа — зрабіць пудзіла і ўзняць яго над вішнёвым дрэвам. Толькі ў маёй душы пудзіла нараджала страх. Нават не само пудзіла, зробленае са зношанага жакета, а крыкі спалоханых птушак. Пудзіла ўзмахвала пустым рукавом, пераляканая птушка ўскрыквала, і страх ахопліваў душу. Калі мы разлілі вішнёвае варэнне па слоіках, баба Ядзя папрасіла зняць пудзіла. Я дапамог дзеду Броніку разабраць пудзіла, і разам з суседскімі дзецьмі спалілі яго за могілкамі, у паўразбураным ДОТ-е.

### Нёман

Пасля вячэры я з дзедам Бронікам сядзеў за сталом, пакуль баба Ядзя мыла посуд. «Як там ваш Мінск?» — дзед Бронік заўсміхаўся, бо я мусіў на заўсёднае пытанне сказаць, што ў Мінску дождж ідзе, а ў Пінску слізка. З гэтага жарціка пачыналіся нашы размовы. Такая мелася завядзёнка. «Што ты парабляеш?» — папытаў Бронік. «Плаваць вучуся. Магу праплыць пяцьсот метраў, магу з вышкі дзесяцімятровай скокнуць. Мне далі бясплатны абанемент на паўгода...» — «Нёман пад Стоўбцамі зможаш пераплысці?» — «Лёгка. Нёман пад Стоўбцамі я ўжо пераплываў. Мы з маці ездзілі на радзіму Коласа. Будаўнічы трэст, дзе маці працуе, арганізоўваў вандроўку. Пакуль усе вячэралі каля вогнішча, я схадзіў на Нёман і пераплыў яго двойчы. Плынь моцная, але далёка не знесла...» — «Маці ты не казаў?» — «Яна ўбачала, што галава мокрая. Насварылася, бо адзін купаўся. Пра пераплыванне рэчкі я не стаў расказваць, бо насварылася б яшчэ больш...» — «Я плаваць зусім не ўмею. У мяне галава цяжкая, а дупа лёгкая. Зайду ў ваду — дупа ўсплывае, а галава на дно ідзе. Каля рэчкі Рудзіцы вырас, а плаваць не навучыўся. Не любяць мяне рэчкі, і я іх не люблю. Аднаго разу няўменне плаваць мяне нават выратавала. Загадалі нам пераправіцца праз рэчку і захапіць груды за ёй. Ротны казаў, што возьмем мы зарэчныя высоты, і будзе нам рай на зямлі. Так мы яму і паверылі, пустабрэху. Вайна — суцэльнае пекла. Пачалася атака. Рэчка не шырокая трапілася, якраз такая, як Нёман пад Стоўбцамі. Нашы пачалі пераходзіць і пераплываць рэчку, а я зайшоў у ваду, прысеў каля берага, схаваўшы галаву за корч. Так і прасядзеў, ажно пакуль страляніна не скончылася. Потым выбраўся на бераг. З хлопцамі з чужой роты пераплыў рэчку на чаўне. З нашай роты амаль нікога цэлага і не засталося; хто загінуў, каго параніла, а каго кантузіла. Так што, унук, загадаюць табе браць высоты за рэчкай, а ты не спяшайся. Пасядзі за карчом, і цалейшы будзеш. У нашай мужчынскай справе галоўнае — не пайсці на вайну, а вярнуцца з вайны. Я тры вайны прайшоў і вярнуўся, а плаваць вось яшчэ не навучыўся. Летам з'ездзім на рэчку, завядзем матацыкал і паедзем на Нёман, і ты мяне навучыш плаваць «па-сабачы». Навучыш?» — «На Нёмане? Па-сабачы? Навучу!»

### Здароўе

Баба Ядзя памірала ад раку. Памірала пакутліва. Мне хацелася адшчыкнуць ад сябе крыху здароўя, кавалачак жыцця і перадаць іх бабе Ядзі. Пэўна, і Броніку хацелася падоўжыць жыццё жонкі — ягонай любай Ядзі. Яна памерла. Броніка разбіў інсульт. Мне было шкада нашага дзеда Броніка, але не было ў мяне жадання перадаваць сваё здароўе дзеду. Мусіць, ні з кім, акрамя бабы Ядзі, я і не хацеў так моцна і так адчайна падзяліцца ўласным жыццём.

### Рублі

У час нашай апошняй сустрэчы дзед Бронік амаль не гаварыў. Ён паспрабаваў мне нешта-нейкае сказаць, але ў ягоным буркатлівым мармытанні я не змог разабраць словаў. Яны ўсё скамечваліся ў гукавую кашу. Пра такое якраз і кажуць — каша ў роце. Пасля некалькіх няўдалых спробаў загаварыць Бронік дробнымі крокамі накіраваўся са спачывалькі ў варэльню, дзе адчыніў буфет і дастаў з драўлянай скарбонкі тры рублі адной паперкай. Дзед Бронік аддаў мне тыя рублі. На маё пытанне «Вам трэба нешта купіць і прынесці?» ён адмоўна захітаў галавою, заплюшчыў вочы і выразна сказаў: «Гэта табе...». Такімі былі апошнія словы, якія я пачуў ад дзеда Броніка. Для мяне — сямікласніка — тыя тры рублі адной зялёнай паперкай былі вялікім падарункам. Дзедаў падарунак лёг у капэрту, у якой збіраліся грошы на новы ровар.

### Сон

Бабу Ядзю пахавалі без мяне. У той дзень я быў у летніку «Зялёнае», што пад Мінскам. Маці нават не сказала, што з'едзе на пахаванне. З-за гэтага я моцна пасварыўся з бацькамі. Апошні месяц Ядзя пражыла ў нашай мінскай кватэры. За тыдзень да смерці яе перавезлі ў Койданава. Я перажываў, што не змог развітацца з любімай бабай Ядзяй. Таму праз два гады мяне ўзялі на пахаванне дзеда Броніка. Я сядзеў каля труны і глядзеў на цёмную дзедаву скронь. Ён памёр ад кровазліцця ў мозг. Скронь і патыліца былі амаль чорныя ад крыві. Не плакаў, бо казаў сабе, што наш дзед Бронік спіць і не можа прачнуцца. Ён не памёр, а заснуў. Цяпер ён будзе спаць у залатым пяску на новых могілках каля льнозавода. Дзеда Броніка пахавалі побач з бабай Ядзяй. Пасля пахавання дзеда Броніка я перастаў перажываць з-за таго, што не праводзіў у апошні шлях бабу Ядзю.

### Месца

У Броніка мелася сваё ганаровае месца за сталом. Ён заўсёды сядаў толькі на яго. І раніцай, і ўдзень, і ўвечары дзед сядзеў у тарцы стала, пад календаром. Я садзіўся або леваруч ад дзеда, спінай да печы, або праваруч — спінаю да акна. Выпадковыя госці сядалі насупраць дзеда Броніка, спінаю да дзвярэй. Такі меўся парадак у нашай хаце, і яго ніхто не парушаў. Дзедава месца заўсёды было дзедавым месцам. Калі Бронік памёр, месца перайшло да ягона сына Антона. Калі Антона не стала, на галоўным месцы сядзела Антонава жонка — Ніна. Цяпер, калі Ніна хварэе і амаль не падымаецца з ложка, на дзедавым месцы сядзіць унук Ніны, ён таксама Антон. Для мяне, тое месца ў тарцы стала, пад адрыўным календаром, усё яшчэ месца дзеда Броніка, такім яно і застанецца назаўжды.

### Рай

Ёсць безліч розных апісанняў жыцця ў раі. Борхес разам з Касарасам склалі з такіх апісанняў «Кнігу пекла і рая». Я паспрабаваў там знайсці рай, які падыходзіў бы для мяне ці хоць крыху адпавядаў маім уяўленням і снам пра светлы кут. Не знайшоў. Мне бачыцца зусім іншым мой персанальны рай... Першая сустрэча, якая здарыцца пасля смерці, будзе з Бронікам і Казікам — Кісялямі. Яны, маладыя, у белых кашулях і цёмна-сініх галіфэ, парыпваючы добра наваксаванымі чорнымі ботамі, падыдуць да мяне і абдымуць. Мне, як і братам Кісялям, будзе гадоў дваццаць. Утрох мы пойдзем да Казіка. У ягонай хаце нас чакае накрыты стол з выпіўкай і закускамі. За тым сталом ужо сабраліся дарагія дзяды з бабамі, маці з бацькам, дзядзькі ды цёткі. Мы будзем святкаваць нашу сустрэчу. Нам радасна. У казікавай хаце мы паадчыняем вокны. На вуліцы сонечна, свежа і цёпла. У маім персанальным раі вечная нядзеля і заўсёды раніца траўня. Галоўны чалавек у раі — айчым маці, мой дзед Бронік, — малады мужчына ў галіфэ. Забыўся сказаць пра лёгкі ветрык. Ён там ёсць. Каб яго адчуць, варта заплюшчыць вочы. Ты заплюшчыў вочы, адчуў тварам травеньскі ветрык і пачуў, як за вокнамі ў садзе ціха гудуць пчолы.

**Размовы пра аднаўленне СССР мяне напружваюць. Ніякага сутнаснага адраджэння не прадбачыцца, бо ніхто не збіраецца нават на словах вяртаць зямлю сялянам, а заводы — рабочым. Ніхто і паўслова не кажа пра малапатрэбнасць і шкоднасць царквы ды рэлігіі наогул. Ніхто не згадвае і супольнасць людзей, якую некалі называлі савецкай**

# Змест і яго сутнасць

**Выйшаў юбілейны — 100-ы — нумар часопіса «Дзеяслоў». Веха ў літаратурным жыцці і сучасным творчым працэсе ў беларускай літаратуры знакавая і заўважная.**




З гэтай нагоды ва ўступным слове ад імя рэдакцыі шэф-рэдактар часопіса **Барыс Пятровіч**, успамінаючы няпросты шлях незалежнага літаратурна-мастацкага выдання, смела заяўляе *«з абсалютнай упэўненасцю, што гэты час і гэты лад не назаўсёды, што тыя, хто быў разам з намі ўсе гэтыя 100 нумароў, выстаяць і надалей застануцца вернымі роднай зямлі, роднай мове і дэвізу, агучанаму ў 1-м нумары: жыццё кароткае — Радзіма вечная!»*

А публікацыі юбілейнага нумара адкрывае знаны паэт **Алесь Разанаў** сваімі філалагічна-філасофскімі развагамі (*зномамі*) — пра мову, культуру, Айчыну, творцу-асобу і пісьменніцкае мастацтва... Тлумачэннем творчага, як набліжэннем да існага... Сярод глыбокага, запамінальнага ды іскрамётнага і такое: *«Калі мастакі падаюцца ў палітыку, яны пачынаюць маляваць анекдоты — карыкатуры. Так, гэта карыкатуры на нешта, што пазнаецца, і разам з тым на тое, што пазнавацца не хоча, — на самое мастацтва»*. Альбо гэтае, важнае для нашай нацыянальнай самасці: *«Змест мовы не ў самой мове, а ў тых, хто на ёй гаворыць і думае. Забіраецца змест — нямее мова, удыхаецца змест — нават нямое набывае мову»*.

Знакавай і выбітнай публікацыяй нумара, безумоўна, з'яўляецца аповесць **Барыса Пятровіча** «Засада, альбо Лавіся рыбка вялікая». Сюжэт насамрэч вельмі просты, але ў гэтай прастаце схаваная ўся складанасць нашага цяперашняга нацыянальнага жыцця. Калі коратка: пасля чарговых вулічных пратэстаў апазіцыі як заўсёды адбываецца АМАПаўска-МУСаўскі хапун найбольш «адмарожаных» і небяспечных. У сталічнай кватэры па наводцы і павінны былі вылавіць аднаго з галоўных кіраўнікоў апазіцыйнага руху. Аднак той паспеў сыйсці адтуль загадзя. І ўсё ж кватэру блакуюць, чакаючы прыходу «злачынца», і пры гэтым затрымліваюць больш чым на суткі ўсіх тых, хто з нейкіх прычын звоніцьстукаецца ў тую «крымінальную хату» (ад суседзяў да школьнікаў і сантэхнікаў). Па сутнасці, постсавецкая сталічная кватэра ператвараецца ў турэмную камеру часовага затрымання. *«Каму цікава назіраць, як людзі ператвараюцца ў быдла?Хіба толькі таму, хто гэта робіць. Няважна дзе: на Кубе, у Бірме, Кампучыі, Паўночнай Карэі ці тут. Але чаму ён не думае пра будучыню? Не сваю, а свайго народа? Ды таму не думае, што ў яго па-за ім самім будучыні няма... Увесь гэты свет ёсць, пакуль ёсць ён сам. І галоўная задача ўтрымацца пры ўладзе максімальна — пажадана да смерці. Каб памерці ад старасці. А не ад кулі ці атруты. І ўсё робіцца дзеля гэтага. Знішчаюцца ворагі і сябры , прыніжаецца, ператвараецца ў статак народ»*.

Пры ўсім пры тым трэба разумець, што людзі, заблакаваныя і зняволеныя ў кватэры без аніякага супраціву і пратэсту. Яны знаёмяцца між сабою, стасуюцца, распавядаюць дзіўныя гісторыі ўласных жыццяў... Паступова ў кантэксце расповеду агаляюцца карані найбольш хібных рысаў нашай ментальнасці — боязі, страху, абачлівасці, падпарадкавання і цярплівасці... Падчас расповеду пісьменнік набліжаецца да афарыстычных оруэлаўскіх узораў пісьма: *«Страх і нянавісць ходзяць побач. Але ўладары кажуць: няхай яны нас ненавідзяць, але баяцца. Бо няма ў дыктатараў больш магутнае зброі, чым страх. «Дайце мне магчымасць запалохаць людзей, і я буду вярою з іх віць», — кажа дыктатар. І палохае»*. А ўжо сам *«страх спараджае пакору. Пакора — абыякавасць. Абыякавасць — бяздзеянне. Бяздзеянне — рабства. Рабства трымаецца на страху, які спараджае пакору»*.

На мой погляд, творца, без напругі і красворднай заблытанасці, мінімалістычнымі мастацкімі сродкамі паспрабаваў выявіць нашу нацыянальную сутнасць. Асабліва ўражвае вобраз бабулі-бамжыхі напрыканцы аповесці, якая нечым нагадвае агульны стан нашай сённяшняй краіны. Усе падумалі, што яна сканала ў гэтай кватэрнай вязніцы, а *«бабулька спала... І цяпер здавалася яна зусім не страшнай бамжыхай, як падумалася спачатку, а малым заснулым дзіцём, якое стамілася ад развою дарослых. І хай недзе ў свеце адбываюцца рэвалюцыі ці эвалюцыі, плошчы ці майданы, войны ці палёты на Месяц і Марс, яна будзе спаць... І нішто, і ніхто яе не разбудзіць. Бо толькі тут і толькі цяпер яна адчула сябе абароненай. Няма побач сына — п'яніцы і гвалтаўніка. Няма клопату, як пракарміцца. Ёсць цяпло і спакой. Ёй так добра, быццам яна і сапраўды памерла. Што яшчэ трэба для шчасця?»*

Таленавітая проза, вартая ўдумнай і грунтоўнай увагі літаратурнай і чытацкай грамадскасці.

Следам друкуюцца вершаваныя і празаічныя лісты паэта **Уладзіміра Някляева** да жонкі Вольгі пад агульным назовам «Калі мяне не стане». Перад намі праявы высокай душэўнай лірыкі, калі ў змаганні за волю гартуецца і сцвярджаецца каханне да Волі. Нейк так прачытваецца паэтычны *ліст да Вольгі*, што падаецца як прадмова да публікацыі турэмных лістоў да яе. У Някляева ўсё адмыслова, тэатральна ўзвышана, дэкламацыйна прадумана і эмацыйна прачула:

*Калі мяне не стане — ты жыві,*
*Забыўшыся, што я цябе пакінуў.*
*Я — у табе, я — у тваёй крыві,*
*А не ў халодных вежах успамінаў.*
*Не ў тых лістах, якія напісаў,*
*Не ў словах тых,*
*якія можна сцерці,*
*А ў той радзімцы,*
*што пацалаваў,*
*Упершыню ў сабе адчуўшы сэрца.*

**Леанід Дранько-Майсюк,** таленавіты паэт, эсэіст, а з нядаўняга часу гісторык і даследчык беларускай літаратуры, працягвае публікацыю жыццяпісу і духоўнага служэння беларускага святара-каталіка, мовазнаўцы і грамадскага дзеяча Адама Станкевіча. Вартая праца, сярмяжная і цяжкая, скажам, у параўнанні з лірычнай творчасцю знанага паэта, якая заслугоўвае ўвагі і ўдзячнасці. Будзем чакаць заканчэння ў наступным нумары.

Нізка ўласных вершаў і перастварэнняў з сучаснай украінскай паэтычнай класікі **Міхася Скоблы** нібыта асабліва не розняцца мастацкім узроўнем і *вымагаюць* чытача любіць не чужое, як сваё, а ставіцца да свайго, як не да чужога... Годная літаратурная місія. А галоўнае, выдатныя вершы. Вось фрагмент аднаго з іх пад назовам «Патрыцый», у якім прачытваецца вобраз Міхася Стральцова:

*Палічыць чаркі выпітыя чэлядзь*
*І выпытае факты звадыяш.*
*Ім хочацца патрыцыя знікчэмніць,*
*Каб па-плебейску выгукнуць:*
*ён — наш!*
*Ды што з таго, што выселены*
*з Рыма,*
*Ён садзіць бульбу ці гусей пасе...*
*Прысела вечнасць пад яго дзвярыма*
*І тогу вышывае пакрысе...*

Пісьменнік **Сяргей Рублеўскі** друкуе два апавяданні. Адно на тэму літаратурнай творчасці і творчай дэпрэсіі і другое — пра смерць як істоту карную, што пераследуе чалавека наўсцяж яго жыцця... Ну і нельга абысці ў размове пра творчасць гэтага літаратара яго стаўленне да мовы. Яна ў яго цудоўная, а да таго ж у ёй шмат новых забытых намі мацярынскіх слоў (*корць, трэтар, барляць, скамшаць*). Як піша аўтар у аповедзе *«Я, мама і смерць у калідоры»*: *«Адным узмахам сваёй адмысловай касы смерць раптам перарэзала пупавіну, якая злучала мяне з матуліным слоўным багаццем нягледзячы на тое, што словы ў гаворцы сашчыльнены, не раўнуючы як тыя імгненні...»*.

Як па ўсім вынікае з урыўка, новы раман **Андрэя Федарэнкі** «Літаў» будзе мець палітычную ці ва ўсякім разе міжнацыянальна-грамадскую падаплёку. Магчыма, нават будзе акрэслены вектар глабалізма на фоне нашых усходне-еўрапейскіх узаемаадносін. Безумоўна, не без беларускага атожылка, які ў рэшце рэшт можа стацца адной з зеляненеючых і жывых частак падсыхаючай кроны сусветнага дрэва...

Дэбютная проза клірыка Свята-Пакроўскага сабора **Паўла Каспяровіча** (апавяданне «Чорная рэчка») — гэта, па сутнасці, проза паэта пра пошукі яе слядоў у гісторыі. Сцісла, фактурна, стылёва-стрымана... Гэткі лірычна-вандроўны расклад творчага жыцця — ад трагічна-драматычных лёсаў літаратурных куміраў да ўласнага прагматычнага стаўлення да жыцця і творчасці...

Друкуюцца цікавыя самі па сабе некаторыя дзённікавыя запісы маладога **Анатоля Кудраўца** (другая палова 1960-х гадоў). Перад намі — праца маладога аўтара над першымі чарнавымі накідамі будучых празаічных твораў, набіццё рукі, стылёвыя штуды, а таксама некаторыя факты з тадышняга літаратурнага жыцця, начыркі прыватных стасункаў з асобнымі пісьменнікамі і сякія-такія зацемкі з грамадскіх праяў пасляхрушчоўскага часу.

У рубрыцы «Спадчына» публікуецца незавершаны трагіфарс у трох дзеях «Марш-кідок у Дурдуны» рана адышоўшага таленавітага і арыгінальнага пісьменніка і драматурга **Алеся Асташонка.** Творчая няўрымслівасць і пошукі новых літаратурных хадоў акрэслівалі яркі характар гэтага выбітнога аўтара. Папярэднік «бум-бам-літаўскага» шызарэалізму і некаторых іншых спрацаваных і схібленых літаратурных накірункаў у суверэннай нацыянальнай літаратуры. Тэкст, які друкуецца ў часопісе, будзе цікавы тым, хто не трывае творчага застою і прагне мастацкіх пошукаў і адкрыццяў любымі метадамі. Нездарма пісьменнік выносіць эпіграфам да аднай з частак свайго трагіфарса фрагмент з «Вераснёвай ночы» Кузьмы Чорнага: *«І Асташонак нечага там трэцца ўсё. Але дзе ён не трэцца, куды ён не ўлезе, нідзе спакою не дасць. Ніякае сталасці не мае і, мабыць, чалавекам ніколі не будзе...»*. Раю пачытаць найперш людзям з адчуваннем гумару ды іроніі.

Вельмі шчырую гутарку публікуе Сяргей Шапран з лаўрэаткай Нобелеўскай прэміі па літаратуры **Святланай Алексіевіч.** Мяркую, прачытаўшы яе, у некаторых крытыкаў Святланы Аляксандраўны зменяцца адносіны да яе як да грамадскай асобы і выбітнога творцы. Погляды на стан развіцця сучаснага свету, на ўспрыманне і рэагаванне вонкавых дэмакратычных зрухаў у нашай краіне, на эвалюцыйныя працэсы і духоўную культуру чалавецтва, на ўплыў дакументальнай і мастацкай літаратуры на тыя працэсы, што ўдасканальваюць ці разбураюць альбо ўскладняюць сённяшнюю цывілізацыю — усё гэта тым ці іншым чынам прысутнічае ў кантэксце жывой і прыцягальнай гутаркі.

*«...я шкадавала, што прэмію не атрымалі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, што было б справядліва... Зрэшты, тут важна вось яшчэ што — каб цені вялікіх не прыгняталі, а, наадварот, давалі пачуццё свабоды. Каб яны спараджалі жаданне ісці далей і спрабаваць рабіць нешта іншае, новае, а не хадзіць па адным і тым жа коле, пастаянна натыкаючыся на саму сябе. Таму і хачу зрабіць вось гэтыя дзве кнігі: пра каханне і пра смерць. Мяне даўно цікавяць гэтыя метафізічныя, ірацыянальныя рэчы, якія мы не здольныя зразумець. Мне хацелася б ведаць, што сучасны чалавек думае пра гэта. Пра што ён здагадваецца? Чаго баіцца?І якія забабоны існуюць у гэтай сувязі ў нашым сённяшнім дні?..»* Цытацыяй гэтага фрагмента я як бы звяртаю ўвагу чытачоў і міжвольна рэкламую будучыя кнігі нашай знанай суайчынніцы.

Аўтар гэтага агляду друкуе сваё ліставанне з таленавітай паэтэсай **Нінай Мацяш** (1943–2008). Яны датычныя двух апошніх гадоў яе жыцця. Гэта вельмі шчырая і сумленная гутарка-палеміка двух літаратараў на адну дагэтуль недавырашаную балючую тэму нашага нацыянальнага духоўнага жыцця. Каб чытач прыкладна ўявіў напал гаворкі, прывяду адзін *з пісьмовых маналогаў* Ніны Язэпаўны: *«Прачытала ў «ЛіМе» Ваш водгук пра Сыса. У нас шчыльнае супадзенне мастацка-эстэтычных густаў: пералічанае Вамі лепшае ў зборніку і мне бачыцца найлепшым. А вось паасобныя Вашы меркаванні падаюцца мне спрэчнымі. Да прыкладу, разважанне аб прычынах непрыходу старэйшых развітацца* (рэч вядзецца пра пахаванне Анатоля Сыса і, прынамсі, развітанне з ім у Доме літаратара. — **ЛеГал**). *Ну якая тут магла быць зайздрасць, Лявоне?! Няўжо Вы ўсур'ёз думаеце, што прыжыццёвая «народная слава» Сыса грунтавалася на разуменні маладзевай публікай ягонай творчай геніяльнасці? Моладзь заўсёды гатовая руйнаваць усе каноны і аўтарытэты. Толя — малады, прыгожы, артыстычны — рабіў гэта прылюдна і безаглядна, з ім было цікава і весела — найперш гэткім жа маладым і ўсхмеленым уласнай жыццёвай моцай, гатовым перавярнуць свет. Ну, а калі ўжо на авансцэну выйшаў хмель іншага гатунку, думаеце, Толіку пляскалі ў ладкі за глыбіню вершаў? Так, нехта і за іх. Але большасці было зноў... толькі весела. Бо «сапраўдную мастацкую веліч» немагчыма ўбачыць ані ў п'яным абліччы, ані, пагатоў, у труне... І тое страшэнная няшчасце, якому папусціўся Сыс, ніякі не «мастацка-эстэтычны акт», Лявоне»*.

Да таго ж чытач знойдзе ў часопісе разгорнуты і грунтоўны артыкул **Анатоля Сідарэвіча** *«пра першыя крокі Беларускай сацыялістычнай Грамады на агульнарасійскай палітычнай арэне»*, выбранае *«з фэйсбучных запісаў»* **Сяргея Дубаўца,** развагі **Галіны Багданавай** пра творчасць мастачкі Алесі Скарабагатай, выбітныя *абыштоські* з жыцця сучасных беларусаў **Яўгена Рагіна,** а таксама рэцэнзіі Ірыны Саматой — на кнігу Яна Чыквіна «Трохкрылыя птушкі» ды **Леаніда Галубовіча** — на кнігу малой прозы Андрэя Федарэнкі «Сузіральнік».

Прыемнага чытання.

**ЛеГал**





# Леанарда да Вінчы ў «вольным доступе»

**Музей Вікторыі і Альберта (V&A) у Лондане аблічбаваў і выклаў у вольны доступ запісы італьянскага мастака, архітэктара, музыканта, вынаходніка, інжынера, скульптара і мысляра эпохі Адраджэння – Леанарда да Вінчы (1452–1519). Раней іх маглі бачыць толькі навукоўцы.**

На сайце музея можна ў добрай якасці ўбачыць эскізы, планы, малюнкі, канцэпцыі, думкі, вынаходніцтвы і заўвагі вялікага генія.

Леанарда да Вінчы прызнаны адным з найвялікшых мастакоў усіх часоў і, магчыма, самым таленавітым чалавекам, які калі-небудзь жыў. Яго сшыткі ўтрымліваюць дыяграмы, малюнкі, асабістыя нататкі і назіранні, напісаныя ва ўнікальнай тэхніцы люстэркавага аркуша, вядомай таксама як «почырк Леанарда», даючы ўнікальнае ўяўленне пра тое, як ён бачыў свет. Пяць з гэтых неверагодных прадметаў знаходзяцца ў калекцыі музея.

На сайце музея пазначана: «Леанарда да Вінчы (1452–1519), вядомы ва ўсім свеце як мастак такіх шэдэўраў, як Мона Ліза, таксама вядомы сваімі сшыткамі, у якіх ён запісваў свае думкі і вынаходніцтвы. Пяць з гэтых займальных сшыткаў, злучаных у тры невялікія тамы, знаходзяцца ў нашай калекцыі з 1876 года, калі яны былі адпісаны музею Джонам Форстэрам. Усе разам вядомыя як «Кодэкс Форстэра», яны датуюцца прыкладна 1487–1505 гадамі і адлюстроўваюць надзвычай дапытлівы розум Леанарда.

Леанарда пачаў запісваць свае думкі ў сшытках з сярэдзіны 1480-х гадоў, калі працаваў ваенным і марскім інжынерам у герцага Міланскага. Ні адзін з папярэднікаў, сучаснікаў ці пераемнікаў Леанарда не выкарыстоўваў паперу так, як ён: адна старонка змяшчае непрадказальны ўзор ідэй і выхадак – працы як дызайнера, так і навукоўца».

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы «The New York Times», novostiliteratury.ru, englishpen.org, «Rédaction Culture France Télévisions», «Wyborcza» і telegraf.com.ua.**

# Міжнародная дублінская літпрэмія

**Эмілі Раскавіч атрымала Міжнародную дублінскую літаратурную прэмію 2019 года (раней вядомую як IMPAC) за раман «Айдаха».**



Узнагарода складае 100 тысяч еўра, што робіць яе найбуйнейшай у свеце прэміяй за твор, выдадзены на англійскай мове.

Кнігі, уключаныя ў доўгі спіс Міжнароднай дублінскай літаратурнай прэміі, намінуюцца публічнымі бібліятэкамі ў гарадах па ўсім свеце. Паводле інфармацыі газеты «The Guardian», «Айдаха» быў намінаваны бібліятэчным філіялам у бельгійскім Бруге і абраны на літаратурную ўзнагароду са 141 прэтэндэнта.

«The Guardian» працытаваў Эмілі Раскавіч: «Гэта такая шакавальная сума грошай для выйгрышу! Я не магу паверыць, што ёсць такі прыз за адзін раман. Я не ведаю дакладна, што буду рабіць з гэтым, але я адчуваю, што цяпер магу рабіць выбар, які сапраўды прынясе карысць маёй творчасці. Гэта быў самы вялікі гонар у маім жыцці: мець кнігу і мець чытачоў».

# Брытанская літпрэмія PEN Pinter Prize

**Пераможцам брытанскай літаратурнай прэміі PEN Pinter Prize-2019 стаў брытанскі пісьменнік Лемн Сісей. Ён атрымае ўзнагароду на цырымоніі ў Брытанскай бібліятэцы 10 кастрычніка.**



Лемн Сісей нарадзіўся ў 1967 годзе ў Англіі. Паколькі яго мама была вымушаная скончыць вучобу, сацыяльныя работнікі ўладкавалі нованароджанага малога ў прыёмную сям'ю, даўшы яму іншае імя — Норман. Гэтыя падзеі адлюстраваныя ў п'есе Сісея «Нешта цёмнае».

У сваіх творах Лемн Сісей узняў праблемы адзіноты, фізічнага гвалту і псіхалагічнага пераследу.

«У кожным сваім тэксце Лемн Сісей вяртаецца ў свет маргіналаў, у якім ён жыў як пакінутае дзіця. Са сваіх пакутаў ён выкоўвае прыгожыя словы і тысячы прычынаў жыць і кахаць», — заявіла адна з сябровак журы прэміі пісьменніца Морын Фрыллі.

Прыёмныя бацькі далі хлопчыку сваё прозвішча ды імя ў гонар евангеліста Марка. Ён заставаўся жыць у гэтай сям'і да 12 гадоў, потым яго аддалі ў дзіцячы дом. З 17-гадовага ўзросту Сісей вырашыў знайсці сваю маму і вярнуць сабе сапраўднае імя. У рэшце рэшт, яму ўдалося адшукаць маці, калі яму быў 21 год. На той час маці пісьменніка працавала ў структуры ААН у Гамбіі.

The PEN Pinter Prize — штогадовая літаратурная прэмія, заснаваная ў 2009 годзе англійскім ПЭН-клубам у гонар лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Гаральда Пінтэра. Гаральд Пінтэр быў віцэ-прэзідэнтам англійскага ПЭН-клуба і актыўным членам Камітэта зняволеных пісьменнікаў Міжнароднага PEN (WiPC).

Прэміяй, як правіла, узнагароджваюць брытанскага пісьменніка за выдатныя літаратурныя заслугі. Па словах Пінтэра, пераможца літаратурнай прэміі характарызуецца «рашучым, непахісным поглядам на свет» і дэманструе «жорсткую, інтэлектуальную рашучасць вызначыць сапраўдную ісціну нашага жыцця і нашага грамадства».

# Прэмія Пушкінскага дома

**Паводле паведамлення, апублікаванага на сайце Пушкінскага дома, лаўрэатам VII-га сезона прэміі Puskin House Russian Book Prize-2019 за лепшую кнігу пра Расію на англійскай мове ў жанры нон-фікшн стаў гісторык з Гарвардскага ўніверсітэта Сяргей Плохій.**

PUSHKIN HOUSE BOOK PRIZE RUSSIAN BOOK PRIZE 2019

Гарвардскі гісторык перамог з кнігай «Чарнобыль: Гісторыя трагедыі». Яго праца, апублікаваная Аленам Лэйнам, была адабраная групай з пяці суддзяў са спісу шасці фіналістаў — годных прэтэндэнтаў, творы якіх ахоплівалі гісторыю і культуру Расіі, а таксама мемуары.

Кніга С. Плохія стала першым усебаковым даследаваннем чарнобыльскай катастрофы 1986 года, працуючы над якім С. Плохій выкарыстаў мноства да гэтага ніколі не публікаваных матэрыялаў. Героі яго кнігі — людзі, якія спрабавалі прадухіліць аварыю, ліквідатары, навукоўцы, салдаты ды інжынеры, якія працавалі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасля аварыі.

С. Плохій ужо двойчы становіцца ўладальнікам прэміі Пушкінскага дома: чатыры гады таму яго ўзнагародзілі за кнігу «Апошняя імперыя».

Незалежны цэнтр рускай культуры ў Лондане Пушкінскі дом з 2013 года штогод прысуджае прэмію Pushkin House Russian Book Prize ў памеры 5 тысяч фунтаў стэрлінгаў. Мэта прэміі — садзейнічанне разуменню Расіі і рускамоўнага свету і падтрымка інтэлектуальных дэбатаў у гэтай сферы. Літаратурную ўзнагароду прысуджаюць аўтарам кніг, якія напісаны па-англійску, але таксама разглядаюцца і пераклады з іншых моў.

Савецка-канадска-амерыканскі гісторык Сяргей Плохій з'яўляецца спецыялістам па гісторыі Усходняй Еўропы. Ён нарадзіўся ў Горкім (цяпер Ніжні Ноўгарад), у пачатку 1990-х гадоў пераехаў у Канаду, затым у ЗША. Цяпер займае пасаду прафесара гісторыі ў Гарвардскім універсітэце.

# Французская літпрэмія Жана д'Ормесана

**Вядомы брытанскі пісьменнік Джулиян Барнс уганараваны французскай літаратурнай прэміяй Жана д'Ормесана за раман «La seule histoire» («Адзіная гісторыя»). Гэта раман пра шнары, якія пакідае на сэрцы першае каханне.**



73-гадовы раманіст, усё яшчэ вельмі засмучаны смерцю сваёй жонкі і літаратурнага агента Пэт Кавана ў 2008 годзе, напісаў: «Першае каханне вызначае жыццё назаўсёды: гэта тое, што я выявіў за гэтыя гады; яно не абавязкова стаіць вышэй, чым наступнае каханне, але тое заўсёды будзе залежаць ад яго існавання».

Кніга Джуліяна Барнса, перакладзеная з англійскай Жанам-П'ерам Аўстэнам і апублікаваная выдавецтвам «Mercure de France» у мінулым кастрычніку, сведчыць аб тым, што «лепш пакутаваць ад кахання, чым не кахаць» (менавіта так рэзюмавала рэдактар Элаіза д'Ормесан, дачка акадэміка і стваральніца прэміі.

«Майму бацьку падабаўся дух Джуліяна Барнса, — працытавала Элаізу д'Ормесан «Agence France-Presse». — Двое мужчын падзялялі адну і тую ж жарсць да Гюстава Флабера». І дадала: ««Адзіная гісторыя» можа быць прачытана як сентыментальнае выхаванне маладога брытанца».

Прэмія Жана д'Ормесана, створаная ў мінулым годзе, з'яўляецца адной з самых арыгінальных літаратурных узнагарод. На яе прэзентацыі Элаіза д'Ормесан папярэдзіла: «Ні час, ні мова, ні пол не будуць перашкаджаць выбару дванаццаці прысяжных, толькі іх густы, іх саўдзел і пэўная форма выбарчай блізкасці будуць вызначаць іх выбар».

Пераможцам першай прэміі Жана д'Ормесана ў мінулым годзе стаў пісьменнік Жак Стывен Алексіс, «метэор гаіцянскіх пісьмаў» і ваяўнічы камуніст, забіты, верагодна, паслугачамі дыктатара Франсуа Дзювалье ў красавіку 1961 года ва ўзросце 39 гадоў.

# Прэмія імя Шымборскай

**Сёлета прэмія імя Віславы Шымборскай (лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1996 года) дасталася паэтцы Марце Падгурнік, якая жыве ў Глівіцах.**

Літаратурную ўзнагароду яна атрымала за кнігу вершаў «Mordercze ballady», выпушчаную ў выдавецтве «Biuro Literackie».

Як паведамілі арганізатары прэміі, на адзін з самых прэстыжных конкурсаў паэзіі было прадстаўлена каля 200 паэтычных зборнікаў. У фінал выйшлі пяць кніг вершаў: «Навігацыя» Марзаны Багумілы Келы, «Смяротныя балады» Марты Падгурнік, «Паэмы супраць чалавецтва» Камілы Яняк, «Сабачая кніга» Пётры Яніцкага і «Полька» Роберта Круля.

Журы прэміі, у складзе якога былі Андрэй Чадановіч, Кароль Малішэўскі, Аліна Свесцяк, Войцэх Лігеза, Ксавер Фарэ, Антонія Лойд-Джонс, Дарота Вальчак-Дэлані і сакратар прэміі Паўліна Малохлеб, абвесціла свой вердыкт падчас урачыстасці ў Кракаве.

Марта Падгурнік нарадзілася ў 1979 годзе ў польскай Сасноўцы. Яна — паэтэса, літаратурны крытык і рэдактар. У 2012 годзе за кнігу «Rezydencja surykatek» была ўганаравана літаратурнай прэміяй Гдыні. На конкурс прэміі імя Віславы Шымборскай яе кнігі намінаваліся тройчы: у 2016, 2018 і 2019 гадах.

Пераможцу паэтычнай прэміі чакае грашовы прыз у 100 тысяч злотых.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Як ажаніцца і застацца ва Украіне

« Працяг. Пачатак на стар. 6




Фактычна, у такой сітуацыі вы не можаце выехаць з Украіны ў Беларусь па справах, таму што назад можаце і не заехаць — прызнаюць нелегалам. Таму парада: падавайце дакументы максімальна хутка, каб потым быў час для манеўру.

Ёсць нюансы, калі вы вырашылі атрымаць ДНЖ па ўжо атрыманаму ДНЖ іншага чальца сям'і (напрыклад, ваш муж/жонка неграмадзянін, а раней атрымаў ва Украіне дазвол на працу як іншаземец). Давядзецца даводзіць іміграцыйнай службе, што вам змогуць забяспечваць матэрыяльнае ўтрыманне на ўвесь час вашага знаходжання ва Украіне. Даказаць магчымасць такога ўтрымання афіцыйна часам складана, а часам — нерэальна. Напрыклад, адна сітуацыя, калі часовы ДНЖ па такой падставе будзе атрымліваць толькі ваша жонка, і зусім іншая, калі на ДНЖ прэтэндуюць адразу жонка і двое дзяцей.

Варта трымаць у галаве і непрыемную акалічнасць — ДНЖ «па ўз'яднанні сям'і» не дае вам права легальна працаваць без афармлення дадатковага дазволу. Але ў любым выпадку, атрыманне ДНЖ на падставе ўз'яднання сям'і — тэма вельмі папулярная. Галоўнае — яна працуе.

### Вучымся ва Украіне

Не менш папулярная падстава афармлення ДНЖ — вучоба ў вышэйшых навучальных установах Украіны.

Пасля залічэння на навучанне ВНУ хадайнічае пра афармленне вам часовага дазволу на жыхарства на падставе навучання. Самае прыемнае, што такі від ДНЖ не мае патрэбы ў штогадовым падаўжэнні. Студэнт можа жыць ва Украіне без абмежаванняў на працягу ўсяго тэрміну навучання.

Але заўважу, што калі вы за час вучобы не «кінулі якар» ва Украіне (то-бок, не знайшлі працу, не ажаніліся ці не зрабілі яшчэ нешта), то пасля заканчэння ВНУ ў выпадку адсутнасці падстаў для падаўжэння дазволу на жыхарства вы абавязаны за тыдзень выехаць за межы краіны. ДНЖ могуць анулююць і раней, — калі ў вас не складзецца з вучобай і вас выключаць. Дарэчы, у вышэйзгаданым хадайніцтве ВНУ, апроч іншага, бярэ на сябе абавязацельства неадкладна паведамляць у аддзел міграцыйнай службы пра вашае выключэнне.

### Вядзем бізнес

Афармленне ДНЖ па бізнесе звычайна ладзяць тыя беларусы, якія раптоўна разумеюць, што законных падстаў для афармлення ДНЖ ва Украіне ў іх папросту няма. Тады лагічным крокам падаецца пайсці ў адну са шматлікіх юрыдычных кантор, дзе абяцаюць без праблем усё аформіць. У такой канторы таксама разумеюць, што ў вас няма падстаў. І прапануюць у якасці выйсця з сітуацыі аформіць ФАП (фізасобу-прадпрымальніка, аналаг беларускага ІП), каб вас такім чынам працаўладкаваць.

Але не вядзіцеся. Хочаце бізнесам праз ФАП ва Украіне займацца — займайцеся, толькі не падавайцеся на ДНЖ на падставе створанага юрыдычнай канторай ФАП. Па-першае, з вас злупіць грошы сама кантора (ад адной да трох тысяч долараў — як пашанцуе). Па-другое, па такой падставе вельмі часта адмаўляюць у міграцыёнцы. Яны не дурні, і вы іх проста не задаволіце сваім дзьмутым ФАП. Яны пачнуць патрабаваць (рэальная практыка!) даведкі пра паходжанне сродкаў на адкрыццё і ўтрыманне ФАП (да капейкі), потым запатрабуюць, каб вы працаўладкавалі ўкраінцаў, потым выплаткова атрымаецца, што ўкраінцы павінны былі быць працаўладкаваныя за паўгода да таго, як вы задумалі падаваць на ДНЖ, рахунак у банку (будзе праблемна аформіць, ды і ўсе сродкі павінны туды залічвацца афіцыйна), потым ласкава папросяць пацвердзіць існаванне офіса ва Украіне (натуральна, афіцыйна знятага).

Гэта такая гульня ў коткі-мышкі. Выдаткі растуць, выніку няма. Урэшце, у ДНЖ вам адмовяць — і наступным разам вы зможаце падаць на ДНЖ мінімум праз паўгода. Час страчаны. Выснова: афармляйцеся па гэтай падставе, толькі калі вы плануеце рэальна займацца бізнесам ва Украіне, прычым цалкам «па беламу». У любым разе, мае сэнс усё рабіць самому (хутчэй і нашмат танней), а не звяртацца да пасярэднікаў.

Разнавіднасць падставы «па бізнесе» — афармленне ДНЖ для інвестара. З 2017 года дазвол на жыхарства ва Украіне могуць атрымаць асобы, якія ўнеслі ў статутны фонд украінскага прадпрыемства суму не менш за 100 тысяч еўра. Вядома, гэта варыянт для выключна багатых людзей. Але я разглядаю яго таму, што ў ім ёсць адзін вялікі плюс у параўнанні з проста варыянтам «па бізнесе», — магчымасць афармлення дазволу на сталае месца жыхарства (СМЖ) ва Украіне. Акрамя дарагоўлі, гэта падстава ДНЖ мае цэлы шэраг недахопаў.

1. ДНЖ інвестару выдаецца тэрмінам толькі на 2 гады. Пры гэтым у міграцыйную службу ўсё роўна давядзецца хадзіць штогод для пераафармлення.
2. Грошы павінны быць усе легальныя з пацвярджэннем паходжання.
3. Ніхто не ведае, як ацэньваць неграшовыя актывы.
4. Нават калі вы ўкладзяце свае кроўныя ва ўкраінскае прадпрыемства, ніхто не гарантуе, што афіцыйна яны будуць аформлены ў якасці інвестыцыі. Замежныя бізнесмены скардзіліся, што ні наняты юрыст, ні прадстаўнікі банка, праз які пералічваліся грошы ва Украіну, не змаглі падказаць ім, як падобныя інвестыцыі афармляць па ўсіх правілах — самі не ведалі!
5. Чыста тэхнічна незразумела, як можна вывесці свае актывы.

### Іншыя варыянты

Новая падстава для атрымання ўкраінскага ДНЖ з'явілася ў чэрвені гэтага года. Беларусы-добраахвотнікі, што бяруць удзел у абароне Украіны, могуць на час гэтага ўдзелу атрымаць ДНЖ. Прычым, што характэрна, звяртацца ў міграцыйную службу для афармлення якіх-небудзь дакументаў не трэба. Законнасць знаходжання чалавека ва Украіне для любых афіцыйных органаў пацвярджаецца ў гэтым выпадку звычайным ваенным білетам. Па сутнасці, гэта заднім днём легалізуе шмат беларусаў, якія ўжо некалькі гадоў удзельнічаюць у баявых дзеяннях, але пры гэтым даўно парушылі ўсе тэрміны знаходжання ў краіне на законных падставах.

Па гэтай падставе можна нават атрымаць украінскае грамадзянства па спрошчанай працэдуры. Адзіная ўмова: у зоне АТА трэба прабыць не менш за тры гады. Пасля трох гадоў удзелу ў баявых дзеяннях можна атрымаць статус удзельніка баявых дзеянняў (УБД), што адпавядае статусу ветэрана. А потым, пры жаданні, — і ўкраінскае грамадзянства.

Можна згадаць яшчэ іншыя рэдка ўжываныя падставы для атрымання ДНЖ ва Украіне: удзел у рэалізацыі праектаў міжнароднай тэхнічнай дапамогі; прапаведаванне рэлігійных веравучэнняў, выкананне рэлігійных абрадаў ці іншай кананічнай дзейнасці па запрашэнні рэлігійных арганізацый і прадстаўленні профільнага дэпартамента Міністэрства культуры Украіны; удзел у дзейнасці філіялаў, аддзяленняў, прадстаўніцтваў і іншых структур грамадскіх (няўрадавых) арганізацый замежных дзяржаў; праца ў прадстаўніцтвах замежных кампаній ва Украіне; культурная, навуковая, адукацыйная дзейнасць; статус прафесійнага спартсмена; удзел у міжнародных і рэгіянальных валанцёрскіх праграмах або ўдзел у дзейнасці арганізацый і ўстаноў, што прыцягваюць да сваёй дзейнасці валанцёраў; праца карэспандэнтам замежнага СМІ.



**Падстава «па тэрытарыяльным паходжанні» зручная тым, што пачынаць афармленне дазволу на сталае месца жыхарства ва Украіне можна з Беларусі. Толькі сабраны пакет дакументаў пажадана падаць у міграцыйную службу ў самой Украіне**

Калі казаць пра атрыманне дазволу на сталае месца жыхарства ва Украіне, то тут працуюць толькі наступныя падставы: шлюб з украінскім грамадзянінам на працягу больш за 2 гады; тэрытарыяльнае паходжанне (брат, сястра, хаця б адзін з бацькоў, дзед ці бабка пражывалі раней на ўкраінскіх землях); пацверджаная інвестыцыя ва ўкраінскую эканоміку; уцекачы і асобы, якія атрымалі прытулак ва Украіне, асобы, якія пацярпелі ад гандлю людзьмі (пры ўмове бесперапыннага трохгадовага пражывання ва Украіне); апекуны, папячыцелі грамадзян Украіны, а таксама асобы, над якімі ўстаноўлена апека (або папячыцельства) украінскіх грамадзян; дзеячы культуры і навукі па квоце; высокакваліфікаваныя спецыялісты па квоце; былыя грамадзяне Украіны; блізкія сваякі грамадзян Украіны; замежнікі, якія на працягу трох гадоў бралі ўдзел у баявых дзеяннях па абароне тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны.

Усе мае знаёмыя беларусы ва Украіне афармлялі дазвол на СМЖ выключна па дзвюх першых падставах. Падстава «па тэрытарыяльным паходжанні» зручная яшчэ і тым, што пачынаць афармленне дазволу на сталае месца жыхарства ва Украіне можна проста з Беларусі. Толькі сабраны пакет дакументаў пажадана падаць у міграцыйную службу ў самой Украіне. Адпаведна, не трэба праходзіць праз агонь і ваду атрымання ДНЖ ва Украіне. Сядзіш у Беларусі — і рыхтуеш глебу для свайго пераезду.

...Пазаўчора на выхадзе з гарадской міграцыйнай службы я выпадкова сутыкнулася са знаёмым сірыйцам. У мінулым годзе мы адначасова падавалі дакументы на ДНЖ. Тады ў яго ў планах было аформіць часовы дазвол, а пасля — дазвол на сталае месца жыхарства ва Украіне на падставе ўнясення інвестыцыі ва ўкраінскую эканоміку ў памеры 100 тысяч еўра. Я пацікавілася, на якой стадыі яго інвестыцыйныя намеры зараз. Суразмоўца глыбока ўздыхнуў і паведаміў, што плюнуў на ўсё і ажаніўся з украінкай: так прасцей, і праз два гады можна атрымаць СМЖ.

Некаторыя выбіраюць і крамольны шлях, афармляюць фіктыўны шлюб, які каштуе прыкладна каля 1500 долараў, і атрымліваюць жаданы ДНЖ. Дарэчы, ва Украіне ў афіцыйных органах нікога не хвалюе, ці сапраўдны ваш шлюб.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Пераход як форма пратэсту

Расійскае заканадаўства аб мітынгах відавочна супярэчыць канстытуцыйнаму праву грамадзян праводзіць публічныя акцыі, што спараджае самыя незвычайныя новыя формы пратэсту. Напрыклад, у расійскіх гарадах актыўна прымяняецца такая форма пратэсту, як пастаяннае перасоўванне па нерэгуляваным пешаходным пераходзе. Апошняя такая акцыя адбылася нядаўна ў Казані — жыхары аднаго з прыгарадаў бесперапынна «пераходзілі» ў дазволеным месцы дарогу, пратэстуючы супраць новага Генплану, згодна з якім па іх дамах павінна прайсці магістраль. Паколькі машыны павінны саступаць пешаходам, паўстаў вялізны затор. Як вынік, на патрабаванні пешаходаў улады былі вымушаныя звярнуць увагу. Няма сумневаў, што такі спосаб пратэсту будзе скарыстаны іншымі. Што тычыцца ўлады, то яна праз нейкі час, хутчэй за ўсё, прыдумае, як штрафаваць удзельнікаў падобных пратэстаў. Зрэшты, некаторыя палітолагі выступаюць супраць пратэстных пераходаў. Бесперапынны пераход вуліцы, на іх думку, неадкладна выклікае напружанне і незадаволенасць кіроўцаў і пасажыраў. Тлумачыць ім сутнасць акцыі, разлічваючы на салідарнасць, вельмі цяжка.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Да пабачэння, «Томі»!

Працэс Brexit нечакана паўплываў на сітуацыю з брытанскімі жаўнерамі ў Германіі, дзе яны знаходзяцца яшчэ з 1945 года. Паводле існуючых дамоваў, прыкладна 20 тысяч «Томі» (папулярная мянушка брытанскіх вайскоўцаў) павінны былі адправіцца на радзіму ў 2035 годзе. Аднак цяпер Лондан вырашыў паскорыць эвакуацыю — «з улікам новых стратэгічных выклікаў». Паводле новых тэрмінаў, да 2020-га ніводнага брытанскага жаўнера ў ФРГ ужо не застанецца. Варта адзначыць, што цяперашняя прысутнасць замежных войскаў у Германіі выглядае смешнай у параўнанні з 1980-мі гадамі. Тады на тэрыторыі цяперашняй ФРГ прысутнічала 800 тысяч іншаземных жаўнераў — савецкая групоўка ва Усходняй Германіі, якой у Заходняй Германіі супрацьстаялі амерыканцы, французы, канадцы, галандцы і бельгійцы. Пасля 2020 года ў краіне застанецца толькі амерыканскі 35-тысячны корпус, лёс якога незразумелы. Некаторыя немцы лічаць, што янкі павінны застацца ў сувязі з ростам напружанасці ў рэгіёне. Між тым, Дональд Трамп пагражае перакінуць амерыканцаў з Германіі ў Польшчу, калі Берлін не выканае шэраг патрабаванняў наконт фінансавання NATO.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. Праз ёгу да міру

Днямі ўлады Венесуэлы і апазіцыя вырашылі пачаць дыялог. І, як высвятляецца, тут не абышлося без ёгі. Справа ў тым, што не так даўно венесуэльскі гарант Нікалас Мадура трапіў пад уплыў вядомага індыйскага гуру Шры Раві Шанкара. Гэты індус — вельмі арыгінальная асоба. Ён прыдумаў тэхніку для дыхання, якая дапамагае здымаць стрэс і нармалізаваць псіхіку. Сваю тэхніку Шры Раві Шанкар выкладае ў рамках курсаў «Мастацтва жыцця», якія маюць шалёную папулярнасць у свеце, і нават цікавяць сур'ёзных навукоўцаў. Паўплываў гуру і на Мадура, які 10 ліпеня прыняў яго ў сваёй прэзідэнцкай адміністрацыі ў Каракасе. Сустрэча прэзідэнта і «жывога бога» (так называюць Шры Раві Шанкара яго адэпты) скончылася сумесным сеансам тэрапіі. Мадура пасядзеў у позе лотаса — і прапанаваў гуру стаць медыятарам у яго перамовах з апазіцыяй. І, як піша прэса, гуру ўжо пачаў адпаведныя кансультацыі праз Іспанію. Чым скончыцца гэты эксперымент, цяжка прагназаваць — у тым ліку праз супярэчлівасць асобы Шанкара. Паводле плётак, гуру мае кантакты з парамілітарнымі групоўкамі індускіх нацыяналістаў. Акрамя таго, Шры Раві Шанкару ўласцівыя яўна экстравагантныя ўяўленні наконт палітыкі. Напрыклад, неяк ён сцвярджаў, што талібы, калі вывучаць яго тэхніку дыхання, самі складуць зброю і адмовяцца ад экстрэмісцкіх забабонаў.

**Паводле французскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Лацінка адкладаецца?

Патрэба на тое, што ўвядзенне ў Казахстане лацінкі да 2025 года, анансаванае экс-прэзідэнтам краіны Нурсултанам Назарбаевым, адкладаецца. Аўтары такой версіі спасылаюцца на публікацыю ў расійскай газеце «Известия», дзе цытуюць неназваную крыніцу ў міністэрстве замежных спраў Казахстана. Крыніца сцвярджае, што крайні тэрмін адмовы ад кірыліцы на карысць лацінкі можа быць адкладзены з 2025 да 2035 года, каб зрабіць працэс «не такім балючым». Спецыялісты згодныя з высновамі ананімнага казахскага чыноўніка. На іх думку, ёсць як мінімум дзве прычыны для адтэрміноўкі пераходу на лацінку. Па-першае, існуе старэйшае пакаленне, якое не карыстаецца кампутарамі, і, як вынік, лацінскія літары наогул ніколі не бачыла. Па-другое, цяперашняя версія лацінскага алфавіту актыўна крытыкуецца, што падахвочвае спецыялістаў чарговым разам задумацца пра яе перагляд. Зрэшты, хутчэй за ўсё, тэма лацінкі ўжо наўрад ці знікне з казахскай дыскусіі. Праз 20 гадоў доля казахскага насельніцтва вырасце да 80–85 працэнтаў, і для часткі казахаў праблема сыходу Казахстану са сферы культурнага ўплыву Масквы відавочна будзе заставацца актуальнай.

**Паводле казахскай прэсы**



Фота www.livesport.ru

# Парыж — сталіца Алжыру?

Алег НОВІКАЎ

**Маштаб святкаванняў этнічнымі алжырцамі поспеху зборнай Алжыру па футболе ўразіў і шакаваў французаў, ды зноў выклікаў дэбаты пра нацыянальную ідэнтычнасць.**

Алжыр — адна з краінаў, у дачыненні да якой слушная формула: «Футбол тут трошкі больш, чым футбол». Перш за ўсё, праз унікальную гісторыю паўстання мясцовай футбольнай зборнай. Алжырская зборная па футболе з'явілася ў 1958 годзе, калі афіцыйна краіна яшчэ не была незалежнай. Больш за тое, Парыж у той час яшчэ не страціў надзеі вайсковымі сродкамі падавіць паўстанне незалежнікаў.

Каб узняць дух супраціву, нарадзілася ідэя стварыць алжырскую каманду. Натуральна, FIFA і іншыя міжнародныя футбольныя структуры пад ціскам Францыі новую федэрацыю і яе каманду не прызналі. Аднак гэта не перашкодзіла алжырскім футбалістам правесці напрыканцы 1950-х гадоў тур па свеце. Кожны матч успрымаўся як маніфестацыя ў падтрымку незалежнага Алжыру. Лічыцца, што гульні зборнай моцна дапамаглі крышталізацыі нацыянальнай ідэнтычнасці. Магчыма таму алжырцы — такія заўзятары.

Тычыцца гэта, падаецца, і тых алжырцаў, бацькі якіх эмігравалі ў былую метраполію. На мінулым тыдні яны давялі сваю любоў да зборнай праз масавыя святкаванні перамогі Алжыру на Кубку афрыканскіх нацый (CAN) у Каіры. У Марселі ўвечары 19 ліпеня, калі Алжыр у фінале перамог Сенегал, 25 тысяч фанатаў спявалі папулярную крычалку: «One, two, three, viva l'Algérie!»

Там-сям святкаванні набывалі фармат беспарадкаў, у выніку якіх было арыштавана каля 250 асобаў.

Рэпартаж з Марселю і падобныя сцэны ў іншых гарадах, падаецца, апынуліся шмат для каго сапраўдным шокам. У прынцыпе, і раней у Францыі было шмат скандалаў наконт праблем з інтэграцыяй мігрантаў і іх нашчадкаў. Напрыклад, яшчэ не забыўся выпадак, калі на футбольным матчы мясцовыя этнічныя арабы засвісталі гімн Францыі — «Марсельезу».

Аднак цяпер усім стала відавочна, што ў краіне хеўра людзей, якія нарадзіліся ў Францыі, атрымалі французскую адукацыю, выраслі ў французскіх культурных і палітычных рэаліях, маюць французскі пашпарт, аднак асацыююць сябе з іншай краінай. Асабліва не спадабаліся бюргерам сэлфі, якія тыфозі з алжырскімі сцягамі рабілі на фоне Трыумфальнай аркі, Елісейскага палацу і іншых архітэктурных або манументальных сімвалаў французскай дзяржаўнасці.

У гэтым плане было чакана, што правыя партыі кінуцца рабіць піяр на дыскамфорце, які

**«Алжыр — гэта наша другая радзіма. Таму нармальна праводзіць вечарыну, калі Алжыр выйграў вялікі турнір. Калі Францыя выйграла Кубак свету, мы таксама святкавалі»**

выклікаюць апісаныя сцэны ў простых французаў. «Як і многія французы, я быў уражаны тым, што французскія грамадзяне знялі французскі сцяг і вывесілі на яго месцы алжырскі. Я хачу спытаць у гэтых маладых людзей: Францыя вас прывітала, карміла, адукавала, клапацілася пра вас, але калі вы аддаяце перавагу Алжыру, то вяртайцеся ў Алжыр!» — звярнуўся да фанатаў алжырскай каманды адзін з спікераў партыі «Нацыянальны фронт» (RN) — структуры Марын Ле Пэн. Іншы функцыянер RN увогуле прапанаваў забараніць на тэрыторыі Францыі алжырскі сцяг.

У адказ ліберальныя і левыя СМІ намагаюцца змагацца з ксенафобскімі штампамі. Яны ахвотна даюць эфір французам арабскага паходжання, якія больш-менш лагічна тлумачаць сваю падтрымку каманды з гістарычнай радзімы. «Мы не прасілі, каб нас нарадзілі ў Францыі. І нават калі мы жывем тут, Алжыр — гэта наша другая радзіма. Таму нармальна праводзіць вечарыну, калі Алжыр выйграў вялікі турнір. Калі Францыя выйграла ў мінулым годзе Кубак свету, мы таксама гэта святкавалі», — кажа французская арабка ў інтэрв'ю выданню «20 minutes». Паводле афіцыйных каментараў, кожны грамадзянін мае права нешта святкаваць у публічных месцах.

Найбольш арыгінальна падышлі да сітуацыі мясцовыя аматары жартаў. Яны заклікалі французскіх нацыяналістаў заўзець за Нігерыю, якая мела шанс спыніць шлях алжырскай зборнай да перамогі. Маўляў, у выпадку перамогі нігерыйцаў алжырскія фанаты павінны былі застацца дома, і ўсё было б ціха.

Палітычны працэс у Францыі дастаткова дынамічны, і яшчэ не факт, што тэма выхадак алжырскіх фанатаў захавае актуальнасць да наступных выбараў. А вось на алжырскую палітыку поспех мясцовай зборнай адназначна паўплывае. Як вядома, прыкладна з красавіка ў краіне назіраецца глыбокі палітычны крызіс. Тады вуліца дамаглася, каб прэзідэнт-аксакал Абдэль Азіз Бутэфліка адмовіўся ад балаціроўкі на чарговую кадэнцыю. З іншага боку, уласнай зразумелай альтэрнатывы апазіцыя прапанаваць (і навязаць яе ўладзе) не здольная. Калектыўны энтузіязм з нагоды перамогі «лісіцаў» (так часта называюць алжырскіх гульцоў) можа надаць народным выступам новы імпульс.

У тым ліку таму, што шмат хто з алжырцаў бачыць у апошніх падзеях нейкую фатальную заканамернасць. Так склалася, што гэта — другі кубак CAN, які ўзяла зборная Алжыру, і яе першая буйная перамога за апошнія 25 гадоў. Паколькі перамога дзіўным чынам супала з кардынальнымі палітычнымі пераменамі, апазіцыянерамі робіцца катэгарычнае рэзюмэ: «Другому кубку патрэбная новая, Другая Алжырская Рэспубліка!»

# Калі б Гітлера забілі…

Алег НОВІКАЎ

**Праз 75 гадоў пасля замаху на Адольфа Гітлера ў прэсе чамусьці задаліся пытаннем: а што было б, калі ў ліпені 1944-га фюрэр сапраўды сканаў?**



www.fishki.net

**Гітлер наведвае аднаго з афіцэраў, таксама, як і ён, пацярпелага ад няўдалага замаху 23 ліпеня 1944 года. Пасля замаху Гітлер быў не ў стане знаходзіцца цэлы дзень на нагах, бо з ног было вынята шмат асkепкаў (па некаторых дадзеных, больш за 100). Акрамя гэтага, у яго быў вывіх правай рукі (на здымку добра відаць, як ён яе прытрымлівае), абпаленыя валасы на патыліцы і пашкоджаны барабанныя перапонкі. На правае вуха правадыр Трэцяга Рэйху нават часова аглух**

Гісторыкі да гэтага часу спрачаюцца, спрабуючы патлумачыць, чаму бомба, узарваная змоўшчыкамі ў гітлераўскім бункеры 23 ліпеня 1944 года, не забіла фюрэра. Адны кажуць, што ва ўсім вінаватая кантузія ўдзельніка змовы Клаўса фон Штаўфенберга. У яго з-за ранення бракавала пальцаў, і ён не змог замкнуць два блокі выбуховага механізму, які знаходзіўся ў яго партфелі. Іншыя папракаюць усё таго ж фон Штаўфенберга, што ён не пасунуў партфель з бомбай бліжэй да кіраўніка Рэйху.

Так ці інакш, папулярная ідэя пра тое, што Гітлер мог быць забіты. У такім выпадку путч генералаў-змоўшчыкаў атрымаў бы шанец на поспех. У сваю чаргу, немцы таксама, быццам, атрымлівалі б шанец выйсці адносна сухімі з вады.

Непасрэдна схема выратавання выглядала як пачатак перамоваў з заходнімі дзяржавамі з мэтай заключэння сепаратнага міру і працягу вайны з СССР. Дапускаюць, што Чэрчыль з яго антыкамуністычнымі забабонамі мог пачаць дамаўляцца з урадам змоўшчыкаў, каб не пусціць Чырвоную Армію ва Усходнюю Еўропу. Саму ж Германію ў цэлым чакаў бы зневажальны, але мірны дагавор.

Пра тое, што такія сепаратныя перамовы маглі быць паспяховымі, кажа досвед Італіі і Румыніі. Па меры набліжэння лініі фронту мясцовыя кіраўнікі — учарашнія аматары Гітлера — здзяйснялі неймаверныя геапалітычныя кульбіты, ператвараючыся ў паслядоўных антыфа.

Аднак такі падыход мае шмат слабых месцаў. Не толькі таму, што сепаратныя кансультацыі наўрад ці перашкодзілі б СССР завяршыць аперацыю «Баграціён» у Беларусі і выйсці ў канцы лета 1944-га да Віслы. Хаос на фронце, які, напэўна б, справаковаў путч, дапамог бы ім рушыць наперад яшчэ далей.

Акрамя таго, на Захадзе ў той час «руліў» не Чэрчыль, а Рузвельт, які схіляўся да поўнага разгрому нацызму. Вельмі спрэчна, што генералы, якія зрынулі Гітлера, пагадзіліся б на поўную капітуляцыю, увядзенне ў Германію замежных вайсковых фарміраванняў і падпарадкаванне заходнім штабам. Акрамя таго, свае «пяць капеек» дакладна б уставілі французы. Дэ Голь, напэўна б, запатрабаваў не толькі хуткага вываду немцаў з Францыі, але і кампенсацый за акупацыю. Нарэшце, не ўкладаецца ў галаву, як польская падпольная Армія Краёва (АК), чыё кіраўніцтва знаходзілася ў Лондане, магла выступіць на баку Вермахта.

Існуе яшчэ адна праблемка. Калі такі кампраміс паміж Захадам і генераламі быў бы дасягнуты, не зразумела, як на яго б рэагавалі звычайныя немцы, чые мазгі выдатна прачысціла прапаганда Гебельса. Любыя спробы хунты адысці ад гітлераўскай спадчыны маглі справакаваць пратэст на месцах. Некаторыя нават кажуць пра магчымую грамадзянскую вайну ўнутры Трэцяга Рэйху ў выпадку поспеху путчу 23 ліпеня.

**Ва ўмовах «халоднай вайны» ўлады ФРГ баяліся, што прапіска ў нацыянальным пантэоне антыфашыстаў легітымізуе левыя партыі. Давялося шукаць альтэрнатыву, якой аказаліся вельмі правыя па поглядах генералы**

Зрэшты, галоўны контраргумент супраць магчымасці сепаратных дамоваў — ідэалагічнае рэнамэ генералаў-змоўшчыкаў. Іх біяграфіі і перакананні сапраўды б насцярожылі Захад. Справа нават не ў тым, што да 1944-га ўсе яны (за выключэннем аднаго чалавека) верай і праўдай служылі фюрэру. Большасць удзельнікаў змовы адкрыта ненавідзелі Веймарскую рэспубліку і марылі пра рэстаўрацыю ў Германіі дыктату прускага мілітарызму і манархіі.

Яшчэ больш радыкальным па поглядах быў Клаўс фон Штаўфенберг, які зараз лічыцца героем супраціву. Томас Карлаўф — аўтар біяграфіі фон Штаўфенберга, якая выйшла з друку ў красавіку гэтага года, — лічыць, што генерал неўзлюбіў Гітлера, бо той нейкім чынам здрадзіў ідэалам нацыянал-сацыялізму. У гэтым плане не дзіўна, што Штаўфенберг і яго кампанія з'яўляюцца кумірамі нямецкіх новых правых. Прыкрываючыся вядомай фігурай, ім прасцей агітаваць за рэвізію вынікаў Другой сусветнай вайны, адраджэнне нямецкай ідэнтычнасці і гэтак далей.

Падчас цяперашняга юбілею высветлілася, што арганізатары змовы сталі героямі амаль выпадкова. Усё праз акалічнасці палітыкі гістарычнай памяці, якую праводзілі першыя кансерватыўныя ўрады ФРГ. Ва ўмовах «халоднай вайны» ўлады баяліся, што прапіска ў нацыянальным пантэоне антыфашыстаў легітымізуе ў грамадстве левыя партыі. Менавіта камуністы і сацыял-дэмакраты, якія знаходзіліся ў апазіцыі да кансерватараў, складалі касцяк супраціву. Давялося шукаць альтэрнатыву, якой аказаліся вельмі правыя па поглядах генералы.

Забабоны генералаў дазваляюць большасці гісторыкаў сумнявацца ў тым, што поспех путчу 23 ліпеня дазволіў бы змоўшчыкам аператыўна наладзіць дыялог з Захадам. Зрэшты, наўрад ці на гэтым мода на гістарычнае фэнтэзі знікне. Замахі на Гітлера адбываліся і раней. Напрыклад, у ізраільскай прэсе з'явілася тэма пра тое, як выглядала б гісторыя ў выпадку паспяховага замаху на Гітлера да 1939 года. Ці адбыўся б у такім выпадку Халакост, ці захаваўся б у Еўропе вялікі працэнт яўрэйскага насельніцтва, і, нарэшце, як бы гэта паўплывала на лёсы тытульных нацый, калі б паўстала дзяржава Ізраіль? Як бачым, аматарам гістарычных шарадаў ёсць чым заняцца.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ



### Аляксандр Бортнікаў

Падначаленыя дырэктара расійскай Федэральнай службы бяспекі (ФСБ) пачалі аперацыю па ліквідацыі незвычайнай секты, чальцы якой лічаць, што Савецкі Саюз не распаўся.

Сектанты перакананыя, што СССР дэ-юрэ існуе да гэтага часу, а таму ўсе свае абавязкі перад цяперашняй Расіяй і арганізацыямі, якія знаходзяцца ў яе юрысдыкцыі, нібыта можна і не выконваць. На справе гэта азначае адмову ад выплаты падаткаў і рахункаў ЖКГ, што ўжо прыняло ў некаторых рэгіёнах паграажальныя маштабы. Напрыклад, фанаты СССР з Тагілу завінаваціліся камунальнікам больш за сто тысяч долараў.

Калі верыць афіцыёзу, на гэтым аматары СССР спыняцца не збіраліся і рыхтаваліся да ўзброеных захопаў аддзяленняў паліцыі і падатковай службы. Тыя ж крыніцы сцвярджаюць, што ў Ніжнявартаўску фанатыкі пачалі штурмаваць нейкі адміністрацыйны офіс. Аднак, як толькі яны ўвайшлі ў памяшканне, туды ж уварваліся супрацоўнікі спецназа і ФСБ.

Пакуль цяжка меркаваць, наколькі падзеі ў Ніжнявартаўску адпавядаюць зместу прэс-рэлізаў спецслужбаў. Зразумела толькі, што на гэтым справа не спыніцца. Як патлумачылі ў кіраўніцтве ФСБ, бліжэйшым часам аперацыі супраць «сведак СССР» пройдуць у іншых расійскіх рэгіёнах.

Праўда, эфект ад хапуна пакуль сумнеўны. На інтэрнэт-форумах у каментарах да навінаў з Ніжнявартаўску можна сустрэць допісы ў падтрымку сектантаў. «Можна ж людзей зразумець, у СССР такога бардаку не было, чыноўнікі не былі такімі хамамі, як цяпер, баяліся, што іх пад белыя ручкі адправяць на лесапавал ці расстраляюць», — часта пішуць простыя карыстальнікі.



### Міхаэль Мюлер

Напярэдадні 30-й гадавіны аб'яднання Германіі мэр Берліну і чалец Сацыял-дэмакратычнай партыі (SPD) вырашыў вярнуцца да спадчыны Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі (ГДР).

Берлінская мэрыя выкупіла ў прыватнай фірмы вялікі будынак у цэнтры Берліна. Плануецца здаваць 640 кватэраў унутры будынка па нізкіх цэнах. Гэтымі незвычайнымі захадамі берлінскі ўрад мае надзею падарваць спекуляцыі на рынку нерухомасці і арэнды, ад якой пакутуюць жыхары нямецкай сталіцы. Цяпер арэнда аднапакаёўкі ў цэнтры горада пачынаецца ад 850 еўра, і такі варыянт яшчэ трэба знайсці, паколькі рыэлтары намагаюцца штучна падтрымліваць дэфіцыт жылля. Высокую цану арэнды стымулюе таксама тое, што ў горад штогод мігруюць каля 40 тысяч чалавек.

Калі эсдэкі разам з эколагамі і левымі прыйшлі да ўлады ў Берліне ў 2014 годзе, яны паабяцалі выправіць сітуацыю, і нават вырашылі будаваць на перыферыі горада вялікія жыллёвыя комплексы, кшталту нашых спальных раёнаў. Аднак гэта не дапамагло, і цяпер у мэрыі вырашылі заняцца нацыяналізацыяй.

Натуральна, крокі Мюлера не спадабаліся правым партыям. Па іх словах, Мюлер адраджае спадчыну ГДР, калі цэны на кватэры кантраляваліся дзяржавай і не былі рынкавымі. Між тым, праблема высокіх цэнаў на арэнду характэрная не толькі для Берліну. Калі эксперымент у сталіцы будзе паспяховым, Мюлер, відавочна, можа разлічваць на высокія пасады ў нацыянальным кіраўніцтве партыі.

### Дзмітрый Разумкоў



Напэўна, нават для старшыні ўкраінскай прапрэзідэнцкай партыі «Слуга народа» (СН), што трыумфальна перамагла на выбарах у парламент 21 ліпеня, вынік выбараў быў сюрпрызам.

Яшчэ ніколі за часы незалежнасці ніводная палітсіла ва Украіне не дабівалася такой перавагі. Справа ў тым, што палова дэпутатаў Вярхоўнай Рады абіраецца па мажарытарных акругах, дзе традыцыйна галасуюць за мясцовых бізнесменаў або чыноўнікаў, якія здольныя кінуць электарату нейкі бонус. Кандыдаты ад СН былі, як правіла, простымі людзьмі без нейкага рэсурсу. Але дзякуючы партыйнаму брэнду яны перамаглі амаль на ўсіх акругах. Прычым, галасаванне нагадвала генацыд усёй старой палітычнай эліты. У новы парламент не трапілі не толькі прадстаўнікі «рэжыму Майдана», нацыяналісты, але і старыя рэгіяналы.

Зрэшты, Разумкову і Зяленскаму трэба яшчэ давесці, што пасля 21 ліпеня ў краіне сапраўды адбудуцца змены. Эксперты баяцца, што алігархі пачнуць скупляць дэпутатаў з фракцыі СН, якую ў выніку чакаюць дэфрагментацыя і калапс.



Парад польскіх войскаў у Мінску, 1919 год



Юзаф Пілсудскі ў Мінску

# «Барацьба за федэрацыю»

## Сто гадоў таму польскія войскі ўвайшлі ў Мінск



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Стагоддзе таму, у ліпені 1919 года, жаўнеры Юзафа Пілсудскага пасля кровапралітных баёў супраць Чырвонай Арміі ўвайшлі ў сталіцу Беларусі. Паспрабуем разабрацца, што папярэднічала тым падзеям, як Мінск сустрэў польскія войскі і чаму будучая сталіца БССР не апынулася ў межах міжваеннай Польшчы.**



Польскія войскі ўваходзяць у Мінск, жнівень 1919 года

**5 жніўня 1919 года бальшавікі выдалі дырэктыву аб узмацненні абароны Мінска. Аднак гэта іх не ўратавала. У той жа дзень пачаўся польскі наступ. Галоўны ўдар наносіўся з раёна Маладзечна на Паперню**

### Аднавіць ВКЛ

Яшчэ падчас Першай сусветнай вайны польскія сацыялісты на чале з Лявонам Васілеўскім выступалі за стварэнне федэратыўнай польска-літоўска-беларускай дзяржавы. Гэтай ідэі прытрымліваўся і Юзаф Пілсудскі, хоць на яго ціснулі паплечнікі, якія выступалі за інкарпарацыю (жорсткае далучэнне) усходніх тэрыторый былой Першай Рэчы Паспалітай да этнічна польскіх земель. Начальнік польскай дзяржавы разумеў, што толькі стварэнне санітарнага калідора паміж Расіяй (не важна, «белай» ці «чырвонай») і Польшчай дасць апошняй гарантыю захавання незалежнасці, а ў выпадку ваенных дзеянняў — яшчэ і хаўруснікаў у выглядзе беларусаў, літоўцаў і, магчыма, украінцаў.

Пры гэтым, галоўную ролю ў такім федэратыўным саюзе павінна была адыгрываць Варшава. На жаль, працэс фарміравання беларускай нацыянальнай свядомасці ў гэты час знаходзіўся ў пачатковай стадыі, што давала суседзям магчымасці маніпуляваць «беларускім пытаннем» у палітыка-вайсковых гульнях.

У той жа час у Польшчы моц набірала нацыянал-дэмакратычная партыя пад кіраўніцтвам Рамана Дмоўскага, якая выступала за ўключэнне «ўсходніх крэсаў» у склад польскай дзяржавы «без усялякіх саступак нацыянальным меншасцям». Хутка пасля абвяшчэння Польшчай незалежнасці ў Міністэрстве замежных спраў былі створаны Літоўска-Беларускі дэпартамент, які кіраваў Людвіг Каланкоўскі. Новы орган распрацоўваў план «паляпшэння» адносінаў паміж Другой Рэччу Паспалітай і яе ўсходнімі суседзямі. Хутка палякі сутыкнуліся з новай праблемай — як аб'яднаць два нацыяналізмы — беларускі і літоўскі?

Тут важкую ролю адыгрывала гістарычная традыцыя Вялікага Княства Літоўскага. Але «бацька Другой Рэчы Паспалітай», відавочна, не ўлічыў, што ў эпоху нацыянальных дзяржаў цяжка пабудаваць федэратыўнае аб'яднанне, якое грунтуецца толькі на гістарычных традыцыях. Пасля заняцця Вільні ў красавіку 1919 года польскія ўлады стварылі Вайсковае ўпраўленне на тэрыторыях Літвы і Беларусі. Тады ж Юзаф Пілсудскі выпусціў знакаміты зварот «Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага», у якім «начальнік» імкнуўся ўпэўніць мясцовае насельніцтва ў тым, што польскае войска — не захопнікі, а, наадварот, вызваліцелі. Праўда, тэкст быў толькі на польскай і літоўскай мовах, з чаго бачна, з кім імкнуўся дамаўляцца Пілсудскі наконт будучыні тэрыторый «гістарычнай Літвы». Праз месяц было створана Грамадзянскае ўпраўленне. У гэты час польскія палітыкі актыўна шукалі магчымасці арганізацыі перамоваў з літоўцамі. Аднак Коўна патрабавала вярнуць Вільню і іншыя тэрыторыі.

У гэтай сітуацыі важную ролю адыгрываў беларускі фактар. На карысць палякаў гуляла раз'яднанасць беларускіх палітычных эліт у прыватнасці, і мясцовага насельніцтва ўвогуле. Вясной і летам 1919 года польскі Галоўны Штаб актыўна вывучаў настрої насельніцтва Заходняй Беларусі і шукаў цэнтры апоры. Хутка стала зразумела, што беларускія эліты не могуць дамовіцца па пытанні наконт будучыні сваёй краіны. Адны жадалі будаваць Беларусь у федэрацыі з Польшчай, іншыя выступалі за поўную незалежнасць, трэція рабілі стаўку на бальшавікоў. Пры гэтым ніхто з іх не меў рэальнай вайсковай сілы, якая б магла адстаяць незалежнасць і межы беларускай дзяржавы.

### Узяць Мінск

Між тым, пакуль варшаўскія палітыкі разважалі над будучыняй Беларусі, польска-бальшавіцкі фронт падышоў да Вілейкі і Маладзечна. Перад Войскам Польскім ляжаў горад на Свіслачы. Аднак знешнія фактары не давалі палякам магчымасць адразу захапіць беларускую сталіцу. Па-першае, існавала небяспека вайны з Германіяй, па-другое, у гэты час у Галіцыі ішлі жорсткія баі. У ліпені 1919 года польскі Літоўска-Беларускі фронт складаўся з больш чым 43 тысячы жаўнераў, 56 гармат, 400 кулямётаў і 10 самалётаў. Хутка ў Беларусь былі перакінутыя дадатковыя часці Войска Польскага. Польская выведка праз сваіх зафрантавых агентаў ведала, што бальшавікам даводзілася агаляць свой фронт у сувязі з тым, што на тэрыторыі Расіі адбываліся баі супраць «белых». Дзякуючы дзейнасці польскіх выведнікаў, польскі штаб дакладна «разумеў» месца дыслакацыі 52-й дывізіі Чырвонай Арміі, якая абараняла горад на Свіслачы.

План наступу на Мінск распрацоўваў камандуючы Літоўска-Беларускім фронтам Войска Польскага, генерал Станіслаў Шэптыцкі. Першапачаткова планавалася распачаць наступ 22 ліпеня 1919 года, аднак з-за спазнення некаторых польскіх часцей ад гэтай ідэі давялося адмовіцца. 3 жніўня 1919 года на вакзал у Маладзечне прыбылі першыя эшалоны вялікапольскіх войскаў.




Магіла чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1919 годзе пад Заслаўем

Паводле плана Шэптыцкага, у выніку імгненнага ўдару польскія войскі павінны былі атачыць праціўніка, разбіць яго і ўвайсці ў сталіцу Беларусі. 1-я Вялікапольская дывізія і 2-я дывізія пяхоты легіёнаў павінны былі наступаць уздоўж чыгункі Маладзечна–Мінск. 2-я літоўска-беларуская брыгада павінна была наступаць на Мір–Нясвіж і Слуцк. 3-я брыгада мела загад рухацца на Ішкальдзь. У сваю чаргу, 1-я брыгада павінна была змагацца супраць бальшавікоў у накірунку Баранавічы–Мінск. У задачу польскіх кавалерыйскіх часцей уваходзіла прасоўванне ўглыб тэрыторыі Беларусі на Палессі.

## Ад Заслаўя да Віленскага вакзала

5 жніўня 1919 года бальшавікі выдалі дырэктыву аб узмацненні абароны Мінска. У прыватнасці, чырвонаармейцы павінны былі арганізаваць пазіцыі ў раёне Радашковічы–Ракаў. Аднак гэта іх не ўратавала. У той жа дзень пачаўся польскі наступ. Галоўны ўдар наносіўся з раёна Маладзечна на Паперню. Пасля жорсткіх баёў у раёне вёскі Дворышча польскім войскам удалося фарсіраваць раку Цна і наблізіцца да Мінска. 7–8 жніўня 1919 года часці Войска Польскага фарсіравалі раку Пліса. Пасля жорсткага бою і захопу бальшавіцкіх пазіцый падраздзяленні вялікапольскай дывізіі ўвайшлі ў Заслаўе, а 15-ты вялікапольскі ўланскі полк пад камандаваннем Уладзіслава Андэрса распачаў наступ на Смалявічы.

Асаблівая роля ў штурме сталіцы БССР адводзілася польскаму штурмавому батальёну пад камандаваннем паручніка Аляксандра Ставажа. Гэтае падраздзяленне, пасля фарсіравання Цны, павінна было наступаць у накірунку Паперня–Цнянка–Мінск. Паводле разлікаў польскай выведкі, у горадзе на Свіслачы было каля трох тысяч чырвонаармейцаў, 7 браневікоў і бронецягнік.

Група польскіх войскаў, якая наступала ў раёне Мір–Нясвіж, наткнулася на жорсткі супраціў чырвонаармейцаў. Аднак 10 жніўня палякі ўсё ж прабіліся да Слуцка. Польскія часці, якія наступалі з боку Баранавічаў, захапілі мост ля Стоўбцаў, што дазволіла паскорыць рух на Мінск. Польскія войскі пад камандаваннем Эдварда Рыдз-Сміглы захапілі Вілейку і працягвалі рухацца на ўсход. Сітуацыя для бальшавікоў была катастрафічнай.

Узгаданы польскі ўдарны батальён (8 афіцэраў і 32 радавых), які павінен быў першым увайсці ў Мінск, быў узмоцнены кулямётамі, пяхотнікам раздалі па 15 ручных гранат і па 40 патронаў да вінтовак. Напярэдадні атакі камандаванне батальёна падрабязна вывучыла план Мінска, які даставілі агенты Польскай вайсковай арганізацыі.

Паводле плана, тры калоны польскіх жаўнераў з баямі павінны былі ўвайсці ў горад і адрэзаць шашу на Бабруйск, каб не даць магчымасць бальшавікам адступіць з горада. 8 жніўня 1919 года ў 5 гадзін раніцы палякі пайшлі ў наступ. Аднак бальшавікі сустрэлі ворага агнём браневіка. Польскія жаўнеры закідалі бронемашыну гранатамі і рушылі наперад. Польскі наступ падтрымлівала артылерыя. На вуліцы Аляксандраўскай палякаў абстралялі бальшавіцкія кулямёты і прымусілі часова заняць абарону. Час ад часу чырвонаармейцы атакавалі палякаў з дапамогай браневікоў. Польскія пяхотнікі падарвалі адну з бронемашын, прарваліся на вуліцу Губернатарскую і працягвалі наступ у бок чыгуначнага вакзала. Убачыўшы адзін з пасажырскіх цягнікоў, які адыходзіў у бок Барысава, польскія жаўнеры пачалі кідаць у яго гранаты. Раздаліся выбухі, але цягнік не спыніўся і здолеў вырвацца з горада. Аказалася, што на ім збег на ўсход штаб 17-й стралковай дывізіі РСЧА, супрацоўнікі мінскай «ВЧК» і іншыя прадстаўнікі бальшавіцкай вертыкалі.

Хутка быў захоплены Віленскі вакзал, дзе польскімі трафеямі сталі 8 паравозаў і 90 вагонаў. У 12-30 8 жніўня 1919 года Мінск быў канчаткова заняты польскімі войскамі. У польскі палон трапіла вялікая колькасць чырвонаармейцаў. Варта адзначыць, што бальшавікі бок, нягледзячы на адсутнасць пісьменнага камандавання, спрабаваў арганізаваць эфектыўную абарону, чым даў магчымасць эвакуявацца з горада штабам і адміністрацыі. Пры гэтым трэба ўлічваць, што палякам дапамагалі падпольшчыкі з Польскай вайсковай арганізацыі.

## Пілсудскі ў Мінску

Хутка быў прызначаны вайсковы камендант горада. Ім стаў палкоўнік Войска Польскага Здзіслаў Раабе. Ужо 9 жніўня ў Мінск са штабам Літоўска-Беларускай дывізіі прыбыў генерал Станіслаў Шэптыцкі. Ля Ратушы яго сустракалі шэрагі жаўнераў-велькапалян. 10 жніўня ў горадзе на Свіслачы адбыўся польскі парад. Хутка Мінск наведаў і Юзаф Пілсудскі.



Помнік польскім жаўнерам, якія загінулі ў баях 1919 года ў Радашковічах

**Рыжская дамова канчаткова пахавала ідэі федэралізму. Кіраўнік бальшавіцкай дэлегацыі ў Рызе Адольф Ёфэ быў гатовы пагадзіцца на ўваход у склад Польшчы… Мінска. Аднак супраць гэтага выступіў чалец польскай дэлегацыі Станіслаў Грабскі, які быў праціўнікам федэралісцкай палітыкі**

«Выглядаем з акна, і сапраўды ля гатэля стаць вялікая машына. Выбегаем з пакоя — і ў калідоры, на лесвіцы сустракаем Каменданта (Ю. Пілсудскага), запыленага і стомленага, але вясёлага і задаволенага тым, што Мінск узяты […] Камендант выдае загад — адрэзаць шляхі адыходу бальшавікоў на Барысаў і Бабруйск», — узгадваў ва ўспамінах польскі генерал Складкоўскі. Ужо 9 жніўня 1919 года Пілсудскі выехаў у Вільню, а адтуль у Варшаву. 19 верасня 1919 года «начальнік польскай дзяржавы» зноў наведаў горад на Свіслачы і выказаўся, што «лёс гэтай краіны (Беларусі) ляжыць у руках яе жыхароў».

## Цэнтр аб'яднання Беларусі

Польскія войскі знаходзіліся ў Мінску амаль год. 4 ліпеня 1920 года Заходні фронт Чырвонай Арміі пад камандаваннем Міхаіла Тухачэўскага перайшоў у наступленне і ўжо 11 ліпеня 1920 года заняў Мінск. Потым быў жнівеньскі «Цуд над Віслай», калі Войска Польскае разбіла бальшавікоў у баях пад польскай сталіцай, і вяртанне польскіх жаўнераў у Беларусь.

12 кастрычніка 1920 года Мінск зноў аказаўся ў руках польскіх жаўнераў. У Латвіі ў гэты час ужо адбываліся польска-бальшавіцкія перамовы па справе заключэння міру. 12 кастрычніка 1920 года была падпісана прэлімінарная мірная дамова, якая ўвайшла ў сілу 18 кастрычніка. Пры гэтым польскія войскі адышлі на захад, за дэмаркацыйную лінію. 18 сакавіка 1921 года паміж Другой Рэччу Паспалітай і бальшавіцкай Расіяй была падпісана канчатковая мірная дамова, якая вызначыла польска-бальшавіцкую мяжу і замацавала падзел Беларусі на дзве часткі. Рыжская дамова канчаткова пахавала ідэі федэралізму, якіх прытрымліваўся Юзаф Пілсудскі. Кіраўнік бальшавіцкай дэлегацыі ў Рызе Адольф Ёфэ быў гатовы пагадзіцца на ўваход у склад Польшчы… Мінска.

Аднак супраць гэтага выступіў чалец польскай дэлегацыі Станіслаў Грабскі, які быў праціўнікам федэралісцкай палітыкі. Лявон Васіеўскі, у сваю чаргу, падкрэсліваў, што, «калі ўжо немагчыма пазбегнуць небяспечнага для Польшчы ўплыву савецкай Украіны на ўкраінскую меншасць у Малапольшчы, то трэба пазбегнуць утварэння антыпольскай савецка-беларускай кавальні на поўначы». Аднак яго пагляд у Рызе быў непапулярным.

У міжваенны час Мінск (да вайны горад называўся Менск) стаў сапраўдным цэнтрам беларускага жыцця. Разам з тым, гэты чыннік актыўна выкарыстоўвалі бальшавікі ў сваёй дзейнасці супраць суседняй Польшчы. Улады Другой Рэчы Паспалітай зрабілі шмат памылак у сваёй нацыянальнай палітыцы на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Гэта паўплывала на тое, што значная частка жыхароў Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў разглядалі Мінск як цэнтр аб'яднання Беларусі. Як вядома, у верасні 1939 года горад на Свіслачы ім і стаў.



**Do mieszkańców byłego W. Księstwa Litewskiego.**

Kraj Wasz od stukilkudziesięciu lat nie zna swobody, uciskany przez wrogą przemoc rosyjską, niemiecką, bolszewicką — przemoc, która nie pytając ludności, narzucała jej obce wzory postępowania, krępujące wolę, często łamiąc życie.

Ten stan ciągłej niewoli dobrze mi znany osobiście, jako urodzonemu na tej nieszczęśliwej ziemi raz nareszcie musi być zniesiony i raz wreszcie na tej ziemi jakby przez Boga zapomnianej musi zapanować swoboda i prawo wolnego, niczem nieskrępowanego wypowiedzenia się o dążeniach i potrzebach.

Wojsko Polskie, które ze sobą przyprowadziłem dla wyrzucenia panowania gwałtu i przemocy, dla zniesienia rządów krajem wbrew woli ludności — wojsko to niesie Wam wszystkim wolność i swobodę.

Chcę dać Wam możność rozwiązania spraw wewnętrznych narodowościowych i wyznaniowych tak, jak sami sobie życzyć będziecie bez jakiegokolwiek gwałtu lub nacisku ze strony Polski.

Dlatego to, pomimo że na Waszej ziemi grzmią jeszcze działa i krew się leje — nie wprowadzam Zarządu Wojskowego lecz cywilny, do którego powoływać będę ludzi miejscowych, synów tej ziemi.

Zadaniem tego Zarządu Cywilnego będzie:

1) Ułatwienie ludności wypowiedzenia się co do swego losu i potrzeb przez swobodnie wybranych przedstawicieli. Wybory te odbędą się na podstawie równego, tajnego, powszechnego, bezpośredniego, bez różnicy płci głosowania.

2) Danie potrzebującym pomocy w żywności, poparcie pracy wytwórczej, zapewnienie ładu i spokoju.

3) Otoczenie opieką wszystkich nie czyniąc różnicy z powodu wyznania lub narodowości.

Na czele Zarządu postawiłem Jerzego Osmołowskiego, do którego bezpośrednio, lub do ludzi przez niego wyznaczonych zwracajcie się otwarcie i szczerze we wszelkiej potrzebie i sprawach, które Was bolą i obchodzą.

J. Piłsudski.

Wilno, 22 kwietnia 1919 r.

**Buvusios Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gyventojams.**

Nuo šimto su viršum metų Jųsų Kraštas nemato laisvės slėgiamas priešingos jiegos rusų, vokiečių, bolševikų, kurie gyventojų nesiklausdami užmesdavo jiems svetimus elgimosi pavyzdžius, varžančius jų valią, laužančius dažnai gyvybę.

Tas nuolatinis nelaisvės stovis, žinomas gerai kaipo gimusiams šitam nelaimingam krašte, galop turi užsilaigti ir ant tos, lyg Dievo užmirštos, žemės turi užviešpatauti laisvė ir teisė liuosai, be jokios prievartos, išreikšti savo palinkimus ir reikalus.

Lenkų Kariumenė, kurią su savim atvedžiau, kad išmetus prievartos viešpatavimą, kad panaikinus krašto valdymą prieš gyventojų norą, toji Kariumenė neša Jums visiems laisvę.

Aš noriu sutverti išligas išrišti vidujinius tautinius ir tikėjimo reikalus tokiu budu, kokiu patįs panorėsit, be jokios prievartos ar varžymo nuo Lenkijos.

Taigi, nežiurint to, kad Jųsų žemėje dar griauna Kanuolės ir liejasi kraujas, įvedu ne Karo bet Civilinę Valdybą, kurion šauksiu vietos gyventojus, tos žemės sunus.

Tos Civilinės valdybos uždaviniu bus:

1) Padėti gyventojams tart žodį apie savo likimą ir reikalus per lupas liuosai išrinktųjų atstovų. Tie rinkimai bus atlikti visuotinuoju, lygiu, slaptu, betarpišku, be lyties skirtumo, balsavimu.

2) Suteikti reikalaunantiems pašalpų maistu, paremti produktivį darbą įvesti tvarką ir ramybę.

3) Globoti visus be skirtumo tikėjimo ar tautos.

Valdybos pryšakyje pastačiau Jurgį Osmolovskį; su visais reikalais, kurie Jums rupi ir skauda, kreipkities atvirai į jį tiesiai ar į žmones, jo paskirtus.

J. Piłsudski.

Vilnius, 22 balandžio 1919 m.

Адозва Пілсудскага да жыхароў былога ВКЛ

# Брэстчына літаратурная

## Да 1000-годдзя Брэста



**Па гарызанталі:** 1. ... Мікалай Чорны. Прозвішча канцлера ВКЛ, берасцейскага старасты, які заснаваў у Брэсце першую на Беларусі друкарню, дзе ў 1568 годзе была надрукаваная «Берасцейская біблія», помнік беларускага кнігадрукавання. 4. Уладзімір ... Прозвішча вядомага пісьменніка, прафесара, які доўгі час кіраваў брэсцкім літаратурным аб'яднаннем. 8. «Вось — гвалтоўны гісторыі ход: // пагарджаны вякамі народ, // што душою аглух і аслеп, // плюне ў мову, і ў ... свой, і ў герб». З верша «Напярэдадні рэферэндуму 15 мая 1995 года» Алеся Каско, ураджэнца Ганцаўшчыны, які ў свой час быў кіраўніком брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў. 9. «Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор, і гэты твор — ...», — казаў паэт Алесь Разанаў, ураджэнец Бярозаўскага раёна. 10. Раскідванне насення на глебу. 15. «Без крывінкі матчынае слова: // Кнігаўку чужы дзярэ ...». З верша «Матчынае слова» паэта, ураджэнца Ганцаўшчыны Віктара Гардзея, землякі якога ў вёсцы Малыя Круговічы пры жыцці паэта перайменавалі вуліцу Суворава ў вуліцу імя Віктара Гардзея. 16. «Малая падарожная ...». Твор, які Францыск Скарына выдаў у Вільні ў 1522 годзе. 17. ... Нямцэвіч. Імя польскі пісьменніка, гісторыка, які нарадзіўся ў вёсцы Скокі, побач з Брэстам. У час паўстання 1794 года служыў сакратаром і ад'ютантам у Тадэвуша Касцюшкі, быў удзельнікам паўстання 1830–1831 гадоў. 19. Музычна-драматычны твор. 29. Ліпень — ...: шчодры на духмяныя ягады (прыказка). 23. Менахем ... Прозвішча ўраджэнца Брэста, Нобелеўскага лаўрэата, сёмага прэм'ер-міністра Ізраіля, аўтара шэрагу кніг і артыкулаў. У Брэсце яму ўсталяваны помнік. 24. Вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы, які Брэсту, першаму з гарадоў Беларусі, дараваў у 1390 годзе Магдэбургскае права. 26. Ад дажджу травы расцвітаюць, ад песні — ... (прыказка). 29. Напрамак у літаратуры і мастацтве ў XVII – XIX стагоддзях. 32. Хачу такое ..., каб не было часу для інтэрнэта (жарт). 33. «... на мох, бы ягнё, прылёг // Ля бярозаў у белай адзежы. // Калі недзе існуе Бог, // тут ён, пэўна, у Белавежы». З верша Ларысы Геніюш «Белавежа». Сёлета — 610 гадоў, як Белавежская пушча набыла статус запаведнай. 34. «А Купалка зноў гукае. // Цёмнай ночкі не баіцца, // Кветку-... шукаць». З верша «Купальскае» Ніны Мацяш, ураджэнкі Бярозаўскага раёна. 35. Вёска ў Іванаўскім раёне, адкуль паходзіць старажытны беларускі род рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага.

**Па вертыкалі:** 1. Тое, што і малюнак. 2. Псаломшчык. 3. «Хай кроў кіпіць і трэскаюцца жылы, // І засцяць ... слёзы мне і боль». З паэмы «Курапаты – 57» Анатоля Дэбіша, жыхара Брэста. 5. Старадаўні струнны шчыпковы музычны інструмент. 6. Інертны газ. 7. Вялікая балотная птушка. 11. «Ды калі ты не бязродны ... — // Гавары са мной па-беларуску». З верша «Будзе слоту абвяшчаць прагноз» Яўгеніі Янішчыц, ураджэнкі Пінскага раёна. 12. Неядавітая змяя. 13. Філолаг (устарэлае). 14. ... Грыбаедаў. Імя расійскага паэта, драматурга, дыпламата, літаратурная дзейнасць якога пачалася, калі ён служыў у Брэсце. У часопісе «Веснік Еўропы» з'явілася яго першая публікацыя «Пісьмо з Брэст-Літоўска». 16. «І прасвечваюць нашыя сэрцы // Каліноўскі, ... , народ». З верша Яўгеніі Янішчыц «І прасвечваюць нашыя сэрцы». 18. Народная эпічная песня пра багатыроў. 21. Расцяпа (размоўнае). 22. Асаблівасць мовы. 25. Аб'ява аб спектаклі, канцэрце. 27. ... Ажэшка. Імя польскай пісьменніцы, якая доўгі час жыла на Брэстчыне; у часы паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага актыўна дапамагала паўстанцам, адгалоскі чаго адчуваюцца ў яе аповесці «Нізіны». 28. Бязлесная роўная прастора. 30. Псаванне ў працэсе выкарыстання. 31. У латышскай міфалогіі — лятучы дракон, які прыносіць багацце.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Рыцар сумлення і свабоды» (НЧ №23 ад 21 чэрвеня):**

**Па гарызанталі:** 1. Бычкі. 5. Пракоп. 8. Вышыня. 11. Час. 13. Лаўрэат. 14. Лета. 18. Сонца. 19. Глава. 20. Раман. 21. Друза. 22. Кіно. 23. Пясочак. 27. Зык. 30. Дарога. 31. Мінёры. 32. Актэт.

**Па вертыкалі:** 1. Бог. 2. Клас. 3. Жыта. 4. Тыгр. 6. Рух. 7. Перадавая. 9. Яма. 10. Беларусы. 12. Арнамент. 15. Астракізм. 16. Ганна. 17. Згода. 24. Ярд. 25. Охра. 26. Арго. 27. Знак. 28. Мир. 29. Кіт.

# БагатаДата

**Як Менск стаў Мінскам і хто адмовіўся вяртаць сталіцы гістарычную назву? Калі мы павінны адзначаць Дзень Незалежнасці? Колькі ў СССР было жанчын-дырыжорак? Гэтыя і іншыя цікавосткі — у чарговым аглядзе.**

### 27 ліпеня

Ранейшы **Дзень Незалежнасці Беларусі,** які адзначаўся ў дзень прыняцця ў 1990 годзе Вярхоўным Саветам, тады яшчэ БССР, Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце.

**1824.** Пачалося будаўніцтва Аўгустоўскага канала. Гэтае гідратэхнічнае суднаходнае збудаванне злучае рэкі Віслу і Нёман на тэрыторыі Польшчы і Беларусі. Даўжыня — 101,2 кіламетра. Пачынаецца канал каля польскага Аўгустова — адсюль і назва.

**1899.** У мястэчку Груздзжай Шаўляйскага раёна Літвы нарадзіўся Станіслаў Ваупшасаў, імем якога названая вуліца ў Мінску. Ён быў савецкім разведчыкам на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1920-я гады, фарміраваў дыверсійныя групы падчас савецка-фінскай вайны, у Другую сусветную камандаваў партызанскім атрадам. Пасля вярнуўся на працу ў цэнтральны апарат НКУС. Герой Савецкага Саюза.

**1984.** У Мінску памёр беларускі і ўкраінскі оперны спявак Зіновій Бабій. Выступаў у оперных тэатрах Кіева, Львова ды Мінска.

### 28 ліпеня

**Дзень работнікаў гандлю** ў Беларусі (адзначаецца ў апошнюю нядзелю ліпеня), а таксама Сусветны дзень барацьбы з гепатытам.

**1944.** Брэст быў вызвалены ад фашыстаў — і такім чынам скончылася вызваленне тэрыторыі Беларусі.

### 29 ліпеня

**1939.** Вярхоўны Савет БССР на хвалі русіфікацыі і рэпрэсій супраць нацыянальнай інтэлігенцыі прыняў рашэнне перайменаваць сталіцу Менск у Мінск. У 1991 годзе Мінскі гарсавет прапанаваў Вярхоўнаму Савету незалежнай Беларусі вярнуць старую назву, але той прагаласаваў супраць.

### 30 ліпеня

**Міжнародны дзень барацьбы з гандлем людзьмі.**

### 31 ліпеня

**1649.** Адбылася бітва пад Лоевам падчас казацкай вайны — паўстання Багдана Хмяльніцкага. Войска Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам польнага гетмана ВКЛ Януша Радзівіла перамагло казацка-сялянскае, якое было ўтрая большым. Але і ўрадавая армія зазнала вялікія страты — у бітве была знішчана палова войска.

**1949.** У ЗША было створана Беларуска-амерыканскае Задзіночанне.

**1989.** У Мінску нарадзілася найлепшая тэнісістка ў гісторыі Беларусі Вікторыя Азаранка. Нейкі час была нават першай ракеткай свету: узначальвала рэйтынг WTA — Жаночай тэніснай асацыяцыі.

### 1 жніўня

**1914.** З абвяшчэння Германіяй вайны Расіі для беларусаў пачалася Першая сусветная вайна. Усяго ў яе былі ўцягнутыя тры дзясяткі краінаў. Стаўка галоўнакамандуючага Расійскай імперыі размясцілася ў нашых Баранавічах, а праз год, калі фронт апынуўся на беларускай тэрыторыі, яе перасунулі ў Магілёў. Наступствы той вайны для нашых продкаў — мільёны загінулых і ўцекачоў.

**1964.** У Мінску нарадзілася Наталля Шыколенка, чэмпіёнка свету 1995 года і сярэбраная прызёрка Алімпійскіх гульняў у Барселоне 1992 года ў кіданні дзіды. Спартоўка года Беларусі–1995.

### 2 жніўня

**Дзень дэсантнікаў і сілаў спецыяльных аперацый** у Беларусі.

**1914.** У Санкт-Пецярбургу нарадзілася Тацццяна Каламійцава, адзіная жанчына-дырыжор у БССР і адна з дзвюх дырыжорак у СССР.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1167

Падпісана да друку 26.07.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.